

J.R.R.

# TOLKIEN

# THE HOBBIT

An illustrated edition of the fantasy classic

Illustrated by
David Wenzel

Adapted by
Charles Dixon with Sean Deming

BALLANTINE BOOKS NEW YORK

У нары ў зямлі жыў хобіт. І была гэта не сырая, брудная ды цёмная нара, не сухая зямлянка, а нара хобіта, а значыць – утульная ды вельмі добра ўладкаваная.

Гэтая хобітавая нара была ў Строме, як называлі той пагорак людзі на шмат вёрстаў наўкол. А хобіта звалі Торбінс.

Торбінсы карысталіся вялікай павагай наваколля, і не столькі за сваю заможнасць, колькі за адметна спакойны характар.

Гэта гісторыя пра тое, як Торбінс трапіў-такі ў авантуру, дзе рабіў і казаў рэчы цалкам нечаканыя.

Што ж такое хобіт?

Здаецца мне, трэба прамовіць колькі словаў пра хобітаў, бо цяпер іх сустрэнеш не часта, ды і пазбягаюць яны Дайгалыгіх (так яны нас клічуць).

Яны ёсць малым народцам, меншымі за гномаў. Хобіты звычайна тайставатыя, апратку любяць яркіх колераў, абуткам не карыстаюцца, бо падэшвы ў іх шорсткія, а ногі зараслі густым валоссем, як на галаве.

Матуляй гэтага канкрэтнага хобіта – Більба Торбінса, была знакамітая Беладона Хват! Час ад часу хто-небудзь з сямейства Хватаў скіроўваўся вандраваць ды шукаць прыгодаў. Звычайна яны зніклі, а сям'я справы прыцішвала. Але ўсё ж Хватаў паважалі менш, чым Торбінсаў.

Аднак жа магчыма, што Більба, які выглядам ды паводзінамі быў дакладнай копіяй свайго салíднага ды паважнага бацькі, атрымаў каліва дзівосаў з Хватавага боку, якое толькі чакала часу, каб праявіць сябе.

Ой...


Добры дзень!
Што гэта значыць? Ты жадаеш мне добрага дня? Ці, магчыма, паведамляеш, што дзень добры, хачу я таго ці не, альбо ты адчуваеш сябе добра гэтым днём альбо зычыш дню быць добрым?

Усё разам.

Дзень сапраўды добры, асабліва для люлькі тытуньку на двары. Сядайце, пачастую вас тытунём!

Нядрэнна. Але ж я не маю часу пускаць дым гэтай раніцай. Я шукаю асобу для прыгоды, што збіраюся хутка пачаць, а героя знайсці нялёгка.










Колькі ж гатункаў у твайго "добрага дня"!
Зараз, напрыклад, гэта значыць, што мне лепей сысці, і тым лепей, чым хутчэй.


Не, не, не, шаноўны пане, што вы! Але ж я не ведаю вашага прозвішча…
Але ты яго ведаеш, Більба Торбінс, хоць і не памятаеш, што яно належыць мне.


Я – Гэндальф, і Гэндальф – гэта я!
Уявіць сабе, што дажыву да часу, калі сын Беладонны Хват будзе адчапляцца ад мяне "добрым днём", быццам я гузікі прадаю!


Гэндальф! Той самы вандроўны чараўнік, які заўсёды распавядаў гісторыі пра цмокаў, гоблінаў ды веліканаў, пра ўратаваных прынцэс ды нечаканае шчасце сыноў бедных удоваў!


Няўжо той самы Гэндальф, з-за якога такая колькасць добрых хлапцоў і дзяўчат сышлі невядома куды, шукаючы дурных прыгодаў!


Прыемна чуць, што пра цябе нешта памятаюць.
Я мяркую, што гэтым разам далучу цябе да гэтай прыгоды!
Цікава для мяне, карысна для цябе – дый прыбыткова, калі дажывеш да канца.


Прабачце! Не жадаю я прыгодаў, вялікі дзякуй!
Добры дзень Вам! Але ж заходзьце на гарбату ў любы час! Чаму не заўтра? Да пабачэння!



І чаму я выдумай запрасіць яго на гарбату?

Heh
Heh
Heh Heh

SKRIIITCH
SKRITCH

Назаўтра Більба амаль забыўся пра Гэндальфа…
Бацюхны! Гэндальф!
DING-A-DING

DING-A-DING

DING-A-DING

Прашу прабачэння…
Ох!

Балін, да вашых паслугаў!
Двалін, да вашых паслугаў!
Більба Торбінс да вашых!
Я якраз збіраўся піць гарбату, запрашаю вас, пачастуйцеся разам са мной.
Можаце не зачыняць, спадар Торбінс.
Астатнія хутка падыдуць.
Астатнія?
DING-A-LING
Гэндальф! Нарэшце Вы прыйшлі!
Кілі, да вашых паслуг!
Філі!
Заходзьце, пачастуйцеся гарбатай!
DING-DONG-A-LING-DANG
Нехта за дзвярыма!
Пяцёра, мяркуючы па звоне.
Доры, да вашых паслуг!
І Норы!
І Оры!
І Ойн!
І Глойн!



Асцярожна!
Гэта зусім не падобна да цябе – прымусіць сяброў чакаць на ганку, а потым адчыніць дзверы, быццам пастку! Дазволь прадставіць табе Біфура, Бафура, Бамбура…




Я страшна выбачаюся за ўсё, што здарылася… Разумееце, гэта найбольш незвычайная серада за ўсё маё жыццё!
Не варта клопату.

Ну, цяпер мы ўсе на месцы! Добрая кампанія!
Спадзяюся, і нам знойдзецца чым падсілкавацца ды што выпіць?

О, Божа! Гарбата!

Цішэй! Торын кажа!
Дарўйце.
Гэндальф, гномы і спадар Торбінс. Мы сустрэліся ў доме нашага сябра і хаўрусніка, найбольш выдатнага ды дзёрзкага хобіта.

Хаўрусніка?
Няхай ніколі не выпадзе поўсць на яго нагах! Хвала і пашана ягонаму віну і элю!


Сустрэліся мы, каб абмеркаваць нашыя планы, нашыя шляхі, мэты хітрыкі і прыстасаванні. Вельмі хутка мы пачнем нашу доўгую вандроўку…
…вандроўку, з якой некаторыя з нас, магчыма, не вернуцца.


Не вернуцца?!


Баюся, нашага гаспадара мы страцілі.


Фу. Як мяркуеце, ён падыходзіць? Як толькі гэты тайстун плюхнуўся на падлогу, я адразу ж засумняваўся!
Ён на лавачніка падобны, а не на ўзломшчыка.


Даруйце, вы сказалі "ўзломшчыка"?
Так. Я казаў пра вас. Гэндальф нам паведаміў, што ў гэтых мясцінах ёсць узломшчык, які шукае працы, і што ён ладзіць сустрэчу тут, у сераду, пад час гарбаты.
На вашых дзвярах быў знак, звычайны ў нашай прафесіі: "Узломшчык жадае знайсці працы, з добрай узнагародай і цікавую"
Узломшчык?
Можаце казаць "эксперт-паляўнічы клейнотаў", нам усё адно.


Не трэба больш спрачацца. Калі я сказаў, што ён будзе ўзломшчыкам— значыць, ён узломшчык ці будзе ім, калі час надыдзе. У ім ёсць значна больш, чым вам здаецца, і нават больш, чым ён сам сабе ўяўляе.
Цяпер жа, Більба, хлопчык, прынясі лямпу, зірнем сюды на…

… гэта!
Гэтая мапа была зроблена тваім дзедам Трорам, Торын. Гэта план Гары, дзе Стары Драк сабраў усе скарбы вашых продкаў і спіць на іх як на ложку.
Чырвоным адзначана, што на Гары – цмок. Але яго і так няцяжка знайсці, калі дабяромся.
Вось гэтая рука паказвае на руну, якой адзначаны тайны праход да Ніжніх Заляў.
Таемным ён быў. Ды адкуль жа нам ведаць, ці застаўся ён таемны.
Стары Драк жыў там досыць часу, каб усё выведаць пра тыя пячоры.
Магчыма, але ж ён не карыстаўся ім доўгія гады.
"Пяць лакцёў у вышыню дзверы, трое могуць ісці побач" – гаворыцца ў рунах. Драк не змог бы прапаўзці ў гэтую дзірку нават калі быў малады, не тое што цяпер, калі зжэр столькі гномаў ды людзей.
Мне гэта здаецца вялікай дзіркай. Як магчыма схаваць такія вялікія дзверы?
Здаецца мне, што гэтыя дзверы выглядаюць у дакладнасці як схіл Гары.
Разам з мапай быў і ключ, маленькі і надта цікавы. Вось! Беражыце яго!
Так, буду берагчы! А зараз можа наш эксперт узломшчык прапануе якую ідэю?
Перш за ўсё я жадаю ведаць больш пра справу. Я маю на ўвазе цмока, золата і ўсё іншае, і як яно туды трапіла, і каму належыць, і да таго падобнае.


Шмат часу таму мой дзед Трор пакінуў далёкую Поўнач і скіраваўся з усім багаццем і інструментамі да гэтай гары, адзначанай на мапе.
Знайшоў яе яшчэ наш далёкі продак, Трэйн Стары, але ж зараз яны капалі і рылі, і зрабілі вялікія залі і яшчэ большыя майстэрні і, як я мяркую, знайшлі досыць золата і каштоўных камянёў.
Так ці інакш, яны атрымалі вялікае багацце, і мой дзед зноў зрабіўся Каралём-пад-Гарой.
Мы гандлявалі з людзьмі Дола і іншымі, што жылі далёка на поўдзень па берагах Струмяніцы, і так залі майго дзеда напоўніліся латамі, зброяй, золатам і кубкамі.
Безумоўна, гэта і прывабіла цмока. Цмокі крадуць золата і каштоўныя камяні паўсюль, дзе толькі знойдуць, і пільнуюць іх усё жыццё (фактычна вечна, калі іх не заб'юць), і ніколі не выкарыстаюць і меднага пярсцёнка.
Аднойчы адзін асабліва хцівы, моцны і зламысны цмок Драк наляцеў з Поўначы. Дол быў зруйнаваны, цмок выбіў нас з Гары і завалодаў усімі скарбамі нашых продкаў.
Але мы ўсё яшчэ прагнем іх вярнуць і прынесці нашыя праклёны Драку – калі здолеем.


Цяпер я бачу, што мае бацька і дзед ўратаваліся праз таемны ход, пра які ведалі толькі яны. Але я хацеў бы дазнацца, як Гэндальф завалодаў мапай, калі яна павінна належыць мне, законнаму спадкаемцу.
Я не "завалодаў" ёй. Яна была мне дадзеная. Твой дзед Трор быў забіты ў шахтах Морыі, як ты памятаеш, гоблінам Азогам.
Твой бацька вырашыў паспытаць шчасця з мапай, але ж да Гары так і не дабраўся.


Твой бацька даў яе мне, каб я перадаў табе. Я знайшоў яго ў турме Некраманта. Як ён туды трапіў — не ведаю. Я спрабаваў выратаваць яго, але спазніўся.
Ён страціў розум, памятаў толькі пра ключ і мапу. Гэта была непрыемная прыгода. Нават я, Гэндальф, ледзь уратаваўся.


Вось, трэба сказаць, што вы павінны рушыць на ўсход і паглядзець на месцы. У рэшце рэшт, ёсць Бакавыя Дзверы, і цмокі павінны калі-небудзь спаць.
А калі сядзець на ганку пэўны час, дык абавязкова што-небудзь ды прыйдзе вам у галаву.


Ты хацеў сказаць — прыйдзе нам у галаву.
Ці сядзець на ганку — не праца ўзломшчыка, не кажучы пра дзверы і тое, што за імі?
Я так мяркую.


Значыць, вырашана! Мы вернем скарбы нашых продкаў, скрадзеныя гэтым падступным цмокам!


Да дальніх прастораў, лясоў векавых,
Пячораў глыбокіх і гор снегавых —
З першым святлом пакінем мы дом,
Па золата-дзіва для скарбаў сваіх.
О, Божа!

Наступнай раніцою, як толькі Більба прачнуўся, ён адчуў палёгку, калі пабачыў, што ўсе гномы сышлі без яго; і ўсё-ж хобіт адчуваў сябе – на ўласнае здзіўленне – крыху расчараваным.

Не будзь дурнем, Більба Торбінс! Марыць пра цмокаў ды ўсялякую замежную бязглуздзіцу ў тваім веку!

Даражэнькі мой, ужо палова на адзінаццатую! І калі ж ты збіраешся ісці? Яны пакінулі табе ліст, бо чакаць ужо не маглі.

Які ліст?

Ад Торына і Кампаніі ўзломшчыку Більба – прывітанне!
Прыміце нашу сардэчную ўдзячнасць за Вашу гасціннасць і прапанову прафесійнай дапамогі, якую з вялікім задавальненнем прымаем. Умовы: аплата па канчатковым разліку, у памеры не больш за адну чатырнаццатую агульнага здабытку (у выпадку яго наяўнасці); кампенсацыя падарожных стратаў гарантаваная ў любым выпадку; выдаткі на пахаванне нясуць астатнія кампаньёны ці іх прадстаўнікі, калі ўзнікне неабходнасць і калі гэтае пытанне наперад не абмеркаванае.
Лічым залішнім турбаваць Ваш каштоўны адпачынак, таму будзем чакаць Вашамосць у шынку "Зялёны Цмок" прырэчны аб 11.00 раніцы.
З вялікай пашанай,
Торын і Кампанія

Зямля ды нябёсы! Ты сам не свой гэтым ранкам – нават пыл з каміна не сцёр, інакш бы знайшоў вось гэты ліст пад гадзіннікам.

Так што ў цябе дзесяць хвілін. Давядзецца бегчы.

Але...

Няма часу!

Але...

І для гэтага няма часу!

Бяжы!


Вось так вандроўка і пачалася, верхам на гружаных поні аднои цудоўнай раніцай акурат перад траўнем.
Кампанія рушыла даволі весела і гутарыла, і распавядала гісторыі, і спявала песні ўвесь дзень.
Більба хутка адчуў, што прыгоды, урэшце, не такая ўжо і кепская рэч.


Напачатку яны праязджалі хобіцкія землі, край добра дагледжаны, населены народам паважным ды сумленным.


Потым трапілі ў край, дзе народ размаўляў не зусім зразумела і спяваў песні, якіх Більба ніколі не чуў.
Потым яны заехалі далёка ў Запусцэчу, дзе не было шынкоў, і людзей не засталося і дарогі паступова пагаршаліся.
Далей яны рухаліся па змрочных пагорках, уздымаючыся ўсё вышэй і вышэй.


Усё здавалася змрочным, і надвор'е, што раней было добрым, як у траўні, раптам пагоршылася: стала халодна і мокра.
Уявіць толькі, хутка чэрвень! Я ўпэўнены, што вада прасачылася і да сухой вопраткі, і ў мяшкі з ежай.


У якіх мы землях, Торын?
Мясціны тут не надта знаёмыя, горы паблізу.
Ад старых мапаў карысці мала: шмат што змянілася да горшага. Але гэтае месца не макрэй за іншыя.


Дай я паспрабую, Глойн.
Ты ўжо спрабаваў, Ойн. І гарэць ад гэтага яно больш не стала…
Трасца на гэтае ўзломніцтва і ўсё з ім разам! Быў бы я цяпер дома, у сваёй норцы перад агменем, побач з чайнікам, які ледзь пачаў свістаць!


Куды ж Гэндальф падзеўся?
І акурат калі ён патрэбны больш за ўсё!
Паглядзіце, вунь там святло!


Дзе?
Вунь там. Бачыце водбліскі?


Можа гэта вандроўнік?
Якія вандроўнікі ў гэтай дзікай зямлі?
Нас жа чатырнаццаць.
Куды ж знік Гэндальф?
Пашліце ўзломшчыка!
Узломшчык!


Вы павінны пайсці ды выведаць пра святло.
Калі ўсё добра, вяртайцеся хутка. Калі не, вяртайцеся, калі здолееце!
Калі ж не можаце, прагукайце двойчы як сыч і раз як пугач, і мы паспрабуем зрабіць штосьці-небудзь.


О, Божа!
Я ўмею гукаць як пугач ці сыч не лепш, чым лётаць як кажан.




Хоць бы на зуб чалавечыны. Якой халеры Вільям нас зацягнуў сюды, ашалець, і чым толькі думаў? Вось і піць хутка не будзе чаго!

Закры пашчу!

Што, лічыш, людзі самі пабягуць сюды, каб вы з Бертам пуза напхалі?

Пасля гэтага Більба было б варта хутка вярнуцца да сяброў ды папярэдзіць: побач тры тролі, ды яшчэ ў настроі, далёкім ад зычлівага. А можна было хуценька зрабіць крыху ўзломніцтва.

Вы пайтары вёскі злопалі пасля таго, як з гор спусціліся. Што вам яшчэ патрэбна?

Ай!

Сапраўдны першакласны казачны ўзломшчык найперш абчысціў бы тролевы кішэні. Іншыя, не такія прафесійныя, затое больш практычныя, кальнулі б пацуху кожнага троля ножыкам. Ва ўсялякім разе, прыемная ноч была б забяспечаная.

Сказалі б хоць "дзякуй, Біл, за такі добры шматок бараніны".

Більба гэта ведаў. Ён чытаў пра вялікую колькасць рэчаў, якія ніколі ў жыцці не рабіў. Ён адчуваў агіду, жадаў быць за сотню міляў адсюль і аднначасова не хацеў вяртацца да Торына і кампаніі з пустымі рукамі.

Гэй, хто гэта?!

Вой!..

Трасца мне ў бок! Гляньце каго я злавіў!

Што гэта?

Ліха яго ведае.


Што ты такое?
Більба Торбінс, узло.. э, хобіт.
Узлоэхобіт? А што ўзлоэхобіту рабіць у маёй кішэні?
А ці можна іх есці?
Можна паспрабаваць. Можа, шмат такіх палбізу бегае, тады пірог зробім.
Гэй, ты, ці ёсць яшчэ такія, што шнараць па лесе, трусік ты гэтакі.
Так, так, шмат.
Не, нікога, сапраўды нікога.
Як гэта?
Бедны малы пайзун. Няхай пайзе сабе. Я ўжо з'еў колькі мог, у любым выпадку.
Пакуль не скажа, што значыць "шмат" і "нікога" – не!
Не хачу, каб мне глотку ў сне перарэзалі.
Патрымай яму пяткі над вогнішчам, пакуль не загаворыць.
Не буду. Я яго злавіў, мая справа.
Ты тоўсты дурань, Вільям, як я ўжо казаў сённяшнім вечарам!
Быдла!
А вось за гэта ты адкажаш, Біл Хагінс!


Більба!
Што за...
Балін!


Гном!
Нясмажаны гном!
Том, хутка мех сюды!


Яшчэ гномы падыдуць, ці я зусім розум страцій. Вось гэта і азначае – шмат і нікога. Нікога з узлоэхобітаў, але шмат гномаў. Во як!
Здаецца, ты маеш рацыю. Лепш нам ад святла выбрацца.


Ойн? Глойн?
Так яны і зрабілі. Гномы адзін за адным выходзілі да вогнішча, глядзелі здзіўлена на перакуленыя куфлі, пагрызеную бараніну, і тут – гоп! На галаве мех, а сам на зямлі.


Мы ім пакажам!


Што тут за справы? Хто тут хапае і б'е маіх людзей!
Тролі! Яны й кустах хаваюцца з мяхамі.


Ага! Напрайду?


ARRRRRRR


PSSSH


Гэты апошні пашкодзіў мне вока!
Засмажам іх і аднясём на месца, каб з'есці пазней.


Няварта смажыць іх адразу, усю ноч прапоркаемся.
Не пачынай спрачацца знойку, а то якраз усю ноч і прапоркаемся.
Хто спрачаецца?
Ты!


Брэшаш!
Ты дэфектыўны!
Чаму б не пакрышыць іх ды згатаваць?
Навошта іх варыць? Вады ж няма, а да калодзежа вунь колькі тэпаць!
Заткні пашчу! Альбо так і не ўправімся. Яшчэ слова, і сам па ваду пойдзеш.
Сам заткніся!
Сам з сабою размаўляеш?

Спыніцеся зараз жа! Ноч праходзіць і раніца хутка. Трэба з гэтым завязваць!

Раніца вас захопіць …

…і каменем…

… зробіць!

Гэндальф! Гэта твой голас прымусіў троляў спрачацца!

Цудоўна!

Сапраўды! Ведаеш, тролі мусяць схавацца пад зямлю да ўзыходу сонца, інакш яны зноў стануць камянямі і больш не здолеюць рухацца.

Більба давялося двойчы распавядаць гномам, што здарылася, пакуль яны задаволіліся.

… і перш чым я паспеў збегчы, ён запіхнуў мяне ў мяшок.

Знайшоў час практыкавацца ў лазанні па кішэнях, калі мы жадалі толькі агню ды ежы.

Так як тролі марудныя, а ранак ужо быў блізка,то было даволі лёгка прымусіць іх лаяцца ды перабрэхвацца, ажно пакуль не ўзышло сонца і не скончыла з імі.

І таго, і другога без бойкі вы б не атрымалі ў любым выпадку. А зараз мы проста марнуем час.

Ці ж вы не разумееце, што ў троляў абавязкова павінна быць нара ці пячора непадалёк – ад сонца хавацца? Трэба знайсці яе!


Тут сляды тролевых ног, сярод дрэваў!
Магчыма там іх пячора!


Яны пайшлі па слядах на вяршыню пагорка, пакуль не заўважылі схаваных за кустамі вялізных дзвярэй. Аднак жа адмыкнуць іх не здолелі, хаця штурхалі ўсе разам, а Гэндальф чытаў розныя замовы.


Можа, гэта прыдасца? Я знайшоў яго на зямлі, там, дзе тролі біліся.


Няўжо нельга было сказаць раней?
А зараз забачым, што за скарбы маюцца ў троляў.

Патыхае тролямі.
Гэта не навіна.
Выносьце золата вонкі. Мы яго прыкапаем да нашага вяртання.
Збярыце ўсю ежу, якую знойдзеце.


Выглядаюць на добрыя клінкі.


Яны зроблены не трольскімі, не чалавечымі кавалямі гэтых мясцін і часоў.


Калі здолеем прачытаць руны на іх, даведаемся больш.


Ці можна спытаць, куды ты падзейся, Тэндальф?
Я паехаў разведаць нам дарогу. Сустрэў наперадзе парачку сваіх сяброў з Раздолу.


Гэта яны мне распавялі, што трое троляў спусціліся з гор і абжыліся ў лесе непадалёк дарогі, распужалі ўсіх з наваколля ды палююць на падарожнікаў.
Я адразу ж адчуў, што мне трэба вярнуцца. І, калі ласка, наступным разам будзьце асцярожнымі, а то мы нікуды не патрапім.
Дзякуй вам!


У гэты дзень (і другі, наступны за ім) песень яны не спявалі і гісторый не распавядалі, хаця надвор'е і палепшылася. Адчувалася, што небяспека непадалёк і пагражае адусюль.
Гэта і ёсць – Гара?
Ды не! Гэта толькі пачатак Туманных гор.
Нам яшчэ ехаць ды ехаць да Самотнай Гары на ўсходзе, дзе Драк ляжыць на нашых скарбах.


Нам нельга прамінуць дарогу, інакш можа быць кепска.
Дзесьці наперадзе знаходзіцца таямніча-цудоўная даліна Рывэндэл, дзе Элранд гаспадарыць у Апошнім Прытулку.
Я адправіў ліст з сябрамі, так што нас чакаюць.













І так дабраліся яны да Апошняга Прытулку, і знайшлі яго дзверы шырока адчыненымі.

Дзіўная рэч: калі ўсё добра і час цячэ спрыяльна і прыемна, распавядаць амаль няма пра што, і слухаць няма чаго. А калі здараецца нешта кепскае, і нават жудаснае, расповед атрымліваецца цікавы і баіць можна бясконца.

Элранд быў даўні сябра эльфаў. У дні нашага аповеду яшчэ жылі людзі, сярод продкаў якіх былі і эльфы, і героі з людзей Поўначы, а гаспадар Элранд быў іх правадыром.

Пра яго складзена мноства легендаў, а прысутнічае ён у незлічонай іх колькасці. Але ж яго месца ў Більбавай прыгодзе невялікае, хоць і значнае – пабачыце самі, калі дабярэмся да канца.

Яны заставаліся ў Прытулку доўга, чатырнаццаць дзён, не менш, і з'яжджаць ніхто не жадаў.

Більба з задавальненнем застаўся б тут назаўсёды – калі б і была магчымасць проста так, па адзіным жаданні, перанесціся назад, да сваёй нары.

Так прайшоў час, і ў пачатку апошняга тыдня чэрвеня, калі святкуюць сярэдзіну лета, падрыхтаваліся выпраўляцца далей.

Элранд пра руны ведаў усё. Ён паглядзеў на мячы, якія яны здабылі ў тролевай пячоры.

Яны не трольскія. Гэта вельмі старажытныя мячы Вялікіх Эльфаў Захаду, маёй радні.

Зробленыя яны былі ў Гандаліне для змагання з гоблінамі.

Напэўна, трапілі яны да троляў ад гоблінаў ці з цмокавых скарбніц, таму што гобліны і цмокі разрабавалі і разбурылі гэты горад шмат часу таму

Гэты меч, Торын, на старажытнай мове Гандаліна мае назву Оркрыст – "Які Сячэ Гоблінаў". Знакаміты клінок.

Гэты, Гэндальф, мае назву Гламдрынг, "Молат Ворагаў". Яго некалі насіў сам кароль Гандаліна.

Беражыце іх!

Я буду ставіцца да мяча з вялікай пашанай. І няхай хутчэй ён зноў сячэ гоблінаў!

Верагодна, гэтае жаданне ў гарах вельмі хутка здзейсніцца. Але ж пакажыце мне сваю мапу!

Што гэта?

Побач са звычайнымі рунамі, якія кажуць "пяць лакцёў у вышыню дзверы, трое могуць ісці побач", ёсць і месяцовыя літары.

Што такое месяцовыя літары?







Наступная раніца была такой чыстай і свежай, як толькі можна сабе пажадаць: неба празрыста-блакітнае, ні хмурынкі.

Кампанія выпраўлялася пад пажаданні добрага падарожжа і спакойнай дарогі, з сэрцамі, падрыхтаванымі да новых прыгодаў, з ведамі пра шлях, якім трэба было рушыць праз Туманныя горы і далей.

Шмат сцежак ішло да гор, а праз іх – шмат перавалаў. Аднак жа большасць сцежак нікуды не вялі ці скіроўвалі ў мясціны дрэнныя і непралазныя, а большасць перавалаў былі небяспечныя, і жылі каля іх злыя і надта непрыемныя істоты.

Гномы і хобіт, праз мудрую параду Элранда, а таксама дзякуючы ведам і памяці Гэндальфа, выбралі правільную сцежку да патэрбнага перавалу.

Выбраўшыся з эльфійскай даліны, яны цэлымі днямі ўсё падымаліся і падымаліся ўгору. Цяжкі быў іх шлях – доўгі і пакручасты.

Ты, падаецца, зусім замаркоціўся, Більба

Далёка на Захадзе ляжала родная краіна Більба, са спакойным жыццём і бяспекай, дзе была яго маленькая, утульная нара. Вакол жа стаяў ужо люты холад, пранізлівы вецер свістаў у скалах.

Унізе лета разгараецца. Стажкі робяць, пікнікі ладзяць.

Яны будуць хадзіць у чарніцы, збіраць ураджай яшчэ да таго, як мы пачнем спускацца з іншага боку.

Гэндальф толькі паківаў галавою і нічога не адказаў. Ён вадаў, якія небяспека і зло выраслі і блукаюць па Дзіказем'і з таго часу, як цмокі сагналі людзей з зямлі і гобліны паціху распаўсюдзіліся пасля бітвы з гномамі ў шахтах Морыі.




Більба ніколі не бачыў такога і ўявіць сабе не мог.

О, Божа!

У святле маланкі ён убачыў, як на другім баку даліны з'явіліся горныя веліканы.

Яны дзеля забавы шпурлялі адзін у аднаго велізарныя камяні, лавілі і кідалі зной; камяні ляцелі ў цемру і з храскам падалі сярод дрэваў далёка ўнізе ці з грукатам расколваліся на часткі.






Торын, мы знайшлі сухую пячору! Непадалёк, за наступным паваротам, там і поні змесцяцца.

Вы добра яе даследавалі?

Так, так! Яна не такая ўжо вялікая і глыбока не заходзіць.

Выдатна! Давайце зірнем на яе!

Падлога сухая і ёсць нішы, каб легчы.

Самы раз. Але ніякага агню! Пераапранемся ў сухое адзенне з багажу.




Яны размаўлялі і размаўлялі, хутка забыліся на навальніцу і распавядалі адзін аднаму, што зробяць са сваёй часткай скарбаў (зразумела, калі здабудуць іх – што зараз не здавалася такім ужо немагчымым).




Гэтай ноччу сталася, што не дарма ўзялі яны з сабою маленькага Більба. Чамусьці ён доўгі час не мог заснуць і калі, нарэшце, здолеў, то ўбачыў вельмі турбуючыя мроі.



Прысніў ён, што шчыліна ў задняй сцяне пячоры робіцца ўсё большай і большай, рассоўваецца ўсё шырэй і шырэй. Ён вельмі напалохаўся, але ж не мог закрычаць ці варухнуцца – проста ляжаў і глядзеў.

Потым ён прысніў, што падлога апускаецца, і ён пачынае слізгаць, а потым падае – уніз, уніз, невядома куды, у цемру.

ТОК CLOP!

Што…

О, Божа! Гэта не сон! Гэта ява!

Пастка!

Рабаўнікі!

Поні!

Якой…

Што?

Гар, гар!

Гобліны!

Гоп, гоп, хлопцы!

Гобліны?


Так, гобліны! І самае меншае – па шасцёра на кожнага гнома і два на Більба. Не паспелі б вы сказаць "Ага!" ці "Што?", як усіх ужо падхапілі і панеслі ў шчыліну.


Усіх, ды не Гэндальфа.


KROOOOM


Більбавы лямант вельмі дапамог яму.


Шчыліна з ляскам зачынілася, і Більба з гномамі апынуўся, на жаль, па іншы яе бок.


Гобліны – істоты жорсткія, хітрыя і бязлітасныя. Цудоўных ды прыгожых рэчаў яны не вырабляюць, але ж майстры на розныя хітрыя прылады.
Молаты, сякеры, мячы, кінжалы, клешчы ды кіркі, а таксама прылады для катавання яны робяць надзвычай добра.


Вельмі падобна да праўды, што менавіта гобліны вынайшлі некаторыя машыны, якія да нашага часу непакояць Сусвет, асабліва тыя, каб забіваць вялікую колькасць людзей за кароткі час.
SWSH
SMAK

Хто гэтыя нікчэмныя істоты?

Гномы і вось гэты! Яны хаваліся побач з нашай Пярэдняй Брамай.

І што б гэта значыла? Шпіёнілі за маім народам!

Не здзіўлюся калі вы яшчэ і зладзеі!

Найбольш верагодна – забойцы і сябры эльфаў!

Ну? І што ж распавядзеце вы нам?

Гном Торын да вашых паслуг!
Мы хаваліся ад навальніцы й пячоры, якая была незанятая і нікім не выкарыстаная. У нас нават і ў думках не было турбаваць гоблінаў.
Так кажаце.
А ці магу я спытаць, што вы робіце ў гарах і куды рухаецеся, і падарожнічаеце адкуль?
Я жадаю ведаць усё пра цябе, **Торын Дубатарч!**
Я ўжо дастаткова ведаю пра твой народ. Аднак лепш кажы праўду, альбо я падрыхтую для вас штонебудзь непрыемнае!
Мы падарожнічалі, каб сустрэцца з нашымі родзічамі, якія жывуць на Ўсход ад гэтых гасцінных гор.
Ён хлусіць, Вашамосць!
Частка нашых была пабіта маланкай, калі мы запрашалі гэтых пачвараў пайсці з намі. Некаторых пазабівала на месцы.
Таксама ён не паведаміў пра гэта!
Оркрыст! Зайбоца гоблінаў! Кусач!
Ненавісны меч эльфаў з Гандаліна!
Забойцы і сябры эльфаў!





Кіньце іх у змрочныя змяіныя норы! Няхай яны ніколі не ўбачаць святла!



FOOSH



PFFF
PFFF
PFFF
PFFF
Што такое?

KROOOSHHH
KROOOSHH
А-а-а-а-а!
Бяжым!
Ух!
Ах!


О, Божа!

SCHRANNG

Гламдрынг!
Лупцун!
Мы прапалі!
Молат ворагаў!

Хутка за мной!


Хутчэй! Паходні хутка запаляць ізноў!

Хвілінку!
Містэр Торбінс, падаецца вы не паспяваеце.
Мае ногі не такія вялікія як у вас усіх.

Хутчэй залазь на спіну!

Мы не можам страціць узломшчыка яшчэ на пачатку выправы!


Доры, давай здыму з цябе кайданы.


CRANNG!
Вось так. Ці ўсе ёсць?


Праверым: першы – Торын…
Дзякуй.


Другі, трэці, чацвёрты… дзесяты, адзінаццаты…
А дзе Філі і Кілі?


Вось яны… дванаццаты, трынаццаты…


… і спадар Торбінс – чатырнаццаты!


Добра, добра, магло быць і горш. Зразумела, магло б атрымацца і значна лепш. Без поні, без ежы, не ведаем, дзе знаходзімся, ды яшчэ плойма гоблінаў за спінай!
Добра, рушылі!

Так яны і рушылі.

Гэндальф не памыляўся: яны пачулі недзе далёка ззаду гоблінскія крыкі і жудасны лямант. Гэта іх яшчэ больш прыспешыла.

Бедны Більба і на палову так хутка не змог бы бегчы. Таму гномы падхапілі Більба і неслі па чарзе.

Ну навошта, навошта я пакінуў сваю нару!

Ну навошта, навошта я згадзіўся ўзяць гэтага небараку на паляванне па скарбы!

Гобліны – бягуны лепшыя за гномаў. Хутка ўжо было можна адрозніць пляскатанне іх ног па падлозе, адразу за апошнім паваротам.

Чакаем тут! Торын, меч вонкі!

А-а..

Кусач!

Лупцун!

Кусач ды Лупцун!

Бяжым!




Калі гобліны, нарэшце, здагадаліся, яны пагасілі паходні, абуліся ў мяккія чаравікі і даслалі наперад найхутчэйшых бегуноў з самымі лепшымі вачыма і вострым слыхам. Тыя пабеглі, як тхары ў цемры, не гучней за кажаноў.

Вось чаму ні Більба, ні гномы, ні нават Гэндальф іх не пачулі.
















Калі Більба расплюшчыў вочы, то адразу – з закрытымі вачыма ці з адкрытымі – ані чуць нічога, ані бачыць ён не мог, і не адчуваў нічога, акрамя каменнай падлогі.


Гэндальф?
Торын?
Доры?


Раптам яго рука намацала нешта, падобнае да пярсцёнка.
Што?


Дзіва…
Пярсцёнак. Разгледжу яго потым, а зараз трэба выбірацца з гэтага цёмнага месца


Ён і не падазраваў, што ў гэты момант яго жыццё назаўсёды змянілася.
Дзе ўсе астатнія?
Я застаўся адзін?


Люлька хоць ацалела.
Вось бы яшчэ запалкі знайсці…
Што гэта?


Мой меч! Значыцца, ён таксама эльфійскі!
І па яго зіхаценню я бачу, што гобліны не тое, каб надта далёка, але ж і не блізка.


Назад ісці? Ніякага сэнсу. Убок? Немагчыма. Што застаецца?
Ісці ўперад!


Тунэль усё цягнуўся далей. Хобіт ведаў толькі, што ён ідзе прыблізна ў адным напрамку і паступова паглыбляецца. Тут і там на баках адмыняліся праходы, але Більба іх мінаў, уяўляючы сабе гоблінаў ці іншыя жудасці ў цемры.
Я не ведаю, як доўга ён ішоў так, не наважваючыся спыніцца, усё далей і далей, аж да смяротнай стомленасці. Здавалася, што прайшоў цэлы дзень, і ноч за ім, і чарадой дні за днямі, і скангэння ім няма.
Ай!
SPLOSH


Я не чую шуму вады, значыцца гэта лужына ці возера, а не падземная рака. І напэўна яна поўная розных вірлючых у вадзе істотаў з вялізнымі сляпымі вачыма.
Куды зараз ісці?


Дзіўныя стварэнні жывуць у рэках і азёрах у сэрцы гор: рыбы, чые продкі заплылі сюды невядома колькі гадоў таму і ніколі ўжо не выплывалі. А таксама істоты яшчэ больш слізкія і агідныя за рыбу.
Нават у тунелях і праходах, якія гобліны зрабілі для сябе, жывуць незнаёмыя для іх пачвары, якія збеглі ад сонечнага святла і схаваліся ў змроку.


Глыбока-глыбока ў тоўшчы гары жыў стары Глыкс.


Не ведаю, адкуль ён узяўся, хто ён ці што ён. Проста Глыкс. Імя гэтае ён займеў ад жудаснага глытальнага гука, хоць сам сябе ён заўсёды клікаў "мая каштоўнасць".

Ах-х-х, ш-шанц-цуе нам, ах наш-шай каш-штоўнасці! Выдатны кавалачак, дзівосны для нас, гл-лыкс-с!
Ты хто?
Ш-што за іс-стота такая?


Я-спадар Більба Торбінс.
Я заблукаў, адарваўшыся ад гномаў ды чараўніка. Я не ведаю, куды трапіў.
І не хачу ведаць - мне б толькі выбрацца адсюль.


Ш-што іс-стота мае ў руках?
Меч! Клінок з Гандаліну!
С-с-с


Магчыменька мы пагутарым тут трошачкі, так, мая каштоўнасць?
А ці падабаюцца істоце загадкі, а?


Глыкс надта стараўся выглядаць прыязным. Аднак акрамя загадак, нічога да галавы Глыксу не прыйшло. Загадваць іх было адзінай вядомай яму забавай, калі сядзеў у сваёй нары шмат, шмат часу таму, да таго, як схаваўся пад гарой.
Добра.
Загадвай першы.
Вышэй за дрэвы, без каранёў, хоць ніколі не расла, вышэй за ўсё!


Лёгка! Зразумела, гара.


Лёгка? Добра, трэба нам пачаць гульню, мая каштоўнасць.Калі істота задасць пытанне, а наша каштоўнасць не адкажа то мы давядзем яе да выйсця.


А калі не адкажа яна, то мы яе з'ямо, так, мая каштоўнасць?

Добра!

С-с-с-с...



Більба не асмельваўся спрачацца, і ледзь не пашкодзіў галавы, спрабуючы знасці загадкі, якія б уратавалі яго ад з'ядзення.




Трыццаць белых коней на чырвонай гары, Разам сышліся, Пасля разышліся, Потым ізноў застылі да пары.




Лёгка, лёгка.
Зубы! Мая каштоўнас-сць, але ж у нас іх толькі шэсць!

Без голасу плача, Бяскрылы ляціць, Бяззубы, а кусачы, Без рота, а крычыць.

Момант, момант!

На шчасце, ён калісьці раней чуў нешта падобнае і, трошкі прывёўшчы ў парадак думкі, хутка знайшоў адказ.

Вецер, зразумела, вецер!

Більба быў так задаволены сабою, што тут жа прыдумаў загадку. "Вось будзе арэшак злыдню падземнаму" – падумаў ён:

У блакітным твары вока, У зялёным твары вока, Падмігнулі й кажуць так: Мы падобныя, аднак, Нехта з нас высока, Другі ўнізе далёка!

Глыкс пад гарою жыў доўгі, надта доўгі час і на такія рэчы ўжо забыўся. Але нарэшце ён дакапаўся да даўніх, запыленых успамінаў пра тое, як жыў са сваёю бабуляй у норцы на беразе ракі.

сс.. сс.. сс.. сс..

С-с-с, мая каштоўнассць. С-сонца і дзьмухаўцы!

Звычайныя загадкі пра звычайныя рэчы паспелі Глыксу надакучыць. Што горш, ад гульні ён зноў адчуў голад і пачаў злавацца. На гэты раз ён паспрабаваў загадку больш складаную:

Яе не ўбачыць, яе не адчуць,
Яе не ўнюхаць, яе не пачуць,
Між гор, над гарамі яна залягае,
У норах, пячорах без сну яна дбае.
Яна пачынае, яна ж і скончае
Зайсёды і смех, і жыццё адбірае...

На вялікі для Глыкса жаль, Більба такое ўжо чуў раней, і ўвогуле, адказ ляжаў навокал.

Цемра!

Без вокнаў, замкоў ды засавак хата, Трымае кавалачак золата ў кратах.

Арэшак гэты хобіту здаваўся страшэнна лёгкім. Але ж для Глыкса сталася зусім не так.

..вокнаў.. с-сс.. ..дзвярэй.. ..золата.. с-сс..

Ну і як? Адказ – не чайнік, каб пыхкаць ды плявацца. А то і зблытаць магчыма, слухаючы твае гукі.

Шанец, няхай ісссгота дассць нам шанец, так, мая каштоўнасць?

Ну і
што адкажаш?

Раптоўна Глыкс прыгадаў, як калісьці абкрадаў птушыныя гнёзды і, седзячы на беразе ракі, вучыў сваю бабулю высмоктваць яйкі.

Яйкіс-с!
Яйкіс-с!

Не дыхае – але жыве,
Не хоча піць – заўсёды п'е,
Халодная, заўжды маўчыць,
Хоць у кальчузе – не звініць.

Уяўляю сабе, што вы ўжо даўно здагадаліся, ці лёгка здагадаецеся, бо сядзіце ва ўтульнай хаце і ніхто не пагражае вас з'есці і з тропу не збівае.

Момант!
Я ж табе доўгі
даў шанец.

Більба сеў, кашлянуў, але адказ, вядома, не знайшоўся.

А ці
добранькі ён, мая
каш-штоўнасць?
Ці с-сакавіты?

Няхай
пас-спяшаецца,
пас-спяшаецца.

SPISH

Ф-фу!
Халодная ды
ліпкая..

Рыба!
Гэта рыба!!










Небарака Більба сядзеў ды ўзгадваў імёны жахлівых гігантаў ды іншых пачвараў з казак, але ніводзін з іх на такія зверствы здольны пэўна не быў.






Язык у яго нібы прысох да нёба. Ён захацеў крыкнуць: "Дай мне больш часу! Дай мне час"! Але адзінае, што ў яго вырвалася, быў раптоўны енк:

Час! Час!

Більба ўратавала яго ўдача, таму што гэта і быў адказ!






Більба шлёпаў і хлопаў сябе, мацаў цаўё мяча і нават шнарыў вольнаю рукой па кішэні. Там ён намацаў пярсцёнак, які падабраў у тунэлі дый забыўся на яго.







Більба пытаўся сам у сябе, але, пабачыўшы, што здарылася, не знайшоў нічога лепшага, як уцямна і ўголас паўтарыць:




с-с-с-с.. с-с..

Мы павінны меці тры спробы, так-с, мая каштоўнасць, тры спробы-с..

Вельмі добра! Адказвай!

Рукі-с!

Няпраўда! Далей!

с-с-с.. Нож!

Няпраўда! Апошні раз!

Давай, кажы! Я чакаю!




Усё няпраўда!
Ну? Як наконт абяцання?
Я ісці хачу. Ты павінен мне паказаць шлях.
Більба ведаў, што гульня ў загадкі – рэч надзвычай старажытная і недатыкальная, і нават абсалютныя злодзеі баяцца падманваць, калі ў яе гуляюць. Аднак ён адчуваў, што давяраць гэтай слізкай пачвары хоць у чым-небудзь – глупства. Да таго ж, апошняе пытанне не зусім адпавядала правілам старой гульні.


А ці ж мы так казалі, мая каш-штоўнасць? Паказзаць гідкаму маленькаму Торбінсу выхад, так-с, так-с. А што ж ён мае ў кіш-шэньках, а? Не вяровачку і не нічога.Глыкс.
Не твая справа.
Абяцанне ёсць абяцанне!


Які с-супярэчлівы, як с-спяшаецца, мая каш-штоўнасць! Але ж пачакаць трэба, так-с. Перш нам неабходна ўзяць тое-сёе, каб дапамагчы сабе.
Добра, але паспяшайся!


Більба здавалася, што пачвара хоча проста ўцячы – і добра. Пра што ён там балбоча? Што гэта за карыснае тое-сёе можна трымаць у поўнай цемры? Але ён памыляўся. Глыкс быў галодны ды злы і сапраўды жадаў вярнуцца. Ён быў жудасны і агідны і ўжо паспеў прыдумаць мярзотнасць.


Непадалёк у Глыкса знаходзіўся востраў. І там, у таемным месцы, хавалася адна чароўная рэч – вельмі прыгожая. Глыкс меў пярсцёнак, залаты, найкаштоўнейшы.
Падаруначак на Дзень нараджэння! Вось што мы жадаем зараз, так!


Падаруначак мой! Дастаўся ён мне на дзень нараджэння!
Жадаў ён яго, бо пярсцёнак быў магутны і чароўны, і той, хто насіне яго на палец, рабіўся нябачным. Заўважыць можна было толькі цень, і тое ў зыркім сонечным святле, няясна ды цьмяна.


Хто ведае, як на самой справе Глыкс здабыў гэты падаруначак даўным-даўно, калі такія пярсцёнкі яшчэ можна было знайсці ў гэтым свеце.
Магчыма, і сам Уладар пярсцёнкаў не здолеў бы сказаць.
Глыкс часцяком насіў пярсцёнак, пакуль не стаміўся ад яго, а потым цягаў у кішэні, а апошнім часам звычайна хаваў на востраве і ўвесь час вяртаўся, каб праверыць яго.

Колькі гадзін таму Глыкс апранаў пярсцёнак і злавіў габлянятка. Як жа тое вішчэла!

У бяспецы, у бяспецы. Істота не пабачыць нас, ці так, мая каштоўнасць? Не, не пабачыць, і яго гідкі меч не дапаможа!

Дзе ён?

Дзе ён?!

З-згублены, з-згублены, мая каш-штоўнасць! Праклён на нас, трасца на нас, мая каш-штоўнаць!

Я таксама, ведаеш, згубіўся! І хачу знайсціся! І я выйграў гульню, і ты паабяцаў! Пакажы мне шлях, а потым ідзі і шукай сабе!

Не, не, мая каш-штоўнассць! Нам трэба пашукаць, так-с, мы згубілі яго.

Але ты ж не адказаў на апошняе пытанне і ты абяцаў!

Не адказаў!

сссссссссссссс.. Што ў яго кішэні?

Што ты згубіў? Скажы!

Што давяло да вар'яцтва Глыкса, Більба здагадацца не мог, аднак што ён набліжаўся, было добра бачна. Глыкс відавочна намерваўся забіць яго. Хобіт павярнуўся і пабег назад па цёмным тунэлі, трымаючыся рукой сцяны.

Шшто ў істоты ў кішэньках?

Што ж там насамрэч?

Ён сунуў руку ў кішэню. Пярсцёнак спакойна слізгануў на ягоны палец, і падаўся вельмі халодным.

Ой...

У момант Глыкс апынуўся побач.

Але не паспеў Більба зрабіць штонебудзь, узняцца ці махнуць мячом, як Глыкс прабег міма.

Трасца, ліхаманка на яго. Праклён Торбінсу. Ён з-згубіўся! Што ў яго кішэньках? О, мы здагадаліся, мая каш-штоўнасць. Гэта мой падаруначак на Дзень народзінаў! Мы з-згубілі яго! Вось тут! Тут мы ішлі, калі звярнулі шыю таму віз-згліваму шчанюку! Трас-сца на яго! Ён кінуў нас-с пасля с-стольких гадоў!

Не трэба было ісці сюды шукаць яго. Няма карыссці. Яно ў кішэньцы Торбінсса. Гідкі пралазун знайшоў яго.

Але ж ён не ведае, што знайшоў, так-с? Не ведае і далёка не пайдзе. Ён забулкаў, гэты пайзун, і не ведае выхаду!

Казаў, але ці прайду? Не сказаў, што ў яго кіш-шэньках. І калі яна ведае шлях-х сюды, то ведае і шш-лях адсюль. Ён да задніх дзвярэй ідзе, так-с!

Гоблінс-сы яго с-схопяць. Ён не ўцячэ, мая каштоўнас-сць.

С-с, глыкс-с! Гоблінс-сы!

Але ж калі іс-стота мае падаруначак, то гоблінс-сы яго знойдуць! І вынайдуць, што ён можа. Мы ніколі не будзем у бяспецы, глыкс-с! Хто-небудзь з гоблінсаў нас-суне на брудны палец, і ніхто яго не пабачыць, ніхто. І прыйдзе сюды, нябачны, крадучыся, і схопіць нас-с, глыкс-с!

Час скончаць з размоваю, каштоўнас-сць, і хутчэй! Калі Торбінсс сюды пайшоў, нам трэба іссці ды паглядзець. Пойдзем! Ужо недалёка. Хутчэй!

Більба паспяшаўся за ім. Яго галава кружылася ад здзіўлення. Гэты пярсцёнак – чароўная рэч, якая робіць яго нябачным!

Хоббіт чуў пра такое ў даўніх, вельмі даўніх паданнях, але цяжка паверыць, што вось так, на самай справе, выпадкова знайшоў менавіта такі пярсцёнак. Факт ёсць факт: Глыкс прабег міма Більба, за крок ад таго.

Глыкс лічыў павароты, але ўсё марудней, задрыжэў і захныкаў. Ён адыходзіў усё далей і далей ад возера і пачаў баяцца.

Сем направа, так. Шэсць налева, так.

Вос-сь ён! Вось шлях да задніх дзвярэй, так-с. Але нам не трэба туды іс-сці, мая каш-штоўнасць, не трэба. Гоблінсы там, мноства гоблінсаў. Мы чуем іх. С-с-с…

Што ж нам рабіць? Трасца на іх!

Нам трэба чакаць тут, так-с, мая каштоўнас-сць, пачакаць ды паглядзець.

Так яны і стаялі. Да выхаду Глыкс усё ж Більба вывеў, але трапіць у выхад – ну ніяк! Більба падкраўся крыху бліжэй ціхутка, як мыш. Але Глыкс адразу напружыўся, прынюхаўся і зашыпеў.

Більба амаль што спыніў дых і застыў на месцы. Ён павінен, павінен выбрацца з цемры, пакуль сілы яго не пакінулі. Ён павінен пырнуць мячом брудную пачвару, забіць! Яна ж збіралася яго забіць!

Не, гэта не сумленна. Ён зараз нябачны. У яго няма мяча. Ды Глыкс і не пагражаў забіць яго. Ён такі разгублены, няшчасны….

Раптоўнае разуменне, жах і жаль ускалыхнуліся ў Більбавым сэрцы: ён уявіў бясконцы шэраг цёмных дзён без надзеі, заўжды крадучыся, заўжды хаваючыся. Більба скалануўся. А потым раптоўна вырашыўся і скочыў!

ЕЕЕЕЕЕЕ!

Проста над Глыксавай галавою, сем лакцёў у даўжыню ды тры ў вышыню.

Хобіт удала прызямліўся на ногі і прыпусціў на ўсю моц да выхаду.

З-злодзей, з-злодзей, з-злодзей! Торбінс-с! Ненавідзім, ненавідзім, яго на заўсёды!

Гобліны! Настолькі блізка, што ён здолеў унюхаць іх. Але ж і яны пачулі лямант і праклёны гэтай пачвары. Так што асцярожна, а то ў горшае ўлезеш.

Хутка ён убачыў святло. Не чырвонае, што ідзе ад паходняў ды вогнішчаў, а белаватае, бясспрэчна дзённае святло.

І Більба пабег!

Імчаў, як толькі ногі неслі, завярнуў за апошні рог…


…і раптам выскачыў на адкрытае месца, асляпляльна яркае пасля гадзінаў цемры.
Вох!


Гобліны ўбачылі Більба раней, чым той іх. Менавіта ўбачылі яго. Ці выпадкова так здарылася, ці пярсцёнак апошні раз выкінуў каленца з новым гаспадаром – але на пальцы яго не апынулася.
Ар-р-р!!! Вось яшчэ адзін!
Тыр! Тыр!
Забыўшыся нават меч выхапіць з похвы, Більба сунуў руку ў кішэню. Вось ён, пярсцёнак, у левай кішэні! Ён паслухмяна сеў на палец.


Дзё ён?
Пабег назад!


Сюды!
Туды!
Більба перапалохаўся страшэнна, аднак розуму хапіла ўцяміць, што да чаго, ды схавацца ад іх за бочку.
Шукайце паўсюль!
Куды ён дзеўся?
Небарака хобіт скакаў туды і сюды, ухіляючыся, сутыкнуўся з гоблінам, бразнуўся аб падлогу і хуценька папоўз ракам, ускочыў і памчаў да дзвярэй.


Дзверы яшчэ не зачынілі, толькі прыкрылі. Більба напяўся, але не здолеў іх павярушыць. Паспрабаваў праціснуцца ў шчыліну – але гузікі пазачапляліся за драўляныя дзверы і ён засеў! Ужо і вонкі можна было пагдзядзець – але ён не мог туды патрапіць.
Цень ля дзвярэй! Нехта лезе да нас!
TNK
TNK
PNK
Більба тузануўся з усяе сілы.. І пралез! Праўда, падраўшы камізэльку ды куртку. І паскакаў уніз па прыступках як горны казёл. Гобліны хутка кінуліся наўздагон, гікаючы і гукаючы. Але сонца ім не падабаецца, і Більба з апранутым пярсцёнкам знайсці яны не здолелі. Таму з праклёнамі рушылі назад.
Вось так Більба і ўцёк.

Святыя нябёсы!

Здаецца мне, я апынуўся акурат на іншым баку Туманых гор, якраз на краі Загор'я!

Бацюхны! Дзе ж цяпер мне шукаць Гэндальфа і гномаў? Адны спадзяванні, што яны не засталіся пад гарамі і не дасталіся гоблінам!

Більба ўсё ішоў ды ішоў, выйшаў з маленькай даліны, перавалій праз яе край, пачаў спускацца па схіле, і ўвесь час у ім расла надта няўтульная думка.

Ён гадаў, ці павінен ён цяпер, маючы чароўны пярсцёнак, вяртацца назад у жудасныя, жудасныя тунэлі шукаць сяброў.

Якраз даспела ў ім думка пра тое, што абавязак ёсць абавязак, што неабходна вярнуцца і шукаць, калі раптам пачуліся...

Галасы?

Гэта Балін, ён не бачыць мяне.

Пярсцёнак! Таму ён мяне і не бачыць!

Зраблю я ім усім сюрпрыз!

У рэшце рэшт, ён мой сябра. І хлопец неблагі. Я адказны за яго. І губляць яго, маё вам слова, было нявартa.

Да гэтага часу ад яго больш клопатаў, чым карысці. Калі мы павінны вяртацца па яго ў гэтыя тунэлі – трасца з ім!

Я ўзяў яго з сабою, а бескарысных рэчаў я не бяру! Альбо вы дапамагаеце мне знайсці яго, альбо я пакідаю вас тут, і выбірайцеся самі, як здолееце!

Ну чаму ты, Доры, згубій і пакінуў яго?

Утрымаеш яго, калі гоблін у цемры раптам хапае ззаду за ногі, ды пхае ў спіну!

А чаму ж ты яго не падхапіў зноў?

Ну і пытанне! Гобліны б'юцца ды кусаюцца ў цемры, усе падаюць адзін на аднаго у бойцы!

Вы пракрычэлі "за мной" – усе павінны былі пачуць. Я думаў, усе і пайшлі. І вось мы тут – без узломшчыка, каб яму!

А вось і ўзломшчык!
Ну і падскочылі ж яны! А потым закрычалі ад радасці ды хвалявання.
Узломшчык!
Більба!
Усе пажадалі пачуць пра яго прыгоды, і хобіт сеў ды распавёў усё па парадку – усё, акрамя знаходкі пярсцёнка ("не час" – падумаў ён).












Навокал пачалі гусцець цені.
Яны працягвалі хутка рухацца наперад,
а лясны пайзмрок паступова цяжэй,
лясная цішыня йсё глыбела ды глыбела…

Ці павінны мы ісці яшчэ далей? Я йсе пальцы на нагах пазбівай, а пуза гайдаецца быццам пусты мех.

Яшчэ крыху.

Навват вецер з мора не далятай сюды, каб пакалыхаць галінкі дрэй.

AARROOOOO

Вайкі!

ROO ROO ARROOOO

Што нам рабіць, што нам рабіць!

Ад гоблінай уцяклі, каб вайкі нас з'елі!

На дрэвы, хутчэй!

Зноў ты йзломшчыка пакінуй!

Яго з'ядуць, калі мы яму не дапаможам.

Не магу ж я зайсёды цягнуць яго на карку, і па тунэлях, і на дрэвы! Хто я табе? Насільшчык?

Доры, хутчэй працягні руку Більба!

Калі ласка, паспяшайся, Більба!

GRRR

GRRR

Вох!

GRRR

GRRR

GRRR

GRRR

Праз імгненне зграя дзікіх Варгаў (так клічуць злосных ваўкоў з краю Дзіказем'я), выючы, скакала вакол дрэва і кідалася, высунуўшы языкі. Яны перагукваліся на жудаснай мове Варгаў. Більба яе не разумеў, але Гэндальф – так, і я распавяду, пра што там вялося.

Аказалася, што на гэтую самую ноч быў запланаваны вялікі сумесны набег з гоблінамі на людзей з Поўдня, якія прыходзілі сюды і валілі дрэвы, будавалі вёскі. Варгі прыйшлі на сустрэчу з гоблінамі, але тыя пазніліся.

Прычынай, безумоўна, была смерць Вярхоўнага Гобліна і пярэпалах, які нарабілі гномы ды Більба з чараўніком. На іх, верагодна, і ішло паляванне.

Варгі здзівіліся і раззлаваліся, калі ўбачылі Гэндальфа і яго сяброў на паляне. Яны палічылі іх прыяцелямі лясных людзей, якім уздумалася прасачыць за Варгамі ды распавесці падслуханы план далінным жыхарам. Так што пакідаць паляну і дазваляць няпрошаным гасцям уцячы яны не збіраліся, найменш да раніцы.

Але яшчэ раней павінны былі прыйсці гобліны, а тыя здольныя і лазіць па дрэвах, і секчы іх.

FFFT

Цяпер вы разумееце, чаму Гэндальф страшэнна перапалохаўся, дарма што чараўнік. З іншага боку, проста так паддавацца ён не збіраўся.

FUSSH

FRROOM

RAR

Што за неспакой сёння ў лесе ўначы?

Я чую ваўкоў!

Зноў турботы з гоблінамі ў гарах?

Гаспадар Арлоў, чый народ жыў у Туманных Гарах, меў вочы, якія маглі глядзець на сонца, не міргаючы, і бачыць трусіка ў траве ў месяцавым святле з вышыні ў адну мілю.

Так што, хоць гномаў на дрэвах ён бачыць не мог, ваўчыную мітусню ды бліскаўкі агню заўважыў, ды выццё і лямант пачуў.

Гэтай ноччу ім апанавала цікаўнасць: што ж там такое ў лесе? Таму ён заклікаў шмат іншых арлоў і павольна кружляў, усё ніжэй, ніжэй...

Ашалелыя ад злосці і жаху, вайкі скакалі вакол дрэй. Знянацку на паляну, галосячы, уварваліся гобліны.

Бі іх!

Сячы!

Ім здалося, што ідзе бойка з людзьмі, але хутка яны зразумелі што адбываецца. Гобліны не баяцца агню і неўзабаве ў іх склаўся план.

Яны пачалі вытоптваць ды збіваць полымя ў лесе – пакуль не вытапталі ды не згасілі ўсё, апроч полымя каля дрэў з падарожнікамі. Тое полымя наадварот падмацавалі сухім лісцем ды ламаччам.

Ляціце, птушачкі, калі здолееце!

Птушак пятнаццаць па дрэвах паселі, але, на жаль, яны лётаць не ўмелі!

Спявайце, птушачкі, спявайце!

Прэч, дрэнныя хлапчукі!

А дрэнных хлапчукоў, якія дурэюць з полымем, звычайна чакае пакаранне!

*Гары, дрэва, справа, злева!*
*Дзеля свята асвятлення,*
*Нашага задавальнення!*
*Гэй-гэй!*

І з гэтым "Гэй-гэй!" полымя абхапіла ствол дрэва, на якім сядзеў Гэндальф. Запалала кара, затрашчалі ніжнія галіны.

КА-КА-ZZZAAZZZ

Гэндальф ускараскаўся на самую вяршаліну дрэва і падрыхтаваўся скочыць акурат на галовы ды дзіды гоблінаў. З посаху яго палыхнула, быццам маланкай.

Аднак скочыць яму не давялося.

Гучна заклекатаў Гаспадар Арлоў, якому Гэндальф паспеў ужо нешта сказаць. Яго спадарожнікі кінуліся ўніз, нібы агрмістыя чорныя цені. Вецер ад іх велізарных крылаў збіваў гоблінаў і варгаў з ног і адкідваў прэч, кіпці драпалі ім твары.

Некаторыя арлы падляцелі да вяршынь дрэваў да падхапілі гномаў, якія стараліся ўскараскацца вышэй.

Небараку Більба зноў ледзьве не пакінулі!

Мяне вазміце!

Хутка яны ўжо былі высока ў небе, і ўздымаліся ўсё вышэй і вышэй.

І ў лепшыя часы ў Більба ад вышыні круцілася галава. Таму можна ўявіць, як яму было цяпер! Хобіт заплюшчыў вочы і падумаў, што будзе, калі ён сарвецца.

Рукі мае, рукі!

Ногі, мае ногі!

Більба здзівіўся, калі ўбачыў, што Арліны Уладар і чараўнік ведалі адзін аднога і нават размаўлялі па-сяброўску. Рэч у тым, што Гэндальф па справах бываў у гарах і аднойчы дапамог арлам.

Гэндальф абмяркоўваў з Уладаром, куды несці ўсю кампанію і дзе пакінуць на раўніне ў гарах. Аднак Гаспадар не згаджаўся ляцець да якога б там ні было жытла людзей.

Яны страляць па нас з вялізных лукаў, бо падумаюць, што мы прыляцелі па іх баранаў. Часам так яно і ёсць.

Добра! У такім разе нясіце нас куды здольныя! Мы ўсё адно ўдзячныя вам. Але зараз мы паміраем з голаду.

Палёт скончыўся своечасова, перад тым, як яго рукі канчаткова змярцвелі.

Не, мы былі радыя пасмяяцца над гоблінамі, і аддзячыць табе, але мы не будзем рызыкаваць дзеля гномаў ў пайнёвых раўнінах.

Я ўжо памёр.

Тэта лёгка вырашаецца.

Арлы прынеслі для вогнішча сухастою, зайцоў і нават авечку. Хутка Більбаў страўнік стаў пайнюткім і ён заснуў на камянях. Так скончылася прыгода ў Туманных Гарах.

Наступным ранкам Більба прачнуўся ад яркага сонца. Ён падскочыў, каб зірнуць на гадзіннік ды пайсці паставіць чайнік на пліту, –

– і зразумеў, што не дома.

Більба давялося падрыхтавацца да ранняга адпраўлення, і вось ужо горы засталіся далёка ззаду.

Не шчыпайся! Не трэба палохацца, нібы трусік, нават калі ты і падобны да яго.

Добрая раніца, амаль без ветру. Што можа быць лепей за палёт?

Ух..

Прайшло даволі часу, пакуль арлы знайшлі патрэбнае ім месца. Пасярод ракі тырчэла вялізная скала, нібы агромністы асколак гары. Арлы адзін за адным спікіравалі на яе вяршыню і ссадзілі сваіх пасажыраў.

Да пабачэння! Якое б не было падарожжа, няхай у вас усё будзе добра!

Няхай вецер пад вашымі крыламі нясе вас туды, дзе ззяе сонца і шпацыруе месяц!

Так яны і развіталіся. І хоць Гаспадар Арлоў стаўся з часам Каралём Усіх Птушак ды апрануў залатую карону, Більба ніколі больш ні яго, ні іншых арлоў не бачыў – хіба што ў Бітве Пяці Войскаў. Але гэта адбудзецца ў самым канцы нашага аповеду, а тут мы больш пра гэта нічога не скажам.

Я ўвесь час імкнуўся дапамагчы вам перабрацца цераз горы. І цяпер, дзякуючы мне і ўдачы, гэта атрымалася.

Сапраўды, мы за гарамі, і нават пайднёвей чым мне патрэбна, бо гэта вашае падарожжа, а не маё.

Я, магчыма, буду дагледаць вас яшчэ, але ж у мяне і сваіх спраў безліч, і я хутка павінен пакінуць вас.

Але мы думалі што ты на ўвесь час з намі.

Ну, акурат зараз я знікаць не збіраюся. Дапамагу вам палепшыць ваша становішча, ды і мне тоё-сёе трэба.

Ежы ў нас і багажу няма, ехаць няма на чым. Але жыве тут адна асоба, якую я ведаю. Мы павінны адшукаць яго. І калі ўсё пойдзе добра, то я змагу пайсці па сваіх справах.

Што гэта за асоба?

Гэта Асоба. Менавіта ён высек прыступкі на скале – ён называе яе "Каррок". Такое ў яго слова да падобных рэчаў. А гэты "Каррок" у яго адзіны каля дому, і ён ведае яго надта добра.

Вам лепш быць ветлівымі. Калі ён раззлаваны, то лепш не наблiжацца да яго, хаця ў добрым настроі ён добры і смяшлівы.

Яго імя Беарн. Ён надзвычай моцны і здольны мяняць скуру.

Што, як кушнер, які робіць з труса гарнастая, калі ваўёрка не атрымаецца?

Не, не, не! Не будзьце дурнем, калі гэта ў вашай сіле! Ён мяняе сваю скуру. Часам ён вялізны чорны мядзведзь, а часам высокі моцны чарнавалосы чалавек з агромністымі рукамі і барадой.

У чалавечым аблiччы ён жыве ў лесе, трымае пчолаў і розных жывёл. У мядзвежым жа аблiччы ён вандруе па наваколлях.

Болей пра яго я нічога не скажу, бо ён не з тых асоб, пра якіх вольна апавядаць. У любым выпадку ён адказвае толькі перад самім сабой.

Калі такая пчала ўджалiць, дык цвёрда распухнеш!

Наблiжаемся! Мы на краі яго пчаліных прыдбаўяў.

Лепш вам тут пачакаць. Калі я паклічу або свісну, пойдзеце да мяне (вы ўбачыце, куды), але толькі парамі, праз кожныя пяць хвілінаў.

Пойдзем, спадар Торбінс! Недзе тут за рогам павінна быць брама.

Хочуць распавесці яму пра незнаёмцаў.

Вось і яны. Небяспечнымі не выглядаюць.

Хто вы такія і чаго жадаеце?

Я – Гэндальф. А гэта спадар Торбінс, хобіт добрасумленны і беззаганных паводзінаў. А я – чараўнік.

Я начуты пра вас, хоць вы мяне не ведаеце. Але, магчыма, вы знаёмыя з маім добрым сваяком Радагастам, які жыве на ўскрайку Ліхалесся?

Чуй, нядрэнны хлопец для чараўніка. Я яго звычайна бачу то там, то тут.

Цяпер я ведаю, хто вы або кім вы хочаце быць. Чаго вы жадаеце?

Мы страцілі наш багаж і збіліся з дарогі, нам патрэбна добрая парада, а магчыма, і дапамога. Я б сказаў, мы не вельмі прыемна прабавілі час з гоблінамі ў гарах.

Гоблінамі? Як жа і чаго вы да іх трапілі?

Выпадкова. Мы намерваліся.. але гэта доўгая гісторыя

У такім разе ідзіце ў дом і распавядайце, калі толькі гэта не зойме цэлы дзень.

Мы рухаліся цераз горы і спыніліся на ноч у пячоры. Як толькі мы леглі спаць, аднекуль выскачылі гобліны і схапілі хобіта з караванам нашых поні.

Караван? Вы што – вандроўны цырк? Ці вы заўжды называеце двух караванам?

О не! Там было болей поні, бо і нас было болей чым двое. Я проста не жадаў турбаваць вас усёй кампаніяй адразу. Калі вы не супраць, я іх паклічу.

Калі ласка, кліч!

WHEEET

Дзе гэта я?...А-а, дык вось – мяне не схапілі. Я забіў некалькіх гоблінаў бліскавіцай і прасачыў за імі да галоўнай залі. Я стаяў і думаў: "што можа тузін супраць мноства?"

А, вось і астатнія.

Але гэта не хобіты, а гномы! І я першы раз чую, каб васьмярых называлі тузінам!

Відаць, не усе падыйшлі.

WHEEEEET

І Гэндальф распавядаў далей, пакуль не дайшоў да бойкі ў цемры, ніжняй брамы і вяртання спадара Торбінса...

Яны віншчэлі ад радасці і спявалі: "Птушак пятнаццаць на дрэвах сядзелі..."

Святыя нябёсы! Гобліны ж умеюць лічыць! А дванаццаць не ёсць пятнаццаць!

Так і ёсць.

Там яшчэ былі Бафур і Біфур. Я не адважваўся вам іх прадставіць, але ж вось яны.

І я!

Ну, вось зараз вас пятнаццаць. І таму як гобліны лічыць умеюць, цяпер мы, нарэшце, даслухаем гісторыю.

Більба зразумеў мудрасць Гэндальфа. З-за паўзаў і нечаканых з'яўленняў Беарн больш зацікавіўся апавяданнем і не прагнаў адразу ж гномаў, як недарэчных і нечаканых валацуг.

Калі чараўнік скончыў гісторыю, сонца схавалася за пікамі Туманных Гор і па садзе Беарна працягнуліся чорныя цені.

Гэта была вячэра, ці, можа, абед, якога яны не бачылі з таго часу, як гасцявалі ў Элранда ў Апошнім Прытулку.

Увесь час за ежай Беарн распавядаў гісторыі пра дзікія землі па гэты бок гор і асабліва пра цёмны і небяспечны лес – жудаснае Ліхалессе.

Калі абед скончыўся, гномы пачалі распавядаць свае гісторыі пра золата, срэбра ды каштоўныя камяні, ды Беарн мала цікавіўся гэтымі рэчамі.

Час класціся спаць. Нам, зразумела, а не Беарну.

У гэтай залі мы ў бяспецы, але не забывайце, пра што Беарн папярэджваў нас перад адыходам: пакуль сонца не узыйдзе, з дому ані нагой!

Цемра панавала звонку. Більба зноў пачаў дзяўбсці носам.

Більба прачнуўся ноччу ад драпежных гукаў на двары і падумаў, што гэта сам Беарн у мядзвежай футры, і ці не ўвойдзе ён унутр і не зжарэ іх усіх. Ён схаваўся пад коўдру з галавой і зноў праваліўся ў сон.

Прачнуўся зноў ён позняй раніцай, Беарна і Гэндальфа нідзе не было відаць. Толькі пад вечар чараўнік вярнуўся.

Дзе наш гаспадар і дзе вы былі ўвесь дзень?

Перш я адкажу на другое пытанне. Але ж зірніце, што за цудоўнае месца для дымных кольцаў!

І на самой справе ад яго доўгі час нічога нельга было пачуць.

Я прасачыў за мядзвежымі слядамі. Пэўна, сённяшняй ночы тут адбылося іх чарговае зборышча. Наўрад ці тое былі ўсе ўвасабленні Беарна, бо там былі і вялізныя, і малыя, і розных колераў. Яны прыйшлі з розных кірункаў – акрамя Туманных гор. У той бок вёў толькі адзін шэраг слядоў, адсюль.

Я прайшоў імі так далёка, як змог, і яны прывялі да сасновага лесу на схіле Туманных Гор, дзе мы мелі прыгоду з гоблінамі і варгамі.

Вось я і на першае ваша пытанне таксама адказаў.

А што мы будзем рабіць, калі ён прывядзе гоблінаў з варгамі? Нас усіх зловяць ды заб'юць!
Хобіт адчуваў сябе ніякавата, аднак так як рабіць больш не было чаго, вырашыў класціся спаць. І пакуль гномы спявалі, сапраўды заснуў. Пасля ён прачнуўся, калі ўсе ўжо спалі, і пачуў такое ж рыканне і драпанне, як і раней.
Не будзь дурнем. Ідзі спаць, бо думкі твае ўжо пазасыналі.
Вось ты дзе ўсё яшчэ і тут! Не зжэрлі цябе гобліны ці злыя мядзведзі? Наш маленькі трусік зноў зрабіўся прыемны і тоўсценькі на мёдзе ды булках! Яшчэ крыху?
І ўсе пайшлі снедаць. Беарн быў вельмі вясёлы, шмат жартаваў і ўрэшце распавёў дзе быў.
Ён хадзіў за раку, у горы. Пабачыў спаленую паляну і зразумеў, што ўся іх гісторыя – праўда. Потым ён злавіў падпаленага ваўка з гоблінам і даведаўся, што па лесе ўсё яшчэ шукаюць гномаў патрулі гоблінаў і варгаў, што галоўны гоблін забіты і што збіраецца вялізнае войска гоблінаў і варгаў супроць гномаў.
Добрую вы распавялі гісторыю. Але зараз, калі ведаю, што гэта праўда, яна мне яшчэ больш падабаецца. Я гатовы прапанаваць вам любую сваю дапамогу.
Цяпер я буду лепей думаць пра гномаў. Ну і справы! Забілі самога Вярхоўнага Гобліна!
Што ты зрабіў з гоблінам ды варгам?
Хадзем, паглядзім!
Беарна лепш было не мець ворагам. Але ж цяпер ён быў іх сябрам, і таму Гэндальф вырашыў, што будзе разумным распавесці яму ўсё пра падарожжа і забяспечыць сабе найлепшую дапамогу.
І вось што ён паабяцаў. Перш за ўсё – поні для кожнага і каня для Гэндальфа, каб даехаць да лесу. А на поні – наўючыць ежы, якой павінна было хапіць на пару тыдняў ашчаднага спажывання.
Шлях праз Ліхалессе цёмны, цяжкі ды вусцішны. Там складана знайсці ваду і ежу. Я дам вам скураныя мяхі і лукі са стрэламі. Аднак жа наўрад ці вы што знойдзеце прыдатнае да ежы і піцця. Па дарозе будзе чорная рака. З яе нельга піць і дакранацца да вады, бо яна зачараваная, нясе санлівасць і страту памяці.
І ніколі не пакідайце сцежкі, у ніякім выпадку! У лесе я вам дапамагчы не здолею. Усё будзе залежыць ад вашай мужнасці і ўдачы.



На ўскрайку леса я прашу вас адаслаць назад поні і каня. Жадаю вам добрай дарогі, а дзверы майго дома заўжды адчыненыя для вас!
Мы заўжды да тваіх паслуг, о Гаспадар драўляных залаў!




Як параіў Беарн, яны не паехалі да галоўнай дарогі праз лес. На шляху да яе яны б напаткалі чорную раку, а самой дарогай часцяком карыстаюцца гобліны, яна занядбаная і вядзе да непраходных балотаў і багнаў, дзе і губляецца.
Дый выводзіла яна з лесу далёка на поўдзень ад Самотнай Гары, і ім бы давялося доўга і цяжка ісці краем лесу.




Беарн параіў ім кіравацца на поўнач. Там, за пару дзён язды ад Карока, пачыналася малавядомая сцежка праз Ліхалессе, якая выводзіла амаль непасрэдна да Самотнай Гары.
Я б на вашым месцы паспяшаўся. Калі гобліны ўсё ж вырашацца на набег, то пяройдуць раку на поўдзень адсюль і паімчаць на поўнач, каб перарэзаць вам шлях. А варгі бегаюць хутчэй за поні.




Калі апусціўся змрок, Більба заўважыў няясную постаць вялізнага мядзведзя, які крадўся побач з імі. Але на тое Гэндальф толькі шапнуў: "Ціха, не звяртай увагі".




Па абедзе чацвёртага дня кампанія дабралася да ўскрайка Ліхалесся і спынілася адпачыць пад агромністымі галінамі першых дрэваў.
Ну, вось і Ліхалессе. Найвялікшы сярод лясоў паўночнага свету. Спадзяюся, вам спадабаўся яго выгляд. А зараз вы павінны адправіць назад поні Беарна.
А можа, пакінем? Так шмат рэчаў...
Беарн не так далёка, як вам падаецца. І лепш трымацца сваіх абяцанняў. Спадар Торбінс мае пільныя вочы, і бачыў вялізнага мядзведзя, які кожную ноч ішоў побач,назіраючы і пільнуючы. І не толькі каб абараніць вас і вывесці, але і прасачыць за сваімі поні.
Вы і ўявіць не можаце, што здарыцца, калі вы паспрабуеце іх узяць у лес.










Нарэшце развіталіся з поні, і тыя весела паімчалі прэч ад Ліхалесся. Калі яны зніклі, Більба заўважыў, як нешта падобнае да мядзведзя выслізнула з-пад дрэваў і рушыла за імі.

Да пабачэння! Усім вам – да пабачэння! Ваш шлях цяпер – проста праз лес. Не адыходзьце ад сцежкі! Калі збочыце, то больш яе не знойдзеце і з лесу не выберацеся.

Тады не толькі я – ніхто вас не знойдзе.

Хіба няма якога іншага шляху, напрыклад, у абыход?

Ты або ідзеш, або адмаўляешся ад прыгоды.

Перш чым ты абыдзеш Ліхалессе, на поўначы трапіш да схілаў Шэрых Гор, а там не прадыхнуць ад гоблінаў, хобгоблінаў ды оркаў найгоршай пароды.

А на паўднёвым ускрайку Ліхалесся – зямля Некраманта, і нават табе, Більба, не варта распавядаць пра гэтага чорнага чарадзея.

Трымайцеся сцежкі і, калі вам пашанцуе, магчыма вы і ўбачыце перад сабою Самотную Гару, дзе жыве стары Драк. Спадзяюся, ён вас не будзе чакаць.

Умееце вы бадзёрасці дадаць. Калі не едзеце з намі, дык лепш адпраўляйцеся па справах без лішніх слоў!

Трымайцеся сцежкі!

Да пабачэння, сапраўды, да пабачэння!

Хутка святло ад уваходу засталося ззаду як маленькая дзірачка ў сцяне. Навокал было так ціха, нібы самыя дрэвы нахіляліся і слухалі гукі гулкіх крокаў.

Раніцою ў лесе было гэтак жа цёмна, як і ноччу. І, на думку Більба, вельмі вусцішна, нібы нехта за табой сочыць і падпільноўвае.

У лесе жылі чорныя вавёркі: бегалі па дрэвах, скокалі праз сцежку. У гушчары чуліся дзіўныя гукі: нешта сапло, варушылася ў падлеску. Што менавіта шумела было немагчыма заўважыць.

Найбольш непрыемнай рэччу было павуцінне: цёмныя шчыльныя сеткі з нітак, якія цягнуліся ад дрэва да дрэва. Аднак цераз сцежку не было ніводнай, можа, з-за магіі.

Хутка кампанія ўзненавідзела лес гэтак жа, як ненавідзелі гоблінскія тунэлі, але надзеі на выйсце было яшчэ менш. Аднак трэба было ісці, хоць усё б, здавалася, паадавалі вандроўнікі за позірк на сонца ды неба, за подых ветру на твары.

Найгорай было ўначы. Цемра рабілася пайнюткая – наагул нічога нельго было разглядзець. Але нешта яны такі заўважалі – вочы. Більба вельмі не любіў гэтых жахлівых бляклых вачэй. "Нейкая жамярына, – думаў ён. – Не звярыныя вочы, але ж здаравенныя!"

Дзень цягнуўся за днём, а лес заставаўся такім жа, і яны пачалі хвалявацца. Ежы надоўга не хопіць, яе і цяпер ужо было няшмат. Спрабавалі падстрэліць вавёрку другую, страцілі процьму стрэлаў, пакуль цалявалі адну. А калі засмажылі, аказалася, што смак у яе наймярзотнейшы.

Катавала і смага. Вады з сабой узялі няшмат, і за ўвесь час не знайшлі ні крыніцы, ні рачулкі.

Восъ з такім настроем яны, нарэшце, напаткалі чорную раку, якая перагароджвала шлях. Яна была імклівай і плыткай, і здавалася абсалютна чорнай.

Добра, што Беарн папярэдзіў пра яе, а то б яны кінуліся піць, нягледзячы на колер, і панапаўнялі б пустыя мяхі. А так засталося толькі разважаць над тым, як дабрацца да другога берага, не намокнуўшы.

Каля дальняга берага – човен!

Ну чаму ж ён не тут?!

Як далёка?

Ды непадалёк зусім. Я б сказаў крокаў дванаццаць.

Дванаццаць крокаў! Я б хутчэй казаў трынаццаць, але ж мае вочы ўжо не тыя, як сто гадоў таму. Але ўсё роўна – не пераскочаш, і наўрад ці хто паплыве.

Ці можа хто-небудзь з вас кінуць вяроўку? Я не думаю, што човен прывязаны. Пры такім святле не адрозніш, але, падаецца, ён проста выцягнуты на бераг.

Філі падалося, што ён добра бачыць човен. То яму прынеслі вяроўку, на канцы якой прымацавалі жалезны крук, які выкарыстоўвалі, каб чапляць заплечныя мяхі да лямак.

Асцярожна! Крук ляжыць на чоўне! Спадзяюся ён за яго зачэпіцца.

І зачапіўся! Вяроўка нацягнулася, Філі пачаў цягнуць.

Далучыўся Кілі, потым Оін і Глоін.

Ўаў!

Ух!

Сюды!

Усё ж ён быў прывязаны.

Хлопцы добра пацягнулі, і добра, што наша вяроўка мацнейшая.

Хто пераплывае першы?

Я, і ты разам са мною, і Філі з Балінам. Больш човен за раз не возьме. Потым Кілі з Ойнам ды Глойн з Доры, потым Оры з Норы, Біфур ды Бафур і апошнімі Двалін з Бамбурам.

Зайсёды я апошні. Не падабаецца мне гэта. Сёння чарга каго іншага.

Не трэба было рабіцца такім тоўстым. А так ты павінен быць апошнім і з лягчэйшым грузам у чаўне. Не трэба пярэчыць загадам, інакш можа быць нешта дрэннае.

А вёслаў няма. Як мы будзем піхаць човен да іншага берага?

Дайце мне другую вяроўку і яшчэ адзін крук.

Залазьце ў човен. І няхай хто-небудзь цягне. А нехта з астатніх няхай трымае першыя вяроўку ды крук. Як пераправіцеся, за гэты крук можна будзе прыцягнуць човен назад.

І такім чынам усе хутка былі ўжо на іншым баку чароўнай ракі...

.. калі нешта адбылося.

THU-BA-TUP THU-BA-TUP THU-BA-TUP

Бамбур зваліўся!

Бамбур тоне!

SPOOOSH


Хутка кінулі яму вяроўку з крукам і выцягнулі на бераг, мокрага, зразумела, ад галавы да ботаў. Але гэта было не найгоршае.


Калі яго выцягнулі на бераг, то ён ужо спаў. І што потым не рабілі, як не спрабавалі абудзіць – не дапамагала.
TA-RUMM
TA-RUMM
Раптам яны пачулі далёкі гук рога ў лесе ды брэх паляўнічых сабак.


Знянацку на сцежцы з'явіўся беласнежны алень. Не паспеў Торын гукнуць, як гномы выхапілі лукі і выпусцілі ўсе стрэлы. Аднак ніхто нават не пацэліў. І цяпер лукі, якія даў Беарн, зрабіліся бескарыснымі.


Змрочная была гэтая начоўка. І Адчай яшчэ больш апаноўваў іх кожны наступны дзень. Аднак калі б яны звярнулі ўвагу на паляванне і паразважалі пра белых аленяў, то ўцямілі б, што нарэшце наблізіліся да ўсходняга краю лесу.
Аднак яны не ведалі ды цягнулі з сабой цяжкага Бамбура. Праз колькі дзён у іх зусім не засталося што есці ды піць. І нічога прыдатнага да ежы не было, толькі цвіль ды цьмяная трава з непрыемным пахам.


Час ад часу яны чулі далёкі смех і спевы. Смех быў звонкі і чысты, не гоблінскі, спявалі цудоўныя і светлыя галасы, але гучала гэта дзіўнавата і вусцішна. Гномы супакоенымі не былі, а наадварот, паспяшалі адтуль, як толькі сілаў хапала.


Праз два дні яны даелі апошнія крыхі ды абгрызкі. А калі наступнай раніцой прачнуліся, першае, што адчулі, быў голад, які грыз страўнік нібы звер.
Адзіную добрую навіну нечакана падараваў Бамбур.
Фух!
Ён не разумеў дзе ён, бо забыўся на ўсё, што было пасля вечарыны ў хобітавай нары, і доўга не жадаў верыць у расповеды. А калі пачуў, што есці нічога няма, то сеў і заплакаў.


Чаму ж я толькі прачнуўся? Я сніў, што іду па лесе і трапляю на вялікае свята. Там лясны кароль у кароне з залатога лісця, там спяваюць весела, там ядуць ды п'юць так многа, што не палічыць.
І не спрабуй. А калі не можаш казаць пра штосьці іншае, то лепш памаўчы.
Ты нам і так жыццё не палегчыў.

Нічога не заставалася, як тужэй падперазаць свае жываты, ускінуць мяхі на каркі ды валачыся далей, без пэўнай надзеі пабачыць выйсце з лесу да таго, як паваліўся ды працягнем ногі з галадухі.

Што там? Мне падаецца, святло бліснула ў лесе!

Выглядае, быццам сны мае спраўдзіліся! Там будзе што з'есці ды выпіць! Хадзем туды!

З гулянкі не будзе нічога добрага, калі да яе не дабярэшся жывым. І Гэндальф, і Беарн засцерагалі нас не збочваць са сцежкі.

Але без ежы мы жывымі не застанемся ў любым выпадку!

Спрачаліся доўга, меркаванні вагаліся, але ўрэшце голад перамог, тым больш што Бамбур увесь час апісваў, якія дзівосныя смачноты елі ў сне. Таму, нягледзячы на папярэджанні, яны ўсе разам рушылі ў лес да агню.

Пасля доўгай мітусні ды пайзатні яны ўрэшце дабраліся да паляны. Там было шмат народу, з выгляду відавочна эльфы, якія сядзелі на чурбачках вакол вогнішча. Усе яны елі, пілі і весела смяяліся.

Спыняемся! Ніхто не рухаецца далей, аж пакуль я не скажу. Я пашлю спадара Торбінса паразмаўляць з імі. Яны не павінны спалохацца яго, і ў любым выпадку не павінны зрабіць яму чаго благога.

І не паспеў Більба апрануць на палец пярсцёнак, як яго выпіхнулі ў кола эльфаў.

FWOOOF

Усе агні, быццам праз якую магію, згаслі. Гномы апынуліся ў пайнюткай цемры і доўга не маглі адзін аднаго адшукаць. І, ва ўсялякім выпадку, канчаткова забылі ў якім баку была сцежка.

Більба Торбінс! Хобіт! Кляты хобіт!

Гэй, хобіт! Куды ж ты падзеўся?!

Більба.. Ай!

Ммм... Я сніў соны, усё пра абед, ды які!

Святыя нябёсы! Дакладна як Бамбур...

Непадалёк моцнае святло. Сотні паходняў ды мноства вогнішчаў загарэліся разам, відаць чарамі. І паслухайце толькі гэтыя спевы і музыку!


Паляжаўшы да паслухаўшы нейкі час, зразумелі, што трываць спакусу падысці ды папрасіць дапамогі няма як. Але гэтым разам вынік быў катастрафічны.
Святочная вячэра, якую ўбачылі цяпер, была нашмат большая ды файная. Наперадзе ўсіх сядзеў кароль эльфаў у кароне з лісця, акурат з Бамбурава сну. Эльфы перадавалі адзін аднаму кубкі, некаторыя гралі на арфах, шмат спявалі. І ў спевах, і ў тварах ззяла весялосць.


...і тут у сярэдзіну свята ступіў Торын...
FWOOOF


Попел ды вуголле паляцелі да гномавых вачэй, і зноў лес напоўніўся іх лямантам ды гуканнем.
Дваін! Балін! Торын Дубатарч!
Доры? Норы? Оры?
Оін. Глоін. Філі. Кілі.
Бамбур! Біфур! Бафур!
Гуканні астатніх паступова рабіліся цішэй і цішэй, потым заклікі сталіся жудасным лямантам і крыкамі аб дапамозе, і ўрэшце спыніліся. Хобіт застаўся сам-насам у поўнай цемры.


Гэта быў вельмі цяжкі момант. Але Більба вырашыў, што няма аніякага сэнсу высільвацца, пакуль з раніцай не прыйдзе хоць якое святло. Так што сеў хобіт спіной да дрэва і стаў марыць пра сваю норку, цудоўныя і поўныя смачнотамі яе каморы.


AAA!


THOK










Ціха і скрытна ён рухаўся наперад, да таго ж з пярсцёнкам на пальцы. Менавіта таму павукі а ні пачулі, а ні ўбачылі яго набліжэння.

Уцятая была бойка, але ж вартая таго. Упэўнены, скуры ў іх тоўстыя, аднак у сярэдзіне мусяць быць сакавітымі.

Але, добрая з іх будзе ежа, як павісяць крышачку.

Не трэба доўга трымаць. Не такія яны ўжо тоўстыя. Дрэнна харчаваліся апошнім часам, здаецца мне.

Заб'ем іх зараз. Няхай мерцвякамі павісяць.

Клянуся, яны ўжо мёртвыя.

Не. Толькі што бачыў, яка адзін дрыгануўся. Салодзенькія, прачынаюцца пасля цудоўнага сну. Пойдзем, пакажу.


Брррр..
Аб заклад б'ю, гэта бедны Бамбур.
PHUD
Не памыліся! Мясцо жывое ды брыкаецца!
Ну, хутка мы з ім скончым.
KLAP
KLOP
Пасля таго, як два павукі зваліліся мёртвымі, у павучынай калоніі пачалася мітусня, і на гномаў часова забыліся, дакладна вам кажу. Але, хоць самаго Більба не было бачна, напрамак, адкуль ляцелі камяні, было лёгка вызначыць.
Більба ж спрытна перабег у іншае месца. Да яго прыйшла ідэя адвесці раз юшаных павукоў падалей ад гномаў, калі здолее іх зацікавіць.


Стары тоўсты павук зачапіўся за сук! І не бачыць мяне стары тоўсты павук! Мухажэрца стары, адчапіся! На мяне, дуралей, азірніся!
WHUCK
Гэй, мяне не дастанеш з сука ты! Злазь хутчэй варушыся, Ды за мной давай паганіся Махналапы ты дурань пузаты!
Не вельмі добрыя вершыкі, але трэба памятаць, што хобіт сам склаў іх, ды й час не вельмі зручны для гэтага. У любым разе, ён атрымаў што хацеў.


Ад дражнілак павукі бегалі значна хутчэй, чым меркаваў хобіт. Дый разлаваліся яны неверагодна. Нават без уліку камянёў, мала якому павуку падабаюцца словы "мухажэрцы" і "стары тоўсты павук".


Усім кагалам кінуліся яны следам па зямлі і галінам, трасучы валасатымі лапамі, ляскаючы жвадламі, вырачыўшы вочы – шаленства дзікае.


Яны пераследвалі Більба столькі, колькі ён адысці асмельваўся, дый далей пабеглі. А той ціхенька прабраўся назад.


Каштоўнага часу заставалася вельмі мала, пакуль павукі не згубяць ахвоты ганяцца за ценем і не вырашаць вярнуцца да гномаў. Гномаў трэба было ратаваць.


Філі неяк ускараскаўся на галіну і з усіх сіл намагаўся дапамагчы хобіту, хоць і адчуваў сябе слабым і хворым ад павучынай атруты.


Ніхто з гномаў не быў у лепшым за Філі стане. Але пяць гномаў яшчэ віселі на дрэве, калі пачалі вяртацца павукі, раз'юшаныя і шалёныя да немагчымасці.
Бачым цябе цяпер, малы паскуднік! Зжарэм цябе, а косткі са скурай павесім на дрэва!
Ух! Джала й яго, сапраўды, джала? Усё роўна, нікуды не дзенецца, павісіць уніз галавой дзянёк-другі.


Злазьце, злазьце! Я зараз знікну!
Я паспрабую адвесці павукоў прэч, калі здолею, а вы трымайцеся разам ды рухайцеся ў супрацьлеглым напрамку. Трымайцеся лявей, ідзіце да месца, дзе мы апошні раз бачылі эльфійскія агні.


Куды дзеўся спадар Торбінс?
Не ведаю. Але паспяшайцеся, бо нас ізноў звяжуць.
Павук лянівы і дурны
Тчэ сеткі для мяне.
І хоць, канечне, я смачны,
Не зловіць ён мяне.


Спявай, і мы цябе знойдзем..


Мы.. ...ай!
THOK


Ідзіце, ідзіце, я іх паджалю трошачкі!
І сапраўды паджаліў. Ён сёк павуціннe, павучыныя лапы, тыкаў тоўстыя пузы неабачлівых. Павукі шалелі, пляваліся ды вышыпвалі праклёны. Аднак не адважваліся блізка падысці – хобітвага Джала яны баяліся смяротна.
THAK
Праклінай не праклінай, а здабыча павольна рушыла прэч. Гэты жахлівы рух, здаецца, цягнуўся гадзінамі. Нарэшце, калі Більба адчуў, што болей не здолее ўзняць меч, павукі падаліся ды павярнулі назад, да сваe лагавіны.


Вельмі хутка гномы пачалі задаваць пытанні. Пра знікненні патрабавалі патлумачыць як мага падрабязнаей, а знаходка пярсцёнка зацікавіла іх так, што яны забыліся на свае турботы.
Даведаўшыся пра пярсцёнак, гномы паважаць Більба менш не сталі, наадварот, убачылі, што ў дадатак да добрага розуму і шанцу мае яшчэ і чароўную рэч – бясспрэчна, дзеля большай карысці.


Глыкс! Каб мне добра было! Дык вось як ён побач са мной праслізнуў. Ведаю цяпер! Ой жа ж, Більба, Більба, Більб...


Дзе Торын?


Жах! Ну зразумела, іх трынаццаць, дванаццаць гномаў ды хобіт. А дзе ж на самой справе Торын? Што за злы лёс напаткаў яго, чараўніцтва ці драпежныя пачвары? Гномы ляжалі ды дзівіліся, а потым іх паглынулі цёмныя сны, надта стомленых, каб паставіць вартавых.


А Торына злавілі значна хутчэй, чым іх. Калі ён крочыў наперад на эльфавую паляну, то зваліўся, як камень, пад чарамі, а святло згасла. І ўвесь лямант гномаў, згубленых у начы, і крыкі іх пра дапамогу, калі павукі лавілі ды вязалі іх, і гукі бойкі днём – усё яго мінула. Потым да яго прыйшлі Лясныя эльфы, звязалі ды знеслі з сабой.


Ну вядома – тыя, хто спявалі ды піравалі, былі Лясныя эльфы. Яны – неблагі народ. Калі ў іх ёсць недахопы, дык гэта недавер да чужынцаў. Хоць яны і валодалі магіяй, нават у тыя дні былі насцярожаныя.
Лясныя Эльфы іншыя чым Высокія Эльфы захаду. Яны больш непрадказальныя і менш мудрыя за іх. Большая іх частка паходзіла ад плямёнаў, якія ніколі не былі ў Цудоўнай Краіне на Захадзе.
Амаль усе каралеўскія падданыя жылі ды палявалі ў лясах і мелі хаты або павеці на зямлі альбо галінах дрэў. Больш за ўсё яны любілі бярозы. А каралеўская пячора была палацам, сховішчам каралеўскіх скарбаў ды замкам супроць ворагаў.


Была яна і турмой. Таму Торына прыцягнулі да пячоры, дый не надта ласкава, бо лясныя эльфы гномаў не любілі. У старажытнасці эльфы нават ваявалі з некторымі гномамі, якіх абвінавачвалі ў крадзяжы іх скарбаў.


Праўду кажучы, гномы пра тое распавядалі інакш, дый Торынавы родзічы не мелі аніякага дачынення да той спрэчкі.


У выніку Торын быў надзвычай раззлаваны такім абыходжаннем, калі з яго знялі чары ды вярнулі да прытомнасці. Таксама ён цвёрда вырашыў, што ад яго слова не пачуюць пра золата і скарбы.


Чаму ты і твае прыспешнікі тройчы спрабавалі напасці на мой народ пад час свята.
Мы не нападалі на іх. Мы прыйшлі прасіць ежы, бо паміралі з голаду.
Дзе твае сябры цяпер і што яны робяць?
Не ведаю. Хутчэй за ўсё, паміраюць з голаду ў лесе.
Што ж вы рабілі ў лесе?
Шукалі ежу ды пітво, бо паміралі з голаду.
Што ж вас увогуле прывяло ў лес?
Добра! Вывядзіце яго ды трымайце добра, лепш за ўсё ў моцнай каморы, пакуль не адчуе больш ахвоты распавесці праўду.
Вось так і апынуўся небарака Торын у турме, і, калі досыць ад'еўся ды падзякваў эльфам ды лёсу за нядрэннае харчаванне, пачаў думаць, што ж здарылася з яго сябрамі. І даведаўся пра гэта даволі хутка.


На наступны дзень пасля бойкі з павукамі Більба і гномы зноў паспрабавалі знайсці выхад. Ранкам яны падняліся, паспрачаліся крыху наконт таго, у якім баку сцежка, і пайшлі, куды захацелі восем з трынаццаці. Але даведацца, чыя была рацыя, ім не давялося.


Пра бойку і думаць не было чаго. Нават калі б гномы не былі ў такім стане, што палон ім здаваўся шчасцем, бо што іх нажы супроць лукаў? Эльфы здольныя пацэліць у цемры ў птушынае вока.
Більба хуценька насунуў на палец пярсцёнак ды скочыў убок. Таму эльфы яго і не заўважылі.


Гномам пазавязвалі вочы, але можна было і не старацца, бо Більба і з расплюшчанымі вачыма не бачыў куды рухаецца, а адкуль пачаўся рух ні ён, ні гномы не ведалі.


Эльфы прагналі палонных цераз мост і Більба прыпыніўся ў хваляванні. Ён вырашыў не пакідаць таварышаў якраз тады, калі апошнія эльфы ўваходзілі ў браму. Хобіт ледзь паспеў прашмыгнуць за імі, і вялікія каралеўскія дзверы зачыніліся за яго спіной.


У маім доме вяроўкі ім не патрэбныя. Чароўная брама нікога не выпусціць адсюль без майго дазволу.


У чым жа мы вінаватыя, о кароль? Ці ж злачынства заблукаць у лесе, ледзь не памерці ад голаду і смагі, быць палонным павукоў. Ці мо яны – твае хатнія жывёлы?


Злачынства – бадзяжыць у маім каралеўсве без майго дазволу. Ці ж вы забыліся што заходзіцеся ў маіх уладаннях, карыстаецеся шляхам, які праклаў мой народ? Ці жне вы тройчы турбавалі і пераследвалі мой народ?
Пасля ўсяго, што вы нарабілі, я маю права даведацца, чаму вы сюды з явіліся. Калі я не даведаюся зараз жа, я загадаю трымаць вас, аж пакуль вы не прыдбаеце крыху розуму й добрых манераў!




Я быццам злодзей, які не здольны ўцячы і кожны дзень прымушаны рабаваць той самы дом!

Вось яна – самая занудлівая і брыдкая частка гэтай няшчаснай, недарэчнай, няўтульнай, дурной авантуры!

Хацеў бы я зноў апынуцца ў сваёй норцы перад агменем і каб лямпа ззяла!

Часта ён таксама думаў, каб нейкім чынам паслаць вестку да чараўніка, што, відавочна, было немагчымым. Так што хутка давялося ўцяміць, што калі нехта тут што і зробіць, то гэта будзе менавіта Більба.

Нарэшце, пасля тыдня-другога гэтага патаемнага жыцця, хоббіт здолеў угледзець, дзе трымаюць кожнага з гномаў. Як жа ён здзівіўся, калі аднойчы пачуў у размове пра нейкага палоннага гнома ў асабліва далёкім, цьмяным кутку палаца.

Хобіт адразу здагадаўся, што гэта ніхто іншы, як Торын, – і хутка пераканаўся ў гэтым.

Торын ледзь паверыў сваім вушам, калі пачуў хобітава шапаценне ў замковай шчыліне, а пасля доўга размаўляў шэптам з ім. Більба здолеў перадаць яго словы кожнаму вязню. Сказаў, што іх правадыр у турме побач з імі, ды каб ніхто пра планы каралю не распавядаў – пакуль Торын не загадае.

Бо Торынаў настрой значна палепшаў, калі ён даведаўся пра выратаванне сяброў ад павукоў і пра хобітавыя здзяйсненні. Торын вырашыў не адкупляцца ад караля абяцаннямі часткі скарбаў, пакуль надзея на ўцёкі не знікне цалкам.

Іншымі словамі, пакуль адметны спадар Нябачны Торбінс (да якога Торын пачаў ставіцца з вялікай павагай) канчаткова пераканаецца ў нездольнасці знайсці выйсце.

Астатнія, вядома, пагадзіліся цалкам.

Аднак хобіт не адчуваў сябе такім упэўненым. Ён сядзеў і думаў, думаў, пакуль галава ледзь не разарвалася, а што толку? Пярсцёнак нябачнасці – рэч цудоўная, аднак яго на чатырнаццаць пальцаў мала.

Канечне, ён урэшце рэшт уратаваў сваіх сяброў, і вось як гэта адбылося…


Адным разам Більба выпадкова даведаўся незвычайную рэч: чарoйная брама не была адзіным выйсцем з палацу!
Пад ім цякла рака, якая трохі далей на Усход упадала ў Лясную Раку. І там, дзе рака выходзіла з-пад гары, была другая, рачная, брама. Каменная столь даходзіла амаль да самай вады, з яе можна было спускаць краты, якія не дазвалялі нікому прайсці або праплысці.


У адзіным месцы, дзе тунэль праходзіў пад пячорамі, яго столь была прарэзаная і зачыненая вялізным дубовым люкам. А люк той адчыняўся наверх, да каралеўскіх кладовак, застаўленых мноствам бочак і бочачак. Лясныя эльфы вельмі любілі віно, а яго даводзілася везці здалёк, ад эльфавай радні з Поўдня, ці з людскіх вінаграднікаў.


Калі бочкі спусташаліся, эльфы каціліі іх да люка, адчынялі яго і рачную браму, скідвалі. І яны плылі сабе, падскокваючы ды кулячыся. Пакуль не даплывалі за ўсходні край Ліхалесся, дзе ад берага адыходзіла доўгая каса. Туды бочкі прыбівала плынню, іх збіралі, звязвалі ды скіроўвалі зноў да Рачнога Горада...
... Ён быў пабудаваны на мастах пасярод возера, каб бараніцца ад розных ворагаў, а асабліва ад цмока з Гары.


Нейкі час Більба сядзеў ды разважаў пра рачную браму, ці можна выкарыстаць яе, каб ратаваць сяброў, і нарэшце прыйшоў у ягоную галаву адчайна дзёрзкі план.


Ці не хочаш ты са мною глынуць новага вінца, якое толькі што прывезлі? Пойдзем, пакаштуем! У мяне сёння працы — безліч, так што давай вып'ем крыху, каб лепш працавалася.
Добра! Пачастуемся! Трэба ж высветліць, ці прыдатнае новае віно да каралеўскага стала!


Гэта было найвялікшай удачай для Більба! Патрэбна моцнае віно, каб прымусіць ляснога эльфа дзяўбсці носам, але ж гэтае віно, верагодней за ўсё, было найлепшага гатунку вялікіх садоў Дарвініёна і прызначалася не для слугаў, а для каралеўскай вячэры, і піць яго належыла маленькімі чаркамі, а не куфлямі.


ZZHNR
ZZHNNR


ZZHNR

Першымі Більба адчыніў Балінавы дзверы і зачыніў іх зноўку, як толькі гном выйшаў.

Рухайцеся за мной! Уцякайма разам, альбо зусім не ўцякаем, гэта апошні шанец. Калі знойдуць, страшна нават падумаць куды кароль вас запіхне зноў. Не спрачайцеся, пойдзем!

Так і пайшлі яны ад дзвярэй да дзвярэй, пакуль не сабраліся дванаццёра. Нарэшце, пасля доўгіх бадзянняў дабраліся да Торынавай каморы, схаванай далёка і глыбока, аднак, на шчасце, побач з выратавальным люкам.

Клянуся! Як і звычайна, Гэндальф меў рацыю. Неблагі ж узломшчык з вас атрымаўся, калі надышоў час.

Упэўнены, мы ўсе заўсёды будзем удзячныя вам за дапамогу. Але што далей?

Більба ўбачыў, што надышоў час растлумачыць свой план, але ж зусім не быў упэўнены ў тым, як гномы паставяцца да яго задумы. І не дарма баяўся, бо гномам план зусім не спадабаўся.

Нас паб'е і патрушчыць, мы патонем ці ўвогуле костак не сабяром!

Мы думалі, табе да галавы прыйшло нешта разумнае, калі ўжо здолеў ключы здабыць.

Вар'яцкая ідэя!

Ну добра! Вяртайцеся ў свае ўтульненькія каморы, я вас зноў зачыню, вы сядзіце там ціхутка, пакуль не прыдумаем новы план – але ж наўрад ці я яшчэ калі здолею здабыць ключы. Зразумела, калі ўвогуле будзе жаданне іх здабываць.

На гэта пярэчыць не было чым, і гномы супакоіліся. Яны ціхутка рушылі ўслед за хобітам да ніжніх камораў..

..дзе Більба дабрасардэчна прывесіў ключы назад да пояса ачольцы варты.

Хоць трошачкі дапаможа небараку пазбегнуць турботаў. Неблагі хлапец, і да вязняў ставіўся някепска. Дык эльфаў азадачу. Палічаць, пэўна, што гномы карысталіся вельмі моцнай магіяй, каб знікнуць...

Знікнуць!

Але мусім варушыцца, каб гэта адбылося на самой справе!

Часу заставалася – драбок. Як Більба ведаў, хутка якім-небудзь эльфам загадаюць сысці й дапамагчы дамараднiку скінуць пустыя бочкі ў раку.

Некаторыя з бочак былі з-пад віна, і ад тых карысці не было – паспрабуй адчыніць іх без грукату і шуму, а тым больш зноўку зачыніць! Але некаторыя былі з-пад яблыкаў ці алею, ці іншых рэчаў, што завозіліся ў каралеўскі палац.

Хутка адшукалася трынаццаць даволі прасторных.

Більба зрабіў што мог, каб пазатыкаць усе дзюркі і прышпунтаваць накрыўкі да бочак.

Балін, які прыйшоў апошні, усё непакоіўся пра дзіркі для дыхання і казаў што няма чым дыхаць, калі накрыўку яшчэ нават не прымацавалі.

Ну дзе ж стары Галіён, наш дамараднік? Я не бачыў яго за сталом. Яму трэба быць тут, каб паказаць нам, што рабіць.

Раззлуюся, калі стары маруда спазніцца. У мяне няма аніякага жадання быць тут, калі ўверсе балююць!

Ха-ха! Вось ён, злодзей стары, з галавой у келіху! У яго з сябрам ачольцам сваё прыватнае застолле!

Трасі яго! Будзі яго!

Вы спазніліся! Я тут чакаў вас, чакаў, пакуль вы спявалі ды танчылі, а на свае абавязкі забыліся. Чаму ж здзіўляцца, што я ад стомленасці і заснуў!

Чаму ж здзіўляцца, калі тлумачэнне стаіць побач на стале ў куфлі!

Галіён! Ці ж ты пачаў святкаваць надта рана і зусім мазгі твае затуманіліся? Ты тут паставіў пайнюткія бочкі замест пустых, калі меркаваць па цяжару.

У руках лайдакоў усё падаецца цяжкім, няма тут чаму здзіўляцца. Менавіта гэтыя бочкі трэба паскідаць, аніякія іншыя! Рабіце, што загадана!

Ну добра, добра! Сам адкажаш, калі бочкі з найлепшым каралеўскім віном і алеем сплывуць па рацэ да Доўгага Возера – тамтэйшаму люду дармовы пачастунак!

Грук-грук-грук-грук,
Грук – каціся, бочка, у люк!
Націскай! Плясь, плюх!
Бочка – у плыню – вух!
Бух!


Якраз у гэты момант Більба і знайшоў слабое месца ў сваім плане. Верагодна, вы яго дайно ўжо заўважылі ды пасмяяліся з яго. Але сумняюся, што вы і напалову так добра справіліся б на Більбавым месцы. Ну вядома, сам жа ён не сядзеў у бочцы, і ніхто яго не запакаваў, калі б і была магчымасць!


І вось самая апошняя бочка падкацілася да люка! З адчаю, не ведаючы што ж рабіць, Більба схапіўся за яе – дый быў скінуты разам з ёй.


Хобіт вынырнуў, адплёўваючыся, схапіўся за цабэрак, нібы пацук, але ж як ні намагаўся, наверх ускараскацца не змог. Хобіт застаўся ў цёмным тунэлі, у ледзяной вадзе, зусім адзін – не браць жа ў разлік сяброў у бочках.
POOOSHH


Ён пачуў рыпенне кратаў, якія цягнулі наверх, і раптам зразумеў, што знаходзіцца ў сярэдзіне натоўпу розных бочак і бочачак, што збіліся ў кучу і імкнуцца праціснуцца пад арку на волю.
Спадзяюся, што сапраўды добра замацаваў накрыўкі!


Більба не прамінуў магчымасці ўскараскацца на сваю бочку, пакуль тая была заціснутая іншымі. Ускараскаўся, быццам прытоплены пацук, лёг на бочку і не варушыўся, каб не кульнуцца.
Вецер ледзяніў, але менш за ваду, заставалася толькі спадзявацца, што раптоўны штуршок не скіне яго ў раку.


Добра, што ён быў лёгкім, а бочка трапілася агромністая ды цяжкая, пэўна, набрала крыху вады. Усё роўна, гэта было падобна да язды без сядла ды страмёнаў на круглым поні, які быў перакормлены, слізкі й заўсёды хацеў пакачацца ў траве.


Вось так спадар Торбінс дабраўся да месца, дзе дрэвы з кожнага бору раслі менш шчыльна, і між імі можна было бачыць цьмяныя нябёсы. Цёмная рака раптам раздалася і троху далей злілася з Лясной Ракой, якая бегла ад каралеўскай вялікай брамы.


На беразе стаялі напагатове эльфы. Яны ўмела пачаплялі ды пазганялі бочкі ў адно месца і, пералічыўшы іх, звязалі ды пакінулі да раніцы.

Бедныя гномы! Більба было не так ужо і блага. Ён спаўз з бочкі й пачапаў на бераг, дзе бачыў хаткі непадалёк. Цяпер ён не раздумваў, калі выпадала магчымасць павячэраць за чый-небудзь кошт. Ужо доўгі час давялося займацца гэтым, ды й занадта добра ён ведаў, што гэта такое – сапраўдны голад.

Таксама ён заўважыў і зіхаценне вогнішча паміж дрэваў, і гэта прывабіла яго яшчэ больш, бо мокрае ды падранае адзенне ліпла да скуры, і было ў ім няўтульна.

Няма патрэбы распавядаць пра прыгоды Більба гэтай ночы, бо мы набліжаемся да канца падарожжа на Усход, і да апошняй, самай незвычайнай прыгоды, таму трэба спяшацца.

Зразумела, спачатку хобіту дапамог чароўны пярсцёнак, але ж яго выдавалі лужынкі ў слядах і кроплі, што падалі з адзення, як толькі ён спрабаваў прысесці ці спыніцца. Да таго ж пачаўся насмарк, і як не хаваўся Більба, заўжды яго вызначалі па чыхах, якія вырываліся са страшным гукам.

Хутка ўзварушылася ўся прыбярэжная вёска, але Більба ўцёк-такі да лесу з боханам хлеба, бутляй віна ды пірагом. Рэшту ночы давялося правесці далёка ад вогнішча, але ён здолеў падрамаць на сухім лісці, дарма што восень канчалася.

Прачнуўся ён ад асабліва гучнага чыху. Ужо займалася раніца, а з ракі даносіўся шум і вясёлы гоман.

Эльфы рабілі плыты з бочак, каб на іх даплыць да Доўгага Возера. Більба з усіх сіл пакульгаў да іх з усім спрытам, на які былі здатныя яго змярцвелыя ногі, і патрапіў акурат у час, каб схавацца за кучаю цабэркаў і не трапіць каму-небудзь пад ногі ў агульнай мітусні.

Цяжка нагружаныя, надта глыбока сядзяць! Дакладна некалькі пайнюткіх. Калі б іх прыбіла ўдзень, абавязкова б зірнулі.

Часу няма! Штурхай!

І яны паплылі. Спачатку паціху, а потым усё спрытней і спрытней, выплылі да галоўнага струменя і панесліся ўніз, уніз да Доўгага Возера

Так кампанія ўцякла са скляпенняў эльфійскага караля ды прайшла праз лес, але жывой ці мёртвай – яшчэ пабачым.

Яны ўсё плылі і плылі, і дні зрабіліся ўжо зусім светлымі і цёплымі.

Раптам рака павярнула ўздоўж высокага стромістага мысу. Паварот быў круты, таму галоўны струмень імчаў над самай падэшвай мысу, клакатаў і выплёскваўся хвалямі.

Раптам каменная сцяна знікла. Берагі засталіся за спіной. Дрэвы скончыліся.

І Більба ўбачыў:



Хоць і жудасна было Більба блукаць па каралеўскім палацы і цяпер не дужа прыемна (не будзем казаць пра бедных гномаў у бочках пад ім), пашанцавала яму значна больш, чым здавалася.

Эльфава дарога праз лес, якой ішлі гномы, каля ўсходняга свайго канца гублялася, трапляла ў вусцішныя мясціны, і ёй амаль не карысталіся. Толькі па рацэ і можна было ў бяспецы вандраваць з паўночных краёў Ліхалесся да раўнінаў каля Гары.

Ведаў толькі, што рака цвірчыць і булькоча без краю і канца, што ён галодны і хворы на жудасны насмарк і што Гара не надта прыемна набліжаецца і, здаецца, пазірае на яго ўсё больш пагрозліва ды жахліва.

Тутэйшыя землі значна змяніліся з тых часоў, калі гномы жылі пад Гарой. Рэкі, што беглі на ўсход, узняліся ад залеваў і даждзоў. Балоты ды багны пашырыліся ва ўсе бакі.

Більба, у рэшце рэшт, трапіў на тую адзіную дарогу, па якой можна было дасягнуць мэты. Але ён гэтага не ведаў.

Праз нейкі час, аднак, рака павярнула на поўдзень, і Гара зноў зменшылася.

Сонца схавалася за гарамі, калі пасля яшчэ аднаго павароту на Ўсход лясная рака рушыла ў Доўгае Возера.

Доўгае Возера! Більба і ўявіць сабе не мог, што возера можа выглядаць такім вялізным. Такім яно было шырокім, што супрацьлеглыя берагі здаваліся маленечкімі, і такім доўгім, што паўночны край, які ляжаў у напрамку Гары, зусім не быў бачны!

Непадалёк ад вусця Лясной Ракі стаяў дзіўны горад, які ўзгадвалі эльфы ў каралеўскіх кладоўках. Ён быў пабудаваны не на беразе, а проста на вадзе. І быў гэта горад не эльфійскі, а чалавечы, тых дзёрскіх людзей, якія адважыліся жыць у цені захопленай цмокам гары.

Яны няблага жылі за кошт гандлю па вялікай рацэ з Поўдня, але ж у старадаўнія часы, калі горад Дол быў заможным, азёрныя жыхары мелі сапраўднае багацце і моц ды трымалі цэлы флот на возеры.

Аднак людзі памяталі няшмат. Некаторыя, праўда, спявалі песні пра гномавых каралёў Гары, пра з'яўленне цмока і пра гібель уладароў Долу. Спявалі і пра тое, што Трор з Трэйнам павінны некалі вярнуцца, і золата паплыве па рэках праз горную браму, і ўся навакольная зямля напоўніцца смехам і новымі песнямі. Але, зразумела, такія паданні не вельмі ўплывалі на штодзённае жыццё.


Як толькі плыт з цабэркаў убачылі з горада, адтуль адразу ж павеславалі насустрач чаўны і некалькі галасоў пракрычалі вітанні. Потым працягнулі вяроўкі, эльфы налеглі на вёслы, і хутка плыт быў выцягнуты з Лясной Ракі і прышвартаваны каля найбліжэйшага да берага краю моста, што вёў у горад.


Хутка з'явіліся б сюды людзі з Поўдня, забралі б колькі бочак з сабою, а астатнія тутэйшыя жыхары напоўнілі б таварамі, што прывезлі для эльфаў людзі з Поўдня, і адаправілі назад, уверх па Лясной Рацэ. Пакуль жа бочкі пакінулі плаваць, а эльфы-плытагоны разам з людзьмі скіраваліся павячэраць у Азёрны Горад.


Вось бы здзівіліся яны, калі б убачылі, што адбылося пазней, калі згусціліся начныя цені, а плытагоны паселі баляваць.


Вох.. вох...


Добра, але – мёртвы вы ці жывы? Ці ж вы ў турме, ці на волі? Калі вы галодны, калі жадаеце далей цягнуць гэтую бязглуздую авантуру (яна – цалкам ваша ідэя, не мая), тады лепш паварушыце рукамі, патрыце ногі й дапамажыце мне вызваліць астатніх з бочак.


Зразумела, Торын згадзіўся, і пасля яшчэ тузіна стогнаў узняўся й дапамог хобіту як здолеў. Гэта была не надта лёгкая ды бяспечная праца – адшукаць патрэбныя цабэркі, бадзяючыся па вадзе ў цемры.


Спадзяюся, у жыцці больш яблыка не панюхаю! Уся мая бочка прапахла імі. Увесь час адчуваць яблычны пах, калі варухнуцца амаль не можаш, змерз і галодны як сабака, – звар'яцець можна! Я б цяпер усё на свеце з'еў, гадзінамі б жэр – але не яблыкі, крый нябёсы, не яблыкі!
Больш за астатніх не пашанцавала Баліну ды Дваліну. Біфуру з Бафурам дасталося менш. А Філі і Кілі выбраліся вонкі амаль усміхаючыся, ну можа, з сіняком-другім.
Бедны таўстун Бамбур ці то спаў, ці страціў прытомнасць. Доры, Норы, Оры, Ойн ды Глойн амаль патанулі і былі ледзь жывыя. Іх давялося несці аднаго за адным на бераг ды класці шэрагам – ачуняць.

Добра! Нарэшце, дзякуючы шчаслівай зорцы ды спадару Торбінсу, дабраліся. Упэўнены, што ён заслужыў найвялікшую падзяку, хоць я быў бы больш удзячны за іншы спосаб перамяшчэння. Але – усе мы зноў найбольш шчыра да вашых паслуг, спадар Торбінс. Безумоўна, пачуццё ўдзячнасці яшчэ глыбей кране нашы сэрцы, калі мы падсілкуемся ды як след адпачнем. А да таго – што цяпер будзем рабіць?

Мая прапанова– Азёрны Горад. Што яшчэ?

Вядома, нічога іншага немагчыма было прапанаваць. Таму Торын з хобітам ды Філі з Кілі пакінулі астатніх ды пашыбавалі ўздоўж берага да вялікага маста.

Уваход на яго вартавалі, але не надта пільна, бо ўжо даўно асаблівай асцярожнасці не патрабавалася. Нядзіўна, што вартавыя пілі ды рагаталі, седзячы каля вогнішча ў сваёй халупе, ды не чулі ні шуму, які нарабілі гномы, адчыняючы бочкі, ані крокаў.

Хто такі і чаго жадаеш?

Торын, сын Трэйна, сына Трора, Караля-Пад-Гарой! Я вярнуўся. Я жадаю бачыць Гаспадара вашага гораду!

Мітусня пачалася неверагодная. Некаторыя з дурасці нават за дзверы павыскоквалі, быццам на самой справе чакалі, што Гара ўночы засвеціцца золатам і ўся азёрная вада пажаўцее ў тое самае імгненне.

А хто гэта?

Калі вы прыйшлі з мірам, пакладзіце вашу зброю!

Сыны дачкі майго бацькі, Філі і Кілі, нашчадкі Д'юрына, і спадар Торбінс, які падарожнічае разам з намі з Захаду.

І гэта была праўда, бо нажы і вялікі меч Оркрыст у іх забралі Лясныя эльфы.

Мы яе не маем.

Більба меў свой кароткі меч схаваным, як заўжды, і нічога пра яго не сказаў.

Зброя нам не патрэбная, бо мы вяртаемся забраць сваё, як і было прадказана. Ды і зашмат вас для нас, каб змагацца.

Вядзіце нас да свайго ўладара!

Ён балюе.

Тым больш прычынай прывесці нас да яго. Мы стомленыя і згаладалыя пасля доўгага падарожжа, таварышы нашыя хворыя.

Давайце паспяшаемся і не будзем дарма губляць словы, альбо ваш Бурмістр, магчыма, скажа вам нешта не прыемнае.

Хадзем за мной.

Я – Торын, сын Трайна, сына Трора, Караля-Пад-Гарой!
Я вярнуўся!
Гэта вязні нашага караля, гномы-бадзягі, якія не здолелі нават пра сябе як належыць распавесці, шнарылі па лесе ды турбавалі наш народ!
Ці гэта так?
Праўда, што людзі Караля эльфаў злаўмысна напалі на нас, без усялякай рацыі ўзялі ў палон, калі мы падарожылі да сваёй уласнай зямлі.
Але ні замкі, ні краты не спыняць вяртання, якое было прадказанае з даўнейшых часоў. Азёрны Горад не належыць да каралейства эльфаў. Я размаўляю з Бурмістрам гораду, не з плытагонамі чужога караля.

Гаспадар відавочна завагаўся. Кароль эльфаў быў моцнай асобай у наваколлі, сварыцца з ім Бурмістр не жадаў і пра старыя песні не думаў, турбуючыся больш пра гандаль ды падаткі, грузы ды золата – таму менавіта ён і атрымаў сваю ўладу.

Астатнія, аднак, думалі інакш, і таму справа вырашылася без Бургамістра.

Шчаслівай парою вярнуўся Ўладар Кароль-Пад-Гарою, Гары Гаспадар!
Ракой залатою багацце бяжыць Кароль-Пад-Гарою, з ім весела жыць!

Тое, што вярнуўся не сам Трор, а ягоны ўнук, нікога не турбавала. Нават у Більба не пыталіся, хто ён і адкуль ён, хоць аніякія песні не ўзгадвалі яго ні на каліва.

Што да Бурмістра, ён не бачыў нічога лепшага, як скарыцца агульнаму настрою (на пэўны час, ва ўсялякім разе) і прыкінуцца, быццам паверыў Торынавым словам.

Хутка прынеслі ў горад астатніх гномаў. Выбух энтузіязму быў надзвычайны. Гномаў лячылі, кармілі, абыходзіліся з імі самым прыемным чынам. Торыну з кампаніяй выдзелілі вялікі дом, і хутка яны ад еліся ды ўзмацнелі зноў. І іх добрыя пачуцці да хобіта раслі з кожным днём.Е

Аднак Більба не забыўся, як выглядала Гара, і пра цмока таксама. Да таго ж тры дні яго даймала жудасная прастуда.

Дгакуй фам фяліхі.

Пасля двух тыдняў Торын пачаў думаць пра ад езд. Пакуль энтузіязм у горадзе яшчэ не зусім згас, трэба было паклапаціцца пра дапамогу. Ён размаўляў з Бурмістрам і ягонымі дарадцамі і скзааў, што хутка з кампаніяй скіруецца да Гары.

Тады Бурмістр упершыню здзівіўся ды напалохаўся і падумаў, ці не на самай справе Торын – нашчадак старажытных Каралёў.
Але Бурмістр не шкадаваў, што дазволіў гномам сысці, бо іх утрыманне дорага выходзіла.

Вядома, о Торын, сын Трэйна, сына Трора! Вы павінны патрабаваць сваё!

Мы дапаможам, як толькі здолеем, і верым у вашу ўдзячнасць за дапамогу, калі ваша каралеўства ізноў будзе вашым.

Вось так позним восеньскім днём тры вялікія чоўны пакінулі Азёрны Горад. Яны везлі весляроў, гномаў, спадара Торбінса, шматлікія запасы ды рыштунак. Коней і поні адправілі берагам, дамовіўшыся на сустрэчу ў пэўным месцы.

Бурмістр са сваімі дарадцамі развіталіся з гномамі ля вады. Людзі навокал спявалі.

Толькі Більба, адзіны з усіх, быў рашуча нешчаслівы.


За два дні праплылі яны Доўгае Возера і дабраліся да ракі Струмяніцы. За тэці дзень перааадолелі некалькі міляў уверх па рацэ ды прысталі да левага берага, каб выгрузіцца.
Яны напакавалі на поні што толькі здолелі, астатняе давялося пакінуць на месцы, у намёце. Ніводны з гарадскіх людзей не пажадаў нават адну ноч правесці разам з імі, так блізка да Гары.


Наступнаю раніцою рушылі ў дарогу. Павольнае гэта было падарожжа і таемнае. Усе ведалі, што яны набліжаюцца да канца вандроўкі, і канец гэты можа быць вельмі страшным.
Зямля навокал ляжала шэрая, спустошаная, хоць калісьці, як распавядаў Торын, мясціны зелянелі тут травой і радавалі вока. Урэшце рэшт, пад самы канец восені, яны дабраліся да Цмокавай Пустэчы.


Адгор'яў дасягнулі гэтак жа спакойна, не сустрэўшы якой небяспекі ці якіх адзнакаў цмокавай прысутнасці, акрамя пустэльні, якую стварыў цмок вакол свайго бярлогу. Першы лагер разбілі на заходнім схіле вялізнага паўднёвага адгор'я, які канчаўся узгор'ем пад назвай Крумкачова Строма. Вышэй быў старажытны вартавы пост, але ніхто пакуль што не асмеліўся туды ісці.


Перад тым, як скіравацца шукаць патаемныя дзверы (на якія толькі ўсе і спадзяваліся), Торын выслаў экспедыцыю з разведкай на поўдзень, туды, дзе знаходзілася Пярэдняя Брама.
Вось і ўсё, што засталося ад Дэйла. Схілы Гары былі зялёныя і кудлатыя ад дрэваў, а схаваная Гарой даліна – багатая і ўтульная ў тыя дні, калі звінелі ў гэтым горадзе званы.
Балін быў прыспешнікам Торына ў той дзень, калі з'явіўся цмок.


Вяртаемся!
Няма тут карысці! А чорныя птушкі мне зусім не падабаюцца. Яны падобныя да шпіёнаў.
Цмок яшчэ жывы і ляжыць сабе ў залях пад Гарой, так я мяркую, бо ідзе дым.


Не абавязкова. Хоць я не сумняваюся, што ты маеш рацыю. Але ж ён мог паляцець некуды або залегчы на горным схіле, каб назіраць за мясцовасцю, аднак дым і пара ўсё роўна выходзілі б з брамы. Усе скляпенні поўныя яго мярзотнасцю.


З такімі вось невясёлымі думкамі, са злавесным крыкам над галовамі, стомленыя, вярнуліся яны ў лагер. Яшчэ ў ліпені гасцявалі яны ў цудоўным доме Элронда. Хоць зіма толькі пачыналася, здавалася, гэта было шмат гадоў таму. Цяпер жа яны засталіся адныя, у пустэчы, без надзеі і дапамогі. Падарожжа падышло да канца, але ж тое, з-за чаго яно пачалося, быццам і не кранаелася з месца.
Агульны настрой быў такім, што горш ужо няма куды.

Дзіўна, але ў спадара Торбінса настрой сапсаваўся меней, чым у астатніх. Часта хобіт пазычаў у Торына мапу ды ўглядаўся ў яе, разважаючы пра руны і месяцовыя літары, якя прачытаў Элранд.

Менавіта хобіт прымусіў усіх распачаць небяспечныя пошукі сакрэтных дзвярэй на заходніх схілах.

Яны перанеслі лагер у доўгую даліну, больш вузкую за тую, дзе знаходзілася Брама. Там менш адчуваліся сляды цмокавага шаленства, нават знайшлася трава для поні.

З гэтага лагера, які ўвесь дзень ляжаў у цені ад Гары і адрожных сцянаў, гномы выходзілі дзень за днём шукаць сцежкі на горных схілах. Калі мапа не хлусіла, дзесьці непасрэдна над пачаткам даліны павінны былі знаходзіцца таемныя дзверы.

Аднак дзень за днём гномы вярталіся ў лагер без поспеху.

Нарэшце яны нечакана знайшлі-такі тое, што шукалі. Аднойчы Філі з Кілі ды хобіт убачылі рэшткі сцяжынкі, якая часам была добра бачная, часам гублялася, але вывела іх наверх паўночнага адгор'я і далей, да яшчэ вужэйшай паліцы, што цягнулася на поўнач па схіле.

Зірнуўшы ўніз, яны пабачылі, што знаходзяцца над пачаткам даліны і пазіраюць акурат на свой лагер.

У канцы сцежкі адкрылася маленькая пляцоўка, атачаная высокімі скаламі, парослая травой, спакойная і ціхая. Яе немагчыма было ўбачыць знізу, бо скалы навісалі над ёй, цяжка заўважыць было і здалёк, бо яна выглядала акурат як цёмная шчыліна ў баку гары.

Ззаду пляцоўкі была вертыкальная сцяна, ніжэйшая частка якой была надзіва гладкай, але ж без адзінай дзірачкі альбо шчылінкі. Таксама ні замка, ні ручак, ні засавак, ні завесаў, ані краёў і створак, ані ганка, але ж аніякіх сумневаў, што знайшлі, нарэшце, дзверы!

Яны калацілі па іх, білі і штурхалі, цягнулі, загадвалі рухацца, уяўлялі іх адчыненымі, казалі ўрыўкі чараў адмыкання — нічога не варухнулася.

У рэшце рэшт стаміліся і ўвечары пачалі спускацца назад.

З Азёрнага Горада яны прывезлі мноства розных інструментаў, і спачатку спрабавалі нешта зрабіць імі. Аднак калі яны ўдарылі па камяні, тронкі пашчапаліся, лёзы ды абухі паламаліся ды пакрывіліся, а рукі гномаў ледзь не павыкручваліся.

Стала відавочна, што супроць магіі ад інструментаў няма карысці, дый рэха ад бразгання аб дзверы ляцела гулкае і жудаснае.

Для Більба гэтае сядзенне на "ганку" здавалася сумным ды стамляльным. Зразумела, насамрэч ніякага ганку там не было, проста так празвалі паласу травы пад сцяной, памятаючы Більбавы словы шмат часу таму на нечаканай вечарыне ў хобітавай норцы, калі ён сказаў, што сядуць на ганку, пакуль не дадумаюцца да чаго-небудзь.

Калі гномы пыталіся, што ж ён робіць, хобіт адказваў: "Вы казалі, што мая справа – сядзець на ганку і думаць, вось я сяджу і думаю".

Але ж, баюся, няшмат ён думаў пра справу, а больш пра тое, што было далёка-далёка, у спакойных Землях Захаду, пра Строму і ўтульную нару пад ёй.











У лагеры той ноччу панавала ажыўленне. Ранкам, пакінуўшы Бафура з Бамубрам, каб вартавалі поні і прыпасы, гномы падняліся па знойдзенай сцежцы да пляцоўкі. Там яны разбілі трэці лагер, прыцягнуўшы знізу патрэбныя рэчы на вяроўках.

Час ад часу на вяроўцы спускалі аднаго з маладзейшых гномаў, кшталту Кілі, каб абмяняцца навінамі ці дапамагчы вартаваць, пакуль Бафура цягнулі наверх да лагера. Бамбур адмовіўся падымацца ўверх.





Як вы далей пабачыце, яму пашанцавала, што ён памыліўся.


KRAK


У гэты момант за спіною Більба рэзка нешта стукнула. На камяні сярод травы сядзеў вялізны дрозд. Ён схапіў смаўжа і стукнуў яго аб камень.
KRAK KRAK
Раптам Більба зразумеў.


Забыўшыся на небяспеку, ён усхапіўся і пачаў клікаць гномаў, махаючы рукамі. Бліжэйшыя да яго пабеглі, спатыкаючыся аб камяні, альбо панесліся з усёй хуткасцю, дзівячыся, што ж там адбываецца.


Хутка Більба растлумачыў. Усе сціхлі.
Сонца спускалася ўсё ніжэй і з ім апускаліся надзеі. У рэшце яно апусцілася ў паласу пачырванелых аблокаў. Гномы застагналі. Більба стаяў нерухома.


І знянацку, калі надзея зусім ужо знікла, чырвоны сонечны прамень, быццам палец, вытыркнуўся праз дзірку ў аблоках. Ён прайшоў проста да пляцоўкі і ўпаў на гладкую паверхню скалы.


PIP
PIP
PIP
KRRAK


Ключ! Ключ! Дзе Торын? Ключ, які быў з мапай! Паспрабуй зараз жа, пакуль ёсць час!

Цяпер усе разам яны навaліліся на дзверы, і павольна частка скальнай сцяны паддалася. Доўгія прамыя шчыліны з'явіліся і пачалі пашырацца. Хутка акрэсліліся дзверы ў пяць лакцёў вышынёю і тры шырынёю і павольна, бязгучна адышлі назад.

KLAK

Здавалася, цемра паплыла быццам дым з дзіркі ў горным схіле. Глыбокая, густая цемра, дзе нічога не бачна і ўвогуле нічога няма, стала перад вачыма, нібы раскрытая пашча, што кліча ў глыбіню Гары – і ўніз.

Вось цяпер прыспеў час для нашага шаноўнага спадара Торбінса, які зарэкамендаваў сябе добрым таварышам у нашым нялёгкім падарожжы, які мае адвагу, вынаходлівасць і працоўныя здольнасці, – мусіць ён саслужыць нам тую службу, дзеля якой і быў абраны ў якасці ўдзельніка кампаніі. Зараз прыйшла пара яму зарабіць узнагароды.

Калі ты маеш на ўвазе, што гэта менавіта мой абавязак – лезці першым у таемныя дзверы, о Торын Дубатарч, Трэйнаў сын, каб твая барада вырасла яшчэ даўжэй, – то так і скажы! Я мог бы адмовіцца.

Я ўжо выцягваў вас з дзвюх калатнечаў, што наўрад ці ўваходзіла ў наша пагадненне. Так што якую-колечы ўзнагароду я ўжо заслужыў.

Але ж, як казаў мой бацька, "трэці раз за ўсё сплачвае", і я чамусці адмаўляцца не стану. Можа, я пачаў давяраць свайму наканаванню больш, чым у даўнія часы. У любым разе, лічу, што варта было б пайсці ды зірнуць на рэчы разок, дый скончыць справу на гэтым.

А зараз хто пойдзе са мной?

Хору валанцёраў ён не чакаў, таму і не расчараваўся. Усе маўчалі – за выключэннем старога Баліна, які проста добра ставіўся да хобіта.

Я зайду ў тунэль і, верагодна, прайду крыху з табой і буду напагатове, калі спатрэбіцца паклікаць на дапамогу іншых.













Потым хобіт насунуў пярсцёнак і, занепакоены моцным рэхам, асцярожна, бязгучна пакраўся ўніз, уніз, у цемру. Яго аж калаціла ад жаху, але твар яго быў суворы і рашучы. Ён зусім не быў падобны да таго хобіта, якому некалі давялося выскачыць без насоўкі з Торбы-пад-Стромаў шмат-шмат часу таму.

Вось ты і дабраўся да таго самага, Більба Торбінс.






Ззянне Драка!

Сказаць, што Більба ажно дыханне перахапіла – значыць, нічога не сказаць. Дый словаў у нашай мове бракуе, каб апісаць ягонае пачуццё, – бракуе з тых часоў, як Людзі папсавалі мову, якую вывучылі ад Эльфаў у тыя дні, калі свет быў малады і цудоўны.

Чуў Більба пра цікавыя скарбніцы і песні чуў, і паданні, але ж раскошу, прагу, жаданне ўладарыць, незвычайны цуд і дзівосы гэтага скарбу ўявіць не мог.

Чары скарбаў, гномава захапленне незвычайным і каштоўным пранізалі ягонае сэрца, і ён стаяў нерухома ў сузіранні, нават забыўшыся на жудаснага ахоўніка.


Доўгі час сузіраў ён, вельмі доўгі, пакуль, нарэшце, нібыта прыцягнуты супраць сваёй волі, выйшаў з ценю каля дзвярэй і пайшоў да бліжэйшай кучы скарбаў. На ёй спаў цмок, жудасная пагроза нават у сне.


Більба схапіў вялізны куфаль з дзвюма ручкамі, такі цяжкі, як толькі мог несці, і з трымценнем зірнуў уверх.


Соннае буркатанне Дракa змянілася.


Більба кінуўся ўцякаць. Сэрца хобіта калацілася, ногі дрыжэлі крыху больш, чым падчас спуску.
Атрымалася! Вось ім! Больш падобны да лавачніка, чым да ўзломшчыка, ха! Ну, больш мы таго не пачуем!


І не пачуў. Гномы вельмі ўзрадаваліся, калі ўбачылі хобіта. Балін падхапіў яго і вынес не свежае паветра. Астатнія так ужо віталі яго, абяцалі паслугі ўсіх сем'яў іх і сваякоў да дзясятага калена, і пляскалі па ягоных плячах.


Гномы яшчэ перадавалі куфаль адзін аднаму і з захапленнем гутарылі пра вяртанне сваіх скарбаў, калі раптам неабсяжны, глыбокі грукат пракаціўся з нетраў Гары. Дзверы шчыльненька прычынілі, заклаўшы камнем, каб зусім не замкнуць, і доўгі час з тунэля даносілася найжахлівейшае рэха, вусцішнае выццё, тупаценне ды рык – аж трэслася гара.


Каго-каго, а Драка з ліку цяжкіх праблемаў выкідваць не варта было. Калі жывеш побач з цмокам, забывацца на яго неразумна.
Зладзеі! Пажар! Забойства! Такога не здаралася з часоў, калі ён упершыню з'явіўся на Гары! Цмокава шаленства і апісаць немагчыма. Так шалее толькі багаты народ, які мае значна больш багацця, чым задавальнення з яго, і раптам губляе нешта, што ніколі не было патрэбна, але чым валодаў.

Цмокі не маюць карысці ад сваіх скарбаў, але ж, як правіла, ведаюць іх да апошняй залацінкі, асабліва калі валодаюць доўгі час. Драг не быў выключэннем.

Хутка! Хутка! За дзверы! У тунэль! Хавайцеся

Мае сваякі! Бамбур і Бафур! Мы забыліся на іх, яны ў даліне! Цмок заб'е іх і ўсіх нашых поні разам з імі, мы згубім усе прыпасы! Усё, усё страчана, мы не можам нічога зрабіць.

Абшукаць усю Гару, пакуль не зловіць злодзея, не разарве яго на кавалачкі, не спаліць, не знішчыць – такая была адзіная цмокава думка.

Лухта! Нельга пакінуць іх. Дзе вяроўка? Хутка!

Прыцягнулі Бафура, і пакуль нічога не здарылася. Прыцягнулі Бамбура – таксама нічога не здарылася. Прыцягнулі тое-сёе з інструментаў ды пакункі з ежай – вось тут пачалося.

Пачуўся гук, нібыта агромністая пчала ляцела. Над скаламі затанчыла чырвонае святло. Цмок з'явіўся!

Ледзь хапіла гномам часу забегчы ў тунэль, закінуўшы ды зацягнуўшы туды прыпасы.

Вось і ўсё для нашых бедных поні. Калі ўжо Драк пабачыў – не ўцячэш.

Цмокаў вогненны подых спапяліў траву перад дзвярыма і праз шчыліну апаліў гномаў. На пляцоўцы затанчыла полымя і заскакалі чорныя цені ад скалаў. Доўгі час шукаў Драк, пакуль раніца не астудзіла, нарэшце, яго шаленства, і не скіраваўся ён на свой залаты ложак паспаць ды набрацца сілаў. Злачынстваў ён не дараваў і на яго не забыўся б і праз тысячу гадоў. Часу, каб чакаць, хапала. Павольна, ціха запоўз ён у сваё логава і лёг, напалову заплюшчыўшы вочы.

Вось мы сядзім тут і сядзець будзем, ну хіба што хто-небудзь паспрабуе дабрацца праз пустэчу да возера пехатою з Дракам-вартавым за спіною.




Пазбаўляцца ад цмокаў – гэта не да мяне, але ж я зраблю, што здолею. У мяне ёсць мой пярсцёнак, з ім я апоўдні, – а менавіта тады ёсць найбольшая верагоднасць, што цмок спіць, – паспрабую спусціцца ўніз. Можа, што там прыдумаю.

"Кожны гад мае сваё слабое месца", як казаў мой бацька, хоць, я ўпэўнены, і не са свайго ўласнага досведу.

Зразумела, гномы з ахвотаю пагадзіліся. Цяпер яны паважалі хобіта незвычайна. Больш таго, цяпер ён ператварыўся ў сапраўднага правадыра іх падарожжа. У яго з'явіліся ўласныя планы і ідэі.

Стары Драк стаміўся ды спіць. Ён не пабачыць мяне і не пачуе. Вышэй нос, Більба!

Аднак ён забыўся ці ніколі не чуў пра цмокаў нюх. І пра непрыемную здольнасць гэтых істотаў пазіраць праз паўзакрытыя вочы нават у сне, калі яны нешта падазраюць.









Добра, о Вершнік на Бочцы! Хм, Бочкай не твайго поні звалі? Можа і не, але ж поні быў праўда тлусты. У падзяку за такое спажыўнае харчаванне я дам табе добрую параду – не вадзіся з гномамі, табе ж лепей!

Гномамі?

Не ведаю, ці зразумееш ты, што калі і сцягнеш маё золата кавалак за кавалкам...

Я ведаю пах (і смак) гномаў як ніхто! Не кажы мне, што я магу з'есці поні з-пад гнома і не пачуць яго паху! Яны табе хаця б заплацілі за той куфаль, што ты ўчора скраў?

...гадоў так за сотню.. куды ты з ім адсюль дзенешся?

Гідкія падазрэнні заварушыліся ў ягонай галаве: ці ж гномы забыліся на такую важную рэч, ці ж рагаталі за ягонай спіной увесь час?

Так цмоквы прамовы ўздзейнічаюць на недасведчаных.

Хачу адзначыць, што пра золата мы падумалі толькі потым. Мы рушылі праз горы і пад гарамі, па вадзе і па паветры дзеля помсты!

Помста! Помста! Кароль-Пад-Гарой памёр, і дзе ж ягоныя крэўныя, што шукаюць помсты? Я адужаў ваяроў старажытнасці, а такіх цяпер ужо няма! Тады я быў малады і слабы, а зараз моцны!

Мая браня, як дзесяць тарчаў! Мае кіпцюры, як дзіды! Мой хвост сігае, як маланка! Мае крылы – навальніца! Мой подых – смерць!


Мне заўсёды здавалася, што цмокі трохі мякчэй знізу, асабліва ў месцы... грудзей, вось, але ж, безумоўна, такая моцна абароненая асоба паклапацілася і пра гэта.


Твая інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці!
Мая браня цяпер паўсюль з жалезнай лускі ды дыяментаў – і зверху, і знізу! Ніводзін меч мяне не дастане!
Асляпляльна! Цудоўна! Неверагодна прыгожа! Сама дасканаласць!
Аднак пра сябе Більба дадаў: "Стары дурань! І не ведаеш, што ў цябе на грудзях пад левую лапай голае цела вытыркаецца, нібы слімак з ракавіны!"


Што скажаш на гэта?
Ну, я больш не адважваюся затрымліваць Вашамосць ці пазбаўляць вас неабходнага адпачынку. Здаецца, даволі цяжкая справа поні лавіць. А ўзломшчыкаў тым больш!


FROOOSHH
Ніколі не смейся з жывога цмока, Більба, ты дурань! Яшчэ нават твая прыгода не скончаная!


Дзень хіліўся да вечара, калі хобіт выйшаў з тунэлю. Аднак ён быў надта занепакоены ды адчуваў сябе дрэнна, таму доўгі час з яго нічога выцягнуць не маглі.


Каб яго! Бачу, ён слухае, і ягоны погляд мне зусім не падабаецца.
Пакінь яго ў спакоі! Дразды – птушкі добрыя і заўсёды ставіліся да нас добра. А гэты – вельмі стары дрозд, магчыма, нашчадак той пароды, якую мой бацька з дзедам прыручылі. Людзі з Дэйла неяк навучыліся разумець іх мову і выкарыстоўвалі іх у якасці пасланцаў.


Ну, для людзей з Доўгага Возера ў яго будуць навіны, калі ён па іх прыляцеў. Хоць і не думаю, што там засталося шмат людзей, якія б цікавіліся мовай драздоў.
Што ж здарылася?
І Більба распавёў ім усё, што прыгадаў.


Я ўпэўнены, што ён здагадаўся пра наша з'яўленне з Азёрнага Гораду і іх дапамогу нам. Баюся, што наступны яго рух будзе у тым кірунку.
Мне здаецца, ты вельмі добра правёў размову. У любым выпадку даведаўся шмат і вярнуўся жывым. А гэтым не кожны можа пахваліцца пасля гутаркі з цмокам. Гэта ж проста цуд, што ты даведаўся пра дзюрку на яго грудзях!


Увесь час, пакуль размаўлялі, дрозд уважліва слухаў, а калі надышла цемра, ціха расправіў крылы ды паляцеў. І ўвесь час, пакуль гутарылі, а цені падаўжаліся, Більба рабіўся ўсё больш неспакойным.
Я ўпэўнены, што сядзець тут вельмі небяспечна. Кожную хвіліну Драк можа з'явіцца, адзіная наша надзея – зайсці як мага далей у тунэль.


Ён прамаўляў так адчайна, што нарэшце яго паслухалі, хоць гномы і не спяшаліся зачыняць дзверы. Зачыніць проста, а хто ведае, ці адчыніш ізноў?
Бо апынуцца ў месцы, адзіны выхад з якога вядзе праз логава цмока – такое нікому асабліва не падабалася.
Таму доўгі час гномы сядзелі непадалёк ад прычыненых дзвярэй і размаўлялі.


Размова павярнулася да агідных цмокавых словаў пра гномаў. Але Торын сказаў: " Што да вашай часткі, то будзьце ўпэўненыя ў нашай невыказнай удзячнасці і ў тым, што вы самі выбярэце сваю долю, як толькі будзе з чаго выбіраць. А з транспартам мы зробім для вас, што здолеем, і прымем на сябе адпаведную частку расходаў па перавозцы.
З таго гаворка павярнула да саміх скарбаў і тых рэчаў, што Торын з Балінам памяталі. Вялізны залаты куфаль Трора, каралі Гірыёна, зробленыя з пяці соцень смарагдаў. Але ж найбольш дзівосным быў вялікі белы адамант, які знайшлі глыбока пад каранямі гары – Сэрца Гары, Аркенстон Трэйна.


Аркенстон! Аркенстон! Ён падобны да шара з тысяччу гранямі, ён ззяе срэбрам ад вогнішча, вадой на сонцы, снегам пад зорамі, расой пад месяцам!
Зачыніце дзверы! Я цмока самымі косткамі чую! Зачыніце дзверы, а тое будзе позна!


Яны ўсе наляглі на дзверы, і яны з бразгатам зачыніўся. Не засталося аніякай замковай шчыліны на іх паверхні. Яны былі замкнёныя ў Гары!
І ў час!


THOOM


Гэта выбухнула шаленства цмока, бо ён не злавіў нікога, хоць і здагадаўся, дзе павінна была быць тая дзірка.
Вершнік на Бочках! З вады ты з'явіўся. Я не ведаю твой пах, але ж калі ты нават і не з азёрных людзей, іх дапамогай ты карыстаўся.


Вось яны мяне і пабачаць ды ўзгадаюць, хто ёсць сапраўдны Кароль-над -Гарой!

Тым часам гномы сядзелі ў поўнай цемры. Яны не ведалі, колькі прайшло часу, і ледзь адважваліся варухнуцца. Урэшце, пасля таго як мінулі дні і дні ў бязмэтавым, бессэнсоўным чаканні, трываць далей стала невыносна.

Давайце выйдзем адсюль! Я жадаю або ўдыхнуць свежага паветра, або памерці.

Я хутчэй загіну ад цмокавых кіпцюроў на волі, чым задыхнуся тут як пацук!

Але яны знайшлі верхні канец тунэля цалкам заваленым, і ні ключ, ні магутныя чары больш не маглі адчыніць дзверы.

Мы трапілі ў пастку! Усё страчана! Мы ўсе тут загінем!

Ну, ну, не трэба! Пакуль жывеш, датуль ёсць надзея. Я пайду ўніз яшчэ раз. Цмока там, можа, і няма. Ва ўсялякім разе адзінае выйсце – ўніз. І, падаецца мне, вам лепш усім скіравацца разам са мною.

У адчаі яны рушылі долу. Уніз, уніз спускаліся яны, але, колькі хобіт не прыпыняўся і не прыслухоўваўся да наваколля, адказам была паўнюткая цішыня.

Каб яго, лускатага, у якія гульні ён гуляе?

Можна крыху распаліць паходні ды зірнуць навокал, пакуль спакойна.

Але Більба не здолеў пераканаць гномаў рушыць далей з ім. Як далікатна патлумачыў Торын, спадар Торбінс яшчэ выконваў свае абавязкі афіцыйнага ўзломшчыка і даследчыка. Калі надумаў ён запаліць паходню – калі ласка. Гномы пачакаюць вынікаў эксперыменту ў тунэлі.

Таму яны паселі каля выхаду і сталі чакаць. Яны бачылі ззяне паходні ды бразгатанне, калі хобіт спатыкаўся аб нейкі залаты выраб.

Потым Більба спыніўся і нахіліўся, але гномы не ведалі чаму.

А гэта быў Аркенстон, Сэрца Гары. Найрад ці два такія камяні знайшліся б нават у такой цудоўнай скарбніцы, нават у цэлым свеце. Калі Більба яго ўбачыў, яму сцяла дыханне.

Вось цяпер я сапраўдны ўзломшчык! Але ж трэба сказаць пра камень гномам… калі-небудзь. Яны казалі, я сам магу выбраць сваю частку, дык вось яна, тая частка, а яны хай забіраюць астатняе!

Пэўная няёмкасць усё ж турбавала яго: відаць, прапанаваны яму выбар найрад ці ўключаў і гэты дзівосны камень і пэўна шмат клопату з таго яшчэ выйдзе.


Праблiскi скарбаў, што ўбачылi гномы, зноў распалiлi полымя ў iх сэрцах. А калi сэрца гнома, нават найбольш паважанага ды паважнага, раздражнiць золатам ды самацветамi, ён робiцца дзёрзкiм i лёгка можа зрабiцца шалёным.
Сапраўды, нiкога пераконваць не было патрэбы. Усе разам выказалi жаданне даследаваць залю, пакуль ёсць магымасць i Драк недзе далёка.


Яны набiвалi самацветамi кiшэнi, а што не маглi запiхнуць, выпускалi з пальцаў, уздыхаючы. Торын не апошнi быў сярод iх, але большасць часу ён шукаў там i тут нешта, што анiяк не знаходзiлася. Гэта быў Аркенстон, аднак Торын нiкому пра тое не распавядаў.


Гномы паздымалi са сценаў латы ды ўзброiлiся.
Спадар Торбiнс! Вось першая частка тваёй узнагароды! Скiдай старыя лахманы, апранай гэтае!
Цудоўна! Але ж, здаецца мне, выглядаю я проста блазанам. Як бы з мяне смяялiся дома, каля Торбы! А ўсё роўна хочацца зiрнуць у люстэрка.


Торын! Што далей? Мы ўзброiлiся, але калi гэта зброя ды латы дапамаглi супроць Драка Найжудаснейшага? Скарбы яшчэ не нашыя. Мы не золата шукаем цяпер, а выйсце, i надта ўжо доўгi час мы спакушалi ўдачу!


Праўду кажаш! Хадзем! Я павяду вас. I за тысячу гадоў я не забыўся б шляхоў свайго палацу.
Кампанiя караскалася па доўгiх лесвiцах, спускалася па шырокiх тунэлях, паварочвала ды зноў караскалася па лесвiцах, зноў па iх…


як раптам выйшлi на дзённае святло.
Добра! Вось ужо не чакаў, што зiрну з гэтай брамы вонкi! I што так буду задаволены бачыць сонейка i адчуваць на твары ветрык. Але ж – вох! – вецер проста студзёны. I мне чамусьцi не падаецца, што гэты ганак самае бяспечнае месца ў свеце.
Давайце знойдзем прытулак, дзе мы зможам адпачыць!


I тое праўда! Мне падаецца, я ведаю шлях. Нам трэба iсцi да старога вартавога паста ў паўночна-усходняй частцы Гары.
Цi далёка да яго?
Пяць гадзiн, я лiчу. Аднак шлях можа быць цяжкiм. З дарогi iдзе да Стромы сцежка. Праўда, пад ёй там круты, нават калi старыя прыступкi ацалелi.


Ратуйце! Зноў iсцi i караскацца з пустым страўнiкам! Цiкава, колькi ж сняданкаў мы ўжо прапусцiлi, седзячы без гадзiннiка ў той дзiрцы?


А прасядзелi яны дзве ночы i дзень з таго часу, як цмок разнёс чароўныя дзверы, i хоць ежы хапала, але Бiльба зусiм страцiў адчуванне часу i не сказаў бы, цi адна ноч прайшла, цi цэлы тыдзень.
Ну, ну, яшчэ чаго! Ты мой палац дзiркай не называй! Пачакай як яго адрамантуюць ды прыбяруць!
Найрад цi тое магчыма, пакуль Драк жывы. Дарэчы, дзе ж ён? Я б аддаў добры сняданак, каб даведацца.
Спадзяюся, што ён не сядзiць на вяршынi гары i не пазiрае на нас адтуль.

Пасля нядоўгай дарогі яны спыніліся ў глыбокай лагчыне. Тут яны адпачылі і падсілкаваліся, галоўным чынам хрумам ды вадою. (Калі вы жадаеце дазнацца пра хрум, я скажу толькі, што рэцэпту і сам не ведаю. Ён падобны да бісквіту, ніколі не псуецца. Кажуць, вельмі добра трымае на нагах, але ж, відавочна, мае пэўныя праблемы са смакам. Людзі з Возера робяць яго для працяглых падарожжаў).

Пасля адпачынку яны пайшлі далей, аж пакуль не знайшлі пляскатую пляцоўку, з якой было далёка бачна на Усход, Захад і Поўдзень.

Тут у старажытныя часы мы заўсёды трымалі варту. Аднак у дні нашай заможнасці і шчасця мы закінулі вартавую службу, інакш, магчыма, раней бы даведаліся пра цмока і шмат чаго было б па-іншаму. Так ці не, але тут можна адпачыць ды схавацца, шмат пабачыць, дый нас ніхто не заўважыць.

Не думаю, бо нас бачылі, як мы сюды караскаліся.

Некаторыя гномы адразу ж палеглі ды заснулі, а некторыя яшчэ сядзелі ды абмяркоўвалі свае планы. Гутарка ўвесь час вярталася да цмока. Пазіралі на Захад – нічога, і на Усходзе пуста, і на Поўначы няма слядоў, толькі мноства птушак. На тое глядзелі і дзівіліся, але зразумець ніяк не маглі.

Зараз калі вы, як і гномы, жадаеце пачуць звесткі пра Драка, вам давядзецца вярнуцца на два дні назад, у той вечар, калі цмок у шаленстве паляцеў прэч.

Зірніце! Зноў агні! Апошняй ночу вартавыя бачылі іх не аднойчы. То з'явяцца, то згаснуць – з поўначы да золку. Нешта там адбываецца.

Можа, Кароль-Пад-Гарой кue золата – шмат часу мінула з той пары, калі ён скіраваўся на поўнач. Надышла гадзіна спраўдзіцца старым песням.

А які кароль? Здаецца мне, гэта шалёнае полымя цмока, адзінага Караля-Пад-Гарой, які сапраўды нам вядомы.

Заўсёды ты дрэннае кажаш! То патоп напрарочыш, то пошасць на рыбу. Хоць бы раз нешта добрае сказаў!

Кароль-Пад-Гарой! З Гары цячэ залатая рака!

Ці я зусім дурны, ці гэта цмок! Руйнуйце масты! Да зброі! Да зброі!

Потым раптоўна трубы зайгралі "небяспеку", і рэха заметусілася ўздоўж скалістых берагоў. Усе пасудзіны ў горадзе напоўнілі вадой, кожны ваяр узброіўся, кожная страла і дрот былі напагатове. Мост быў скінуты ў ваду і пабураны.

Вось чаму Драк не здолеў застаць горад цалкам непадрыхтаваным.

З рыкам ён кінуўся на горад. Ураган стрэлаў узняўся насустрач яму, яны біліся аб яго лускавіны, каштоўныя камяні, ламаліся, адскоквалі. Дрэўкі ўспыхвалі ад вогненага подыху і з шыпеннем падалі ў возера.

Ад звону цяцівы на луках ды выцця трубаў цмок канчаткова звар'яцеў наймацнейшым цмокавым вар'яцтвам, страціўшы ўсялякае разуменне.

Сярод крыкаў, енку і лямантy пранёсся ён над горадам, кінуўся да мастоў – і драма! Мост знік, а ворагі ягоныя паселі на востраве пасярод глыбокага возера, надта глыбокага, цёнага ды халоднага для цмока.

Ніхто не адважваўся біцца з ім доўгія, доўгія гады і цяпер бы не наважыўся, калі б не чалавек з суровым голасам (звалі яго Бард), які безупынна падбадзёрваў лучнікаў і прасіў Бурмістра загадваць ім змагацца да апошняй стралы.







Людзі ўжо скокалі ў ваду з усіх мasткоў. Жанчын ды дзяцей садзілі ў чоўны. Зброю пакідалі. Сам Бурмістр спяшаўся да свайго вялікага пазалочанага карабля, спадзеючыся ў агульнай мітусні адплыць прэч і ўратавацца.



Невялічкая купка лучнікаў яшчэ трымалася сярод вогненых дамоў. Галоўным над імі быў Бард, нашчадак караля Дэйла, Гірыёна, чыя жонка з дзіцем уцяклі па рацэ Струмяніцы з руінаў Дэйла шмат часу таму.

Бард выпусціў усе свае стрэлы, акрамя адной.

Чакай! Чакай!

Месяц узыходзіць! Шукай голае месца з левага боку на цмокавых грудзях, калі будзе ён над табою!

Гэта быў стары дрозд. Дзіўна, але Бард зразумеў гаворку птушкі, бо паходзіў ад людзей Дэйла.

Страла мая, чорная страла! Цябе я бярог да апошняга. Ніколі ты не хібіла, і заўсёды я цябе знаходзіў. Я атрымаў цябе ад бацькі, а той – ад свайго.

Калі ты насамрэч выйшла з майстэрняў Караля–Пад–Гарой, ляці цяпер і не адхіліся!

Драк апусціўся яшчэ ніжэй, і калі павярнуўся, ягонае пуза заблішчэла ў промнях месяца полымем самацветаў – усюды, акрамя адзінай плямы.

Вялікі лук зазвінеў.

Проста і моцна паляцела страла, проста ў метку пад леваю лапаю.

Там і знікла страла, уся цалкам: наканечнік, дрэўка і пер е.

З жудасным крыкам, ад якога аглохлі людзі, паваліліся дрэвы ды раскалоліся камяні, Драк кульнуўся ў паветры ды з храскам рухнуў на горад.

Цяжка падаў цмок, перадсмяротныя яго сутаргі разнеслі руіны ў віхуры вугалля, іскраў і драўляных шчэпак. Зараўло возера. Слуп пары выбухнуў у раптоўна пацямнелыя нябёсы.

Зашыпела вада, закруціўся вір – і настала цішыня. Вось так загінулі Драк і Эзгарот, але Бард застаўся жывы.

Людзі сабраліся на ўсходнім беразе і дрыжэлі на халодным ветры. Лямантуючы, стогнучы, праклінаалі ды злавалі найперш на Бурмістра, які гэтак хутка пакінуў горад, пакуль абаронцы яшчэ змагаліся і яшчэ былі гатовыя да адпору.

Можа, гандаль у яго і ладзіцца, асабліва ўласны гандаль, ды калі надарыцца што-небудзь сур'ёзнае ён ні на што не варты!

Калі б толькі Бард не загінуў! Мы б зрабілі яго каралём. Бард Пераможца Цмока з роду Гірыёна! Які жаль, што ён загінуў!

Бард не загінуў! Ён выплыў з Эзгароту, калі вораг быў забіты. Я – Бард, нашчадак Гірыёна. Я – забойца цмока!

Кароль Бард!

Кароль Бард!

Гірыён быў уладаром Дэйла, не Эзгароту. У Азёрным Горадзе заўсёды выбіралі Бурмістраў сярод старэйшых і мудрых, а забойцы, няхай і цмокаў, намі ніколі не ўладарылі.

Няхай "кароль Бард" ідзе да свайго каралеўства – яно цяпер вольнае, дзякуючы яго мужнасці, яму нічога не перашкаджае. Хто жадае – можа ісці разам з ім. Мудрыя застануцца тут, з надзеяй адбудаваць горад.

Жыве Кароль! Далоў старых гандляроў!

Я цалкам упэўнены ў незвычайных якасцях шаноўнага Барда Лучніка. Але чаму вы мяне абвінавачваеце? Хто, па-вашаму, раззлаваў цмока? Хто атрымаў ад нас багатыя падарункі і дапамогу, карыстаўся нашай дабрынёю? Якое ж золата паплыло да нас па рэках як узнагарода? Толькі шалёнае цмокава полымя ды вогнішча нашага гораду!

З каго нам трэба аплаты стратаў, хто павінен дапамагчы ўдовам ды сіротам?

Навошта марнаваць словы ды злосць на гэтых небаракаў? Драк спаліў іх першымі, да таго, як прыляцеў да нас.

А пакуль ён прамаўляў тое, раптам прыйшла да яго думка пра знакамітыя скарбы Гары, якія ляжаць ужо без аховы. Бард замоўк. Ён абдумаў словы пра адбудаваны Дэйл, пра новыя залатыя званы – заставалася толькі знайсці людзей.

Няма часу для злых слоў, Бурмістр, няма часу, каб будаваць планы і марыць. Шмат чаго яшчэ трэба зрабіць. Пакуль што я служу табе – але, магчыма, хутка я зноў падумаю пра твае словы і скіруюся на поўнач з тымі, хто пажадае ісці разам са мной


Пасля Бард рушыў прэч, каб дапамагчы будаваць лагер, дагледзець хворых і параненых. І дзе б ён не быў, паўсюль гаворка ішла пра велізарныя скарбы, што цяпер ляжалі безгаспадарныя; што яны вернуць усе страты. Тое вельмі цешыла людзей. І добра, бо акрамя радасці не было чым умацаваць сябе ў тую ноч. Пабудавалі колькі павеццяў (адна дасталася Бурмістру) ды сабралі крыху ежы (нават Бурмістру перапала малавата). Шмат хто гэтай ночы захварэў ад холаду ды роспачы, многія памерлі цяпер і пазней.


Доўгі час людзі хварэлі ды пакутвалі ад голаду.
Бард прыняў уладу, аддаваў загады паводле свайго разумення, хоць і заўсёды ад Бурмістравага імя. Але ўсё ж, верагодна, большая частка людзей не перажыла б зімы, якая даганяла восень, калі б не своечасовая дапамога.


А дапамога прыйшла хутка, бо Бард адразу ж скіраваў паслоў уверх па рацэ ў Ліхалессе, каб запрасіць Караля Эльфаў. А паслы знайшлі эльфаў ужо на паўшляху да Доўгага Возера, хоць толькі трэці дзень мінуў з гібелі Драка.


Кароль Эльфаў атрымаў звесткі ад сваіх паслоў ды ад птушак, што сябравалі з яго народам, таму ведаў шмат. Вельмі, вельмі моцнае ўражанне зрабіла цмокава пагібель на ўсялякіх істотаў з крыламі, якія жылі на памежжы Цмокавай Пустэчы.
Уздоўж Ліхалесся ўсё гаманіла, крычала: "Драк памёр!" Лісце шапацела, і ўсялякія вушы насцярожваліся, прыслухоўваючыся. Навіны дасягнулі ўзножжаў Туманных Гор, Беарн таксама пачуў іх, і гобліны ў пячорах сабраліся, каб абмеркаваць іх.


Сустрэўшы Бардавых пасланцоў, Кароль Эльфаў пашкадаваў няшчасных людзей, бо быў уладаром добрага і міласэрнага народу. Таму войска эльфаў паспяшалася ўніз па рацэ да берагоў Доўгага Возера. Плытоў і чаўноў для войска не хапала, але ж вялікую колькасць прыпасаў Кароль выслаў наперадзе па вадзе.


Пяць дзён мінула з гібелі цмока, а яны ўжо стаялі на беразе і пазіралі на руіны Эсгароту. Іх прынялі вельмі ветліва, людзі і Бурміст былі згодныя на ўсё, каб толькі ім дапамаглі.
Хутка складаліся планы. Бурмістр застаўся ля Возера, а з ім майстры і многія дасведчаныя ў рамёствах эльфы. Яны валілі дрэвы ды будавалі ўздоўж возера хаты, каб было дзе перажыць зіму.


Большасць людзей, здольных трымаць зброю, і большасць войска Караля Эльфаў падрыхтаваліся ісці на поўнач, да Гары. Вось так атрымалася, што толькі на адзінаццаты дзень пасля смерці цмока войска мінула скальную браму за дальнім краем возера і рушыла да спустошаных земляў.


Нешта дзіўнае робіцца. Час для восеньскага адлёту ўжо мінуў. Гэта тутэйшыя птушкі, яны заўсёды на месцы. Дразды, берасцянкі, а вунь далёка – процьма шулякоў, нібы там бойка!
Зірніце! Той самы стары дрозд! Значыць, ён уцёк, калі Драк руйнаваў схіл!
Здаецца, ён хоча нам нешта распавесці. Каб толькі ён быў крумкачом!
PIP PIP PIP PIP PIP


Я думаю, ты іх не любіш. Ты ледзь не хаваўся ад іх, раней, калі мы падыходзілі сюды.
PIP PIP PIP
То былі груганы! Злыя, нявеетлівыя істоты. А крумкачы – зусім іншыя. Яны раней шчыра сябравалі з народам Трора, прыносілі нам таемныя звесткі. Гэтая самая высотка атрымала назоў Крумкачовай Стромы якраз таму, што тут жыла пара знакамітых і мудрых крумкачоў, стары Карк і ягоная жонка. Іх гняздо было над пакоем вартавых. Але наўрад ці хто з той старажытнай пароды яшчэ жыве.


Можа, мы яго і не разумеем, але нас старая птушка разумее выдатна, я ўпэўнены! Пачакаем, што адбудзецца далей!
PIP PIP PIP PIP PIP


Хутка пачулася лапатанне крылаў. Вярнуўся дрозд, а з ім прыляцела надзвычай старая, лядачая птушка.
О Торын, сын Трэйна, і Балін, сын Фундзіна! Я – Раэк, сын Карка. Карк памёр, але ён быў добра вядомы вам калісьці. Цяпер я правадыр вялікіх крумкачоў Гары.
Зірніце! Птушкі збіраюцца адусюль назад да Гары, у Дэйл: з Захаду і Усходу, з Поўдня, бо паўсюль вядома, што Драк памёр!


DEAD? DEAD! DEAD!
Памёр? Дарма мы жахаліся – і скарбы цяпер бясспрэчна нашыя!


Так, памёр. Дрозд, няхай ніколі не выпадзе яго пер'е, бачыў смерць Драка. Мы давяраем яму. Радуйся, Торын Дубатарч. Ты можаш вярнуцца ў свае залі ў бяспецы – пакуль што.
Аднак не толькі птушкі збіраюцца ў чароды. Ужо харугвы эльфаў рушаць сюды, а разам з імі і шулякі, спадзеючыся на бітву і падаль.
Людзі з Возера наракаюць, што беды іх ды ліха праз гномаў, бо Драк знішчыў горад і мноства іх загінула, рэшта ж бяздомная. Яны таксама жадаюць знайсці суцяшэнне ў тваіх скарбах, не зважаючы, жывы ты ці мёртвы.
Трынаццаць – надта малая частка Дарынава племені, што некалі жыло тут. Калі мая парада слушная для вас, то кажу: не давярайце Гаспадару Азёрнага Горада, а давярцеся таму, хто застрэліў цмока са свайго лука.
Магчыма, тут зноў у спакоі ды міры будуць жыць гномы, людзі і эльфы. Але гэта будзе каштаваць табе шмат золата. Я ўсё сказаў.


Дзякуй табе, Раэк, сын Карка. Ні ты, ні твой народ не будуць забытыя. Але ж ні пылінкі нашага золата не дастанецца зладзеям без нашага жадання, пакуль мы жывыя.
Таксама папрашу цябе паслаць вестуной да майго сваяка Дайна з Жалезных Стромаў, бо ён мае шмат добра ўзброеных ваяроў і жыве бліжэй за ўсіх. Папрасіце яго паспяшацца!


Не мне казаць, добра гэтак рабіць, ці не, але ж я дапамагу, чым здолею.
Назад да Гары! У нас засталося няшмат часу!


Калі вы памятаеце здарэнне на Возеры, то разумееце, што часу ў іх было яшчэ дастаткова. Але гномы пачалі ўпарта і зацята працаваць над умацаваннем Галоўнай Брамы. Інструментаў, якім некалі карысталіся рудакопы, было навокал удосталь, а ў гэткай працы гномы былі вельмі дасведчанныя.


Пакуль яны працавалі, крумкачы ўвесь час прыносілі звесткі. Так яны адразу ж даведаліся, што Кароль Эльфаў павярнуў да Возера і што крыху часу ў іх ёсць.


Прайшло чатыры дні. Стала вядома, што аб'яднанае войска людзей з Возера ды эльфаў спяшаецца да Гары. Аднак цяпер было на што спадзявацца, бо ежы хапала на некалькі тыдняў. Зразумела, што рацыён складаўся толькі з хрум, аднак жа лепш гэта чым нічога. Ужо і браму зачынілі добрай сцяною з часаных камянёў. Кладку рабілі ў сухую, але з вельмі шырокіх ды важкіх камянёў. Сцяна атрымалася моцнай.


А потым надыйшла ноч, калі паўднёвая даліна каля Дэйла раптоўна асвяцілася мноствам агнёў нібы ад паходняў ды вогнішчаў.
Прыйшлі! Іхны лагер велізарных памераў! Напэўна, з'явіліся ў даліну з абодвух берагоў ракі, хаваючыся ў змроку.
У гэтую ноч гномы амаль не спалі.

Ранішняе святло было яшчэ зусім цьмянае, калі заўважылі, што да брамы накіроўваецца дэлегацыя. Гэта былі людзі з Возера, апранутыя і ўзброеныя па-ваярску, і эльфійскія лучнікі.

Хто вы такія, што прыйшлі да брамы Торына, сына Трэйна, Караля-Пад-Гарой, узброіўшыся нібы для вайны? Чаго вы жадаеце?

Вітаю цябе, Торын! Мы сапраўды задаволеныя, што ты застаўся жывы. Я – Бард, маёю рукой быў забіты цмок і выратаваны твой скарб.

Больш за тое, я – законны нашчадак і спадчыннік караля Гірыёна. У тваёй скарбніцы ляжыць досыць Гірыёнавай маёмасці, нарабаванай старым Дракам з Дэйла ды наваколля. Ці не пра гэта нам трэба размаўляць?

І яшчэ – у сваёй апошняй бітве Драк знішчыў дамы жыхароў Эзгароту. Я пакуль што лічу сябе падначаленым Азёрнага Бурмістра і я спытаю ад ягонага імя: ці кранаюць цябе стогны і няшчасці азёрных людзей? Яны дапамаглі табе ў час тваёй бяды, а ў падзяку ты прынёс да іх пакуль што толькі гора ды разбурэнне – зразумела, не ведаючы таго.

Прайдзівыя гэта былі і сумленныя словы, хоць прагучалі сувора і змрочна. Більба думаў, што Торын пагодзіцца з імі. Але ж ён не мог уявіць, якую моц і ўладу мае золата, што такі доўгі час было цмокавым ложкам.

Ніякі чалавек не можа дамагацца багаццяў майго народу з той нагоды, што Драк, які тыя багацці скраў, забраў жытло ці жыццё таго чалавека. Не цмокавы тыя багацці, каб плаціць імі за цмокавы злачынствы. За дабро і дапамогу, якія мы атрымалі ад людзей з Доўгага Возера, мы заплацім – у адпаведны час.

Аднак нічога, нічога не заплацім мы пад пагрозай зброі. Я не жадаю дамаўляцца, пакуль бачу яе перад сваёй брамай. І я не буду дамаўляцца ў прысутнасці Караля Эльфаў, да якога маю шмат нядобрых пачуццяў. А зараз ідзіце прэч, інакш стрэлы!

Кароль Эльфаў – мой сябар. Ён дапамог Азёрнаму народу ў час бяды, хоць і не меў іншых абавязкаў перад намі, акрамя сяброўства.

Мы дамо табе час на роздум. Парайся добра са сваёй мудрасцю, пакуль мы вернемся.


Праз некалькі гадзінаў да брамы падышлі зноў. Герольды ступілі наперад і звонка пратрубілі. А адзін з іх крыкнуў:
У імя Эзгароту і Ліхалесся, заклікаем мы Трэйна Торына Дубатарча, які называе сябе Каралём-Пад-Гарой, адпаведна адказаць на прапанову альбо абвяшчаем яму сваю варожасць!
Ён павінен даць дванаццатую частку скарбаў Барду, як забойцу цмока ды нашчадку Гірыёна. З той часткі Бард сам вылучыць сродкі для дапамогі Эзгароту.


Аднак, калі Торын жадае заслужыць сяброўства і пашану ад насельніцтва навакольных земляў, як і ягоныя продкі ў даўнія часы, то ён дадасць таксама і ад сябе, каб дапамагчы людзям з Возера.


Калі гэткі твой адказ, то я абвяшчаю аблогу Гары! Сядзець табе пад ёю, пакуль сам не запрапануеш мір і перамовы. Мы не падымем супроць цябе зброі. Заставайся са сваім золатам. Можаш яго есці, калі пажадаеш!
THAK




Дні цягнуліся павольна і нудна. Торын зрабіўся такі змрочны, што наўрад ці хто адважыўся аспрэчваць яго рашэнне ці папракаць яго. Дый большасць гномаў мела тыя ж думкі, можа за выключэннем Бамбура, Філі ды Кілі. Більба, відавочна, такі паварот падзеяў не спадабаўся зусім.
Як жа гэтае месца патыхае цмокам, аж гідка. Дый хрим гэты ўжо ўпоперак глоткі стаў.


Шукайце ў кожным куце ды завулку! Бо Аркенстон майго бацькі сам каштуе больш за залатую раку, а для мяне не мае кошту. З усіх скарбаў я прызначаю сабе менавіта яго і клянуся жорстка адпомсціць любому, хто, знайшоўшы яго, не аддасць мне.
Більба чуў тыя словы ды жахаўся. Аднак ў яго маленькай галаве спакваля пачаў складацца план.


Аднойчы крумкачы прынеслі звестку, што Дайн і з ім больш за пяць соцен гномаў набліжаюцца да Гары з Паўночнага Усходу. І застаецца ім два дні шляху.
Хоць гномы і моцны народ, сумняваюся, што яны здолеюць прабіцца праз войска людзей ды эльфаў. А калі і здолеюць, што табе з таго? Як ты будзеш знаходзіць харч без сяброўства і дабрачыннасці жыхароў навакольных земляў?
Хутчэй за ўсё, ты загінеш ад свайго скарба, хоць і няма больш цмока!
Зіма ды снег папсуюць настрой і людзям, і эльфам. З маімі сябрамі за спіной ды зімой навокал іх умовы абавязкова памякчэюць.

Гэтым вечарам Більба, нарэшце, вызначыўся.

Ну і халодна! Нам бы раскласці вогнішча, як вунь тыя, у лагеры!

У пячорах даволі цёпла. Магу прапанаваць павартаваць за цябе, калі пажадаеш. Апошні раз я вартаваў ужо даволі даўно. А сёння мне не спіцца.

Добры ты хобіт, спадар Торбінс, я з вялікім задавальненнем прымаю тваю прапанову. Толькі калі што здарыцца, калі ласка, пабудзі мяне першага.

Добра! Я пабуджу цябе апоўначы, каб ты змог пабудзіць наступнага вартаўніка.

Як толькі Бамбур знік, Більба насунуў пярсцёнак ды выслізнуў за сцяну. У яго было яшчэ пяць гадзінаў. Бамбур будзе спаць, а рэшта адпачывае ці нешта робіць пад Торынавым кіраўніцтвам.

Навокал было вельмі цёмна. Нарэшце ён прыйшоў да месца, дзе трэба было перапраўляцца праз раку, каб трапіць у лагер. Більба амаль перабраўся, як паслізнуўся ды ўпаў з пляскатам у халодную ваду.

Гэта не рыба. Гэта дакладна шпіён. Згасіце паходні!

Калі то дзіўная маленькая істота, што прыслугоўвае гномам, то святло больш дапаможа ёй, чым нам.

Прыслугоўвае! Запаліце святло! Я тут, калі вы мяне жадаеце!

Хто ты такі? Ці ты гномаў хобіт? Што ты тут робіш?

Я – спадар Більба Торбінс, кампаньён Торына, калі вы гэта жадалі ведаць. Я добра ведаю вашага караля, хоць, магчыма, ён і не пазнае майго выгляду. А Бард пазнае, якраз Барда я і хачу пабачыць.

Калі вы хочаце хутчэй вярнуцца ў свае лясы з гэтага халоднага невясёлага месца, вы хуценька мяне правадзіце да вогнішча, дзе я змагу паразмаўляць з вашымі правадырамі. У мяне толькі гадзіна ці дзве часу.

Ведаеце, справы дайшлі да невыноснага стану. Асабіста я вельмі стомлены ад усяго гэтага.

Але я маю пэўнае зацікаўленне тут, больш дакладна – чатырнаццатую частку скарай, адпаведна ліста, які я нават маю з сабою.

Менавіта я цалкам за тое, каб уважліва разгледзіць вашыя прапановы і атрымаць сваю частку толькі пасля таго, як з агульнага будзе сплачана ў адпаведнасці з вашымі патрабаваннямі.

Але вы не так добра ведаеце Торына Дубатарча, як я. Хачу запэўніць вас: ён цалкам згодны памерці з голаду на кучы золата, пакуль вы сядзіце тут.

І зіма набліжаецца. У дадатак хутка з'явяцца іншыя цяжкасці. Дайн з Жалезных Стромаў, хачу сказаць вам, менш чым у двух днях дарогі, а разам з ім, самае меншае, пяць сотняў гномаў. Калі яны з'явяцца сюды, будуць непрыемнасці.

Чаму ты распавядаеш нам гэта? Ці ты здраджваеш сябрам, ці жадаеш нас запалохаць?

Даражэнькі мой Бард! Не спяшайся! Я проста стараюся пазбегнуць праблемаў для ўсіх удзельнікаў справы. А зараз я зраблю вам прапанову.

Вось яна!

Вось Арекнстон Трэйна. Сэрца Гары, а.таксама сэрца Торына. Ён каштуе для яго даражэй за ракі золата. Я даю Аркестон вам. Ён дапаможа вам прыйсці да згоды.

Ці ён твой, што ты яго нам аддаеш?

Ну, не тое каб я, калі дакладна, меў на яго права, але я магу сабе дазволіць, каб камень замянілі на ўсю маю частку скарбаў. Можа я і ўзломшчык, але сумленны. Ва ўсялякім разе, зараз я выпраўляюся назад, і няхай гномы робяць са мною, што жадаюць.

Більба Торбінс! Ты больш варты насіць даспехі эльфійскіх прынцаў, чым многія з тых, каму яны пасавалі. Аднак сумняваюся, што Торын таксама так палічыць.

Здаецца мне, я значна больш ведаю пра гномаў, чым ты. Я б параіў табе застацца з намі, і мы будзем усяляк ушаноўваць цябе.

Дзякуй вам вялікі! Але ж я лічу, што не варта мне пакідаць сяброў вось так пасля ўсяго, што мы прайшлі разам. Ды я паабяцаў пабудзіць Бамбура апоўначы! Па праўдзе, мне трэба ісці, нават паспяшацца.

Добра зроблена! У табе заўсёды ёсць больш, чым ты сам сабе ўяўляеш!

Гэндальф! Я так рады цябе бачыць! Дзе ты ўвесь гэты час…

Усё ў свой час! Калі не памыляюся, прыгоды набліжаюцца да канца. Непрыемныя хвіліны перад табою, так, але ж не падай духам! Магчыма, усё павернецца да лепшага. Такія тут рэчы заварыліся, што і крумкачы пра іх не чулі. Дабранач!

Усцешаны, Більба паспяшаўся прэч. Апоўначы ён пабудзіў Бамбура.


Апоўдні гномы і хобіт ўбачылі сцягі гномаў і людзей з Возера.
Вітаю, Торын! Ты не змяніў сваё рашэнне?
Маё рашэнне не мяняецца ад таго, што некалькі разоў узыйшло і села сонца. Ці вы сабраліся задаваць тыя ж пытанні? Яшчэ эльфійскія харугвы не скіраваліся дамоў, як я патрабаваў. Без гэтага дарэмна вам прыходзіць сюды.


Хіба няма нічога ў свеце, за што б ты аддаў сваё золата?
Як наконт Аркенстона Трэйна?


Камень належыў майму бацьку і належыць мне. Чаму я павінен набываць сваё?
Як вы знайшлі галоўны скарб майго дома – калі такое ўвогуле можна запытваць у злодзеяў?
Я аддаў яго.


Ты! Ты! Ты мярзотны хобіт! Ты, маларослы.. узломшчык! Клянуся барадою Д'юрына! Ну, быў бы тут Тэндальф! Праклясці яму за такі выбар! Каб выпала яго барада! А цябе за гэтакі ўчынак я раструшчу аб каменне!


Спыніся! Тваё жаданне здзейснілася!
Вось табе Тэндальф! Ды ў час, як я бачу. Не рабі зла майму ўзломшчыку, калі ласка, нават калі ён табе не даспадобы. Адпусці яго ды выслухай.


Ці ж ты не сам прапанаваў мне выбраць маю чатырнаццатую частку? Магчыма, я надта літаральна зразумеў. І не так даўно, здаецца мне, ты думаў, што з мяне ёсць нейкая карысць. Я абыйдося з маёю часткай скарбаў па-свойму, ці ты не згодны?
Згодны.
За Аркенстон я дам чатырнаццатую частку скарбаў золатам ды срэбрам, без шляхетных каменняў. Але тое будзе лічыцца доляй здрадніка, з якой ён павінен быў пакінуць Гару. Дзяліце як пажадаеце.


Прэч! Кальчугі твае зрабіў мой народ, яна надта добрая для цябе, яе не праб'еш стралой, але – клянуся! – калі ты зараз жа не знікнеш з маіх вачэй, я прастралю твае калматыя ногі!
Як наконт золата і срэбра?
Тое потым, як і дамовіліся.


Да таго часу камень будзе у нас! Заўтра апоўдні мы вернемся ды праверым, ці адпаведная частка скарбаў падрыхтаваная для абмену. Калі ўсё будзе сумленна, мы развітаемся. А пакуль – да пабачэння!
Нядобра ты пачынаеш Каралеўства-Пад-Гарой, сябра мой Торын, аднак шмат што можа яшчэ змяніцца.

Прайшоў дзень, потым ноч. Наступным ранкам у лагеры зайгралі трубы.

Дайн прыйшоў.

Торын загадаў Раэку выслаць ганцоў да Дайна і распавесці таму пра здарэнні і папрасіць паспяшацца. Дайн з войскам ішоў безупынна ўсю ноч і з'явіўся значна раней, чым яго чакалі.

Мы прыйшлі ад Дайна, сына Найна. Мы спяшаемся да нашых родных, да Гары, бо пачулі, што былое каралеўства аднавілася. А хто ж вы такія, што паселі ўзброеныя пад сценамі, нібы ворагі?

Гномы мелі намер праціснуцца паміж ракой і Гарой, бо тая вузкая паласа зямлі падавалася зусім неабароненай.

Зразумела, Бард адмовіў гномам і да Гары прайсці не дазволіў. Ён цвёрда вырашыў чакаць, пакуль не пабачыць золата ды срэбра, прызначанага за Аркенстон. Не верылася, што тое будзе зроблена, калі Гару зойме такі вялікі ды ваяўнічы гарнізон. Тым больш што гномы прынеслі шмат прыпасаў з сабою. Іх бы хапіла на некалькі тыдняў, а там і іншыя гномы маглі прыйсці.
Пасля злых слоў гномы-паслы сышлі, з незадаволеным буркатаннем у свае бароды.

Бард паслаў ганцоў да брамы – але там ані золата, ані іншых каштоўнасцяў не знайшлі. Больш за тое, як толькі яны падыйшлі бліжэй, паляцелі стрэлы і яны кінуліся прэч.

Увесь лагер рыхтаваўся да бітвы, а гномы ўжо рушылі ўздоўж усходняга берага.

Дурні! Яны нічога не разумеюць у вайне на паверхні, які б досвед боек у пячорах ды шахтах яны не мелі! Трэба напасці на іх зараз жа з абодвух бакоў, пакуль яны яшчэ не адпачылі!

Лепей тройчы прамарудзіць, чым пачынаць вайну праз золата. Гномы не пройдуць, пакуль мы іх не прапусцім. Лепш усё ж спадзявацца на мірнае вырашэнне. Калі ж усё ж да бойкі дойдзе – нас нашмат больш.

Знянацку, без сігналу, гномы моўчкі кінуліся ў атаку. Пачалася бітва.

Але яшчэ больш раптоўна, з жахлівай хуткасцю на даліну і Гару навалілася цемра! Не вецер прынёс яе, яна прыляцела з Поўначы нібы неабсяжная драпежная зграя, што крыламі захінала святло.




З часу смерці Вярхоўнага гобліна Туманных Гор нянавісць гоблінаў да гномаў распалілася ў іх сэрцах у сапраўднае шаленства. Вестуны пабеглі паміж іхнымі гарадамі, калоніямі ды крэпасцямі, бо вырашылі яны назаўсёды дамагчыся вярхоўнай улады на Поўначы.

Потым яны даведаліся пра смерць Драка, радасць апанавала іх сэрцы, і памчаліся яны ўдзень і ўночы праз горы, пакуль, нарэшце, не прынесліся з Поўначы ледзь не на Дайнавым карку.

Адзінай надзеяй Рады было завабіць гоблінаў у даліну паміж паўднёвым ды ўсходнім адгор'ямі, а самім заняць вяршыні.

Але справы маглі пайсці кепска, калі б у гоблінаў хапіла ваярой пераваліць Гару і атакаваць абаронцаў ззаду ды зверху.

На паўднёвым адгор'і сталі эльфы.

На ўсходнім размясціліся людзі ды гномы.

Неўзабаве ар'ергард гоблінаў завірухай уварваўся ў даліну. Шмат адважных людзей загінула, стрымліваючы іх, аднак астатнія здолелі дабрацца да адгор'яў. Гоблінскія харугвы ды сцягі былі незлічонымі, іх войска цякло, нібы паводка, крышачы і ломячы ўсё на сваім шляху.

Гэта была жахлівая бітва.

Більба на самым пачатку насунуў пярсцёнак на палец ды знік – калі не ад небяспекі, дык з вачэй. Пярсцёнак такога кшталту ні стрэлаў, ні дратоў не спыніць, але ахераджэ ад выбару жвавым гоблінам тваёй галавы для свайго мяча.

Эльфы атакавалі першыя. Іх нянавісць да гоблінаў была падобная да халоднага, жорсткага полымя. Яны абрынулі на іх залеву стрэл, і кожная блішчэла ў палёце, нібы падпаленая злым агнём. За стрэламі тысяча дзідароў рушыла з-за скалаў і атакавала. Камяні адразу ж пачарнелі ад гоблінскай крыві.

Толькі гобліны ачунялі ад першага націску і спынілі рух эльфаў,, як з другога боку даліны пакаціўся магутны крык. Зароўшы "Морыя!" і "Дайн, Дайн!" гномы Жалезных Стромаў шалёна рушылі ўніз з іншага адгор'я з цяжкімі абухамі ў руках, а побач з імі – Азёрныя людзі з доўгімі мячамі.

Паніка ўсчалася сярод гоблінаў. Калі яны павярнулі, каб абараніцца ад новага нападу, эльфы атакавалі зноў. Здавалася, вось яна, перамога, але раптам з вышыні пачуўся кліч.

Гобліны перайшлі Гару, і ўжо шмат іх сабралося над Брамай, а іншыя памкнулі, як рака, уніз. Гобліны намерваліся атакаваць адгор'зверху! Надзея пагасла ў сэрцах. Бо стала відавочна, што стрымалі толькі першы націск чорнай навалы.

Час ішоў. У даліне зноў сабраліся гобліны. Туды ўварваўся і атрад мацнейшых Варгаў, а з імі разам – гвардыя Больга. Цяпер Бард цяжка біўся, каб абараніць усходняе адгор'е, і павольна, крок за крокам, адступаў. Эльфійскія ўладары біліся побач са сваім каралём, прыціснутыя да вартавога паста на Крумкачовай Строме.

Але ўсе забыліся на Торына!






















Калі Більба апрытомеў, побач не было нікога. Беднага хобіта калаціла, ён жудасна змерз, а галава гарэла агнём.
Дык што ж здарылася?


Перамога, у рэшце рэшт!
Гэй, прывітанне! Якія навіны?
Чый там голас чуецца сярод камення?


Вох! І нябачнасць мае свае недахопы! Інакш, можа быць, ноч я правёў бы прыемна на цёплым ды мяккім ложку.
Гэта я, Більба Торбінс, кампаньён Торына!


Добра што я знайшоў цябе! Мы доўгі час цябе шукалі, бо ты патрэбны. Я зазірнуў сюды ў апошні раз.
Ты паранены?
Здаецца, не, толькі атрымаў удар каменем па галаве. А паколькі мей шалом ды моцны чэрап, абышлося. Праўда, ногі не трымаюць.


Я данясу цябе да лагера ў даліне.


Торбінс! Неверагодна! У рэшце рэшт – жывы! Я нават хвалявацца пачаў, ці не здрадзіла табе твая ўдача! Цяжкія былі нашыя справы, ледзь не гібельныя. Але пра тое – пазней.
Зараз жа – заходзь. Цябе клічуць!


Вітаю, Торын! Я прывёў яго.

Бывай, добры хобіт! Я адыходжу ў залі чакання, каб сядзець побач з маімі бацькамі, пакуль свет не адновіцца.

Там, куды я іду зараз, няма патрэбы ў золаце ды каштоўнасцях. Я хачу ўзяць назад усе свае словы, якія казаў тады каля Брамы. І ўчынкі. Я хачу, каб мы развіталіся сябрамі.

Бывай, Кароль-Пад-Гарой! Горкі канец у нашай прыгоды. І нават гарой золата яго не выправіш. Аднак я ганаруся, што прайшоў праз небяспекі і жахі побач з табою – хоць я і не заслужыў таго гонару.

Не! У цябе больш дабрыні ды моцы, чым ты мяркуеш, жыхар далёкага добрага Захаду. І мудрасці, і мужнасці ў адпаведнай долі. Калі б большасць з нас шанавала добрую ежу, смех ды песні вышэй за золата, прыемней было б на свеце.

Але вясёлы свет ці змрочны – я павінен яго пакінуць. Бывай!

Тады Більба пайшоў прэч, самотны, потым сеў, захінуўшыся ў коўдру, ды плакаў, пакуль вочы не пачырванелі, а голас не ахрып. Добрая ён быў душа. І сапраўды, доўгі час прайшоў, пакуль ён сабраўся з сіламі хоць трошачкі пажартаваць.

Добра, што апрытомеў у час. Хоць хай бы Торын выжыў. Аднак і тое добра, што добра развіталіся.

Дурань ты, Більба Торбінс, дарэмна ты заварыў кашу з каменем, усё роўна бойка адбылася, хоць і намагаўся ты ўсё ўлагодзіць. Але наўрад ці варта сябе тут вінаваціць.

Пра ўсё, што адбылося падчас яго непрытомнасці, Більба даведаўся пазней.

Арлы даўно здагадваліся пра гоблінскія намеры і зборы, бо ад іх вачэй небяспечны рух цалкам схаваць цяжка. Таму яны, здалёк пачуўшы вялікую сечу, ураганам прымчалі да Гары – і своечасова! Яны і выбілі гоблінаў з горных схілаў.

Але нават з арламі абаронцаў было значна менш за гоблінаў. І тут, у апошнюю адчайную хвіліну з'явіўся Беарн – ніхто не ведае як і адкуль. З'явіўся ён адзін у выглядзе мядзведзя і здавалася, у шаленстве сваім вырас да памераў велікансkіх.

Рой ягоны гучаў як гром, ён ударыў у тыл гоблінскаму войску і раскідаў яго, як пер'е ды салому. Прабіўся да гномаў, падхапіў Торына, які ляжаў паранены дзідамі, ды вынес яго з бойкі.

Хутка Беарн вярнуўся. Шалёнства яго падвоілася, здавалася, аніякая зброя не можа яму пашкодзіць. Ён раскідаў гвардыю Больга, сцягнуў яго самаго на зямлю ды задушыў.

Тады роспач завалодала гоблінамі, яны пачалі разбягацца ва ўсіх напрамках. Убачыўшы гэта, гномы, людзі ды эльфы кінуліся наўздагон і няшмат іх ворагаў здолела ўцячы.

У песнях спяваюць, што тры чвэрці гоблінскіх ваяроў загінула ў той дзень, і доўгія гады пасля таго ў гарах было спакойна.

А дзе арлы?

Некаторыя палююць, але большасць вярнуліся да сваіх гнёздаў.

Яны адляцелі з першымі промнямі сонца. Даін узнагародзіў іх правадыра золатам і пакляўся ў вечным сяброўстве.

Жаль які. Я маю на ўвазе, я б хацеў зноў іх пабачыць. Можа, яшчэ сустрэну на шляху дадому.

А ці хутка мы дадому?

Як толькі пажадаеш.


На самой справе мінула яшчэ некалькі дзён. Яны пахавалі Торына глыбока пад Гарой, і Бард паклаў Аркенстон на ягоныя грудзі.
Няхай ляжыць тут пакуль стаіць Гара! І няхай гэты камень прынясе ўдачу і дабрабыт усяму ягонаму народу!


На магільны камень Кароль Эльфаў паклаў Оркрыст, эльфійскі меч, які аднялі ў Торына ў час палону. Песні кажуць, што ён пачынае свяціцца, калі набліжаюцца ворагі, так што на гномаву крэпасць немагчыма напасці знянацку.


А там цяпер валадарыў Дайн, сын Найна, менавіта ён стаў новым Каралём-Пад-Гарой.
З дванаццаці кампаньёнаў Торына засталося толькі дзесяць. Філі і Кілі загінулі побач з ім, бароначы яго тарчамі і ўласнымі целамі, бо ён быў старэйшы брат іх маці.


Мы шануем дамову, якую заключыў нябожчык, і ён цяпер мае Аркенстон ў сваёй уласнасці.
Зразумела, ніхто больш не казаў пра падзел скарбаў адпаведна з ранейшымі планамі. Аднак чатырнаццатая частка была перададзеная Барду. Той паслаў шмат золата Гаспадару Азёрнага Горада ды шчыра ўзнагародзіў сяброў і прыспешнікаў. А Каралю Эльфаў аддаў смарагды Гірыёна, якія даў Барду Дайн, бо Кароль любіў іх больш за іншае.


Багацце такое ж тваё, як і маё, хоць старыя дамовы і не маюць больш моцы. Але ж хоць ты і адмовіўся ад сваёй часткі, я не жадаю, каб злыя словы Торына, якія ён потым забраў назад, сталі праўдай. Ён казаў, што атрымаеш менш за ўсіх. Я ўзнагароджу цябе больш за ўсіх.
За тое я вельмі ўдзячны. Аднак я нават рады пазбавіцца ад узнагароды. Крый нябёсы, як мне давезці тыя скарбы дадому без вайны па дарозе? І што я буду з імі рабіць дома? Лепш ім застацца ў вашых руках.


У рэшце рэшт, хобіт згадзіўся ўзяць толькі дзве невялікія скрыні, адну з золатам, другую са срэбрам, такія, што здольныя везці здаровыя поні.
Бывай, Балін! Да пабачэння, Двалін, бывайце, Доры, Норы, Оры, Ойн, Глойн, Біфур, Бафур ды Бамбур! Няхай вашыя бароды ніколі не парадзеюць!
Бывай, Торын Дубатары! І Філі з Кілі! Няхай памяць пра вас заўсёды жыве!


Да пабачэння і шчасця табе, куды б ты не падарожваў. Калі ты зноў наведаеш нас пасля таго, як залі нашыя адновяцца, вось тады баляванне будзе на зайздрасць!


Калі надарыцца вам праяжджаць праз мае мясціны, заходзьце абавязкова! Вы заўжды жаданыя госці!


Эльфійскае войска рушыла дахаты. Хоць яно і паменшала, але многія з тых, хто засталіся жывымі, былі задаволеныя. Бо Пойнач зараз на доўгія гады зрабілася прыемным і мірным месцам. Цмок загінуў, гоблінаў перамаглі, а за зімой хутка прыйдзе вясна, поўная радасці. Так і рухаліся, пакуль не дабраліся амаль да межаў Ліхалесся. Там спыніліся, бо чараўнік і Більба мелі намер паехаць уздоўж паўночнага ўзлеску да пустэчы, што ляжала паміж лесам і пачаткам Шэрых Гор. Тым больш што Беарн меў намер ісці тым жа шляхам.


Бывай, Кароль Эльфаў! Няхай квітнеюць лясы, пакуль свет яшчэ малады!
І няхай квітнее твой народ!
Бывай, Гэндальф! Жадаю табе і надалей з'яўляцца там, дзе патрэбны найбольш, і дзе чакаюць найменш. І чым часцей ты будзеш з'яўляцца ў маіх залях, тым мне прыемней.


Я прашу вас прыняць мой падарунак.
Чым я заслужыў такую пашану, о хобіт?
Хм, э-э... мне трэба аддзячыць вашу гасціннасць. Я выпіў шмат вашага віна і з'еў шмат вашага хлеба. Нават узломшчык мае сваё сумленне.


Я прыму твой падарунак, о Більба Найвыдатнейшы Узломшчык! Ды наракаю цябе сябрам эльфаў. Усяго найлепшага! Няхай твой цень ніколі не паменьшае!


Шмат што адбылося, пакуль дабраліся – і непрыемнасцей, і прыгодаў. Дзіказем'е засталося Дзіказем'ем, і многа каго яшчэ там можна было напаткаць акрамя гоблінаў.
Урэшце рэшт, на палове зімы Гэндальф з Більба дабраліся да Беарнавай сядзібы і засталіся там адпачываць.
Беарн пазней стаў вялікім правадыром у тых мясцінах. Казалі, што многія пакаленні ягоныя нашчадкі ўмелі ператварацца ў мядзведзяў.


Ужо была вясна, калі Гэндальф з Більба, нарэшце, рушылі далей. Пасля доўгага падарожжа яны падняліся на той самы перавал, дзе калісьці іх напаткалі гобліны. Далёка-далёка, на самым даляглядзе, ледзь бачылася самотная Гара. На яе вяршыні яшчэ бялеў снег.
Было полымя, а цяпер снег – нават цмокаў час некалі сыходзіць!
Зараз я жадаю толькі хутчэй сесці ў сваё крэсла!

Першага траўня Більба і Гэндальф, нарэшце, дабраліся да Рывэндэла, Апошняга (ці, калі глядзець з гэтага боку, Першага) Прытулку на захад ад Гор.

Іх вельмі цёпла прывіталі, і было там вельмі шмат ахвотных паслухаць пра іх незвычайныя прыгоды.

Распавядаў Гэндальф, бо Більба, пад'еўшы, пачаў дзяўбсці носам і час ад часу засынаў. Тады ён і даведаўся, дзе ж прападаў Гэндальф.

Сталася, што ён быў на вялікай радзе белых чараўнікоў, майстроў добрай магіі, і што яны, нарэшце, здолелі выгнаць Некраманта з ягонага чорнага берлагу на поўдні Ліхалесся.

Цяпер ле надоўга будзе здаравейшы ды спакайнейшы. Поўнач вызваленая ад ліха, я спадзяюся, на доўгія, доўгія гады. Аднак лепш было б цалкам выгнаць яго з нашага свету!

Тое сапраўды было б добра, але ж я баюся, гэтаму не здарыцца ані ў нашу эпоху, ані ў мноства эпох пасля.

Хутка ўсялякая стома пакінула Більба ў тым цудоўным доме. Аднак і тутэйшае жыццё не захапіла хобіта надоўгі час, бо ён заўсёды думаў толькі пра свой дом. Праз тыдзень, развітаўшыся з Элрандам ды ўручыўшы яму падарункі, Більба з Гэндальфам паехалі прэч.

Так, добры ж тут травень! Мы павярнуліся спіной да легендаў ды вяртаемся дадому. Вось і першае прывітанне.

Перад намі яшчэ доўгі шлях.

Але ж тое апошняя дарога.

Кожны паварот дарогі нагадваў Більба пра падзеі, якія адбыліся год таму, а здавалася – дзесяць. Зразумела, хобіт хутка пазнаў месца, дзе поні ўваліўся ў раку і гномы збочылі з дарогі да жудаснай прыгоды з Томам, Білам і Бертам.

Побач з дарогай знайшлі і прыхаванае гномамі золата тролян, нікім не кранутае.

Ну, мне золата на мой век хопіць. Лепей ты вазьмі яго, Гэндальф. Здаецца, ты знойдзеш, як яго выкарыстаць.

Давай лепш падзелім парайну. Падаецца мне, што табе яно можа больш спатрэбіцца, чым ты думаеш.

Падарожжа пасля гэтага стала больш марудным: большую частку ішлі пехатою. Але мясцовасць навокал рабілася ўсё зелянейшая, травы было шмат, а па ёй хобіт ішоў з задавальненнем. Навокал было гарачае лета, сонца ззяла на ўсю моц.

Усё некалі сконьваецца, і вось урэшце надышоў дзень, калі яны ўзняліся на пагорак, адкуль была бачная родная Строма.

Няма скачэння для шляхоў
Заўжды ідуць далей –
Да земляў дальніх, гарадоў,
Да цудаў і людзей.

Няма скачэння для шляхоў,
Праз горы ды гады,
Але дамоў вярнуцца зноў
Нам суджана заўжды.

Даражэнькі мой Більба! Ты ўжо зусім не той хобіт, што быў раней!

Бацюхны! Што ж тут робіцца?

Більба вярнуўся якраз у разгар аўкцыёну! Велізарная чырвона-чорная аб'ява вісела на браме, паведамляючы, што дваццаць другога ліпеня спадарамі Хапунам ды Схавайсам будзе распрадавацца маёмасць нябожчыка спадара Більба Торбінса з Торбы-Пад-Стромай, Строма, Хобітан. Пачатак роўна а дзясятай гадзіне.


А ўжо набліжаўся час абеду, большасць рэчаў якраз паспелі распрадаць амаль за ламаны грош (як часцяком робіцца на аукцыёнах).
Більбавы сваякі Кайстра-Торбінсы нават вымяралі пакоі, прыкідваючы, ці памесціцца туды іх мэбля! Карацей кажучы, Більба палічылі мёртвым, і далёка не кожны быў узрадаваны пабачыць, што памыліўся.


Вяртанне спадара Більба Торбінса нарабіла шуму ва ўсім наваколлі: і пад Стромай, і за Стромай, і за Вадой-ля-Стромы. На гэта не забыліся ні праз дзень, ні праз месяц. Шмат часу мінула, аж пакуль Більба афіцыйна згадзіліся лічыць жывым. У рэшце рэшт, каб пазбавіцца дарэмных клопатаў, Більба выкупіў большую частку ўласнай мэблі. А вось мноства срэбных лыжак таямніча знікла...


А яшчэ ён страціў нешта большае за лыжкі – сваю рэпутацыю. Праўда, ён назаўжды застаўся сябрам эльфаў ды меў пашану ад гномаў, чараўнікоў і ўсялякага падобнага люду, але ж у суседскіх вачах ягонае становішча моцна пахіснулася. Фактычна, усе навакольныя хобіты лічылі яго дзіваком ці ўвогуле "пашкоджаным галавою" – за выключэннем пляменнікаў ды пляменніц з Хватавага боку, але іх бацькі не раілі з ім знацца.


Прызнаюся вам, Більба гэта не вельмі кранала. Ён быў задаволены сваім жыццём. Меч ён прыладзіў на сцяну. Кальчуга і шлем віселі на асобнай драўлянай раме ў залі. Золата ды срэбра разышліся пераважна на падарункі. Чароўны пярсцёнак ён трымаў у таямніцы, бо выкарыстоўваў, калі з'яўляліся непрыемныя госці.


Більба пачаў пісаць вершы ды наведваць эльфаў і, хоць амаль ніхто не верыў у ягоныя аповеды, наш хобіт жыў вельмі шчасліва да канца сваіх дзён, а іх ён пабачыў надзвычай шмат.

Аднойчы восеньскім вечарам праз колькі гадоў пасля, калі Більба сядзеў за сталом ды пісаў мемуары "Вандроўка туды ды назад, альбо Хобіцкая вакацыя" – яму пазванілі ў дзверы.

Гэта былі Гэндальф і гном, а гномам быў ні хто іншы, як Балін.

Заходзьце! Заходзьце!

Гаворка адразу ж пайшла пра мінулае. Більба запытаўся, як ідуць справы навокал Гары. Выходзіла, што вельмі добра. Бард адбудаваў горад у даліне, якую зноў абрабілі ды засеялі, і ранейшую пустэчу цяпер было не пазнаць. Увесну пайсюль спявалі птушкі, усё квітнела, а ўвосень збіралі багатыя ўраджаі ды святкавалі, ад душы весяліліся ды гулялі.

Адбудавалі і Азёрны Горад, ён стаў яшчэ больш багатым, чым раней. Добрае сяброўства паміж эльфамі, людзьмі ды гномамі ўсталявалася ў тых краях.

Новы Бурмістр мудрэйшы. І вельмі папулярны, бо, зразумела, менавіта ён лічыцца галоўнай крыніцай гарадской заможнасці. Людзі там складаюць песні пра тое, што у яго час сапраўды пацяклі рэкі золата.

А вось стары Бурмістр скончыў дрэнна. Бард даў яму шмат золата, каб той дапамог людзям з Возера, але ж Бурмістр быў таго чалавечага кшталту, які лёгка чапляе цмокаву хваробу. Вось ён захварэў на яе і збег у Пустэчу з большай часткай золата, а там памёр з голаду, кінуты сваімі прыспешнікамі.

Так што прадказанні старых песень усё ж нейкім чынам спраўдзіліся!?

Вядома! А чаму ж яны не павінны спраўдзіцца?

Ты ж не станеш сумнявацца ў прадказаннях ад таго, што сам дапамог ім стаць праўдай? Ты ж, спадзяюся, не лічыш, што ўсе твае прыгоды, хітрыкі ды ўцёкі адбыліся проста дзякуючы чыстаму шанцаванню дзеля твайго уласнага задавальнення?

Добры ты, спадар Більба Торбінс, і надта мне падабаешся, але ж ты ўсяго толькі вельмі маленькая постаць у неабсяжным Сусвеце!

Ну і ладачкі!

Канец.

